Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4727) 26 ліпеня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка сваім распараджэннем зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў, згодна з якім присуджаны заахвочванні 757 маладым юнакам і дзяўчатам.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку СССР Нані Брэгвадзэ з юбілеем. «Ваша творчасць — адна з самых яркіх старонак сучаснай эстрады. Дзякуючы цудоўнаму голасу і высокаму выканальніцкаму майстэрству Вы заваявалі заслужанае прызнанне ва ўсім свеце. Песні і рамансы ў Вашым выкананні гучаць асабліва шчыра і пранікнёна, з першых нот пакараючы сэрцы слухачоў», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з юбілеем таксама народную артыстку Расійскай Федэрацыі Ларысу Трухіну.

✔ Мінск і Пекін наладзяць абмен міжбібліятэчнымі рэсурсамі. Гэта прадугледжана падпісаным у Кітаі пагадненнем аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Пекінскай сталічнай бібліятэкай. Плануецца арганізацыя акадэмічных форумаў, умацаванне супрацоўніцтва ў бібліятэчнаінфармацыйнай сферы, а таксама правядзенне выставак уласных бібліятэчных калекцый і абмен літаратурай.

✔ Намінантаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2013 — 2014 гады сабралі ў Маскве. 23 ліпеня ім уручылі спецыяльныя дыпломы, якія сведчаць пра вылучэнне на атрыманне ганаровай узнагароды. Ад нашай краіны на прэмію намінаваныя народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча Міхась Дрынеўскі і народныя мастакі Беларусі Гаўрыіл Вашчанка ды Іван Міско.

✔ Алея гарадоў — сталіц Дня беларускага пісьменства — з'явіцца ў Быхаве. Дванацаты фестываль пройдзе ў райцэнтры 30 жніўня — 1 верасня. Прыедуць прадстаўнікі ўсіх 17 гарадоў, якія раней прымалі свята. Мяркуецца, што кожная дэлегацыя будзе задзейнічана ў пасадцы і адкрыцці памятнай алеі.

✔ Тэлеканал «Беларусь 2» запускае лінейку дзіцячага кіно. Першы фільм юныя гледачы змогуць убачыць 29 ліпеня. Да канца летніх канікул у эфіры пакажуць больш як 20 культавых стужак, створаных у савецкі перыяд. Распачнуць серыю казка «Варвара-краса, доўгая каса» (СССР), карціна «Вялікія прыгоды» (кінастудыя «Беларусьфільм») і фантастычны фільм для ўсёй сям'і «Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі» (СССР). Паказы будуць праходзіць у 10.00 па буднях.

✔ Сімвалам арт-праекта Zabor, які адкрыўся ў Магілёве 19 ліпеня, стаў лабірынт. Выстаўка 40 рэпрадукцый пяці сучасных беларускіх мастакоў, якую ўбачаць сёлета жыхары ўсіх абласных цэнтраў краіны, па традыцыі размесцілася на плоце. Месцам экспазіцыі ў Магілёве стаў стадыён «Спартак». Арт-праект Zabor упершыню быў прадстаўлены ў Мінску ў ліпені мінулага года, затым экспазіцыю паказалі ў Варшаве, пасля — у Віцебску і Гомелі. Арганізатарам выстаўкі ў Магілёве выступае інвестыцыйная кампанія «Зубр Капітал» пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.

Падрыхтавала **Ярына РЫТАМІНСКАЯ**




Аляксей Кузьміч «Стварэнне Мадонны», 1999 г.

# Святланосныя Мадонны

У кожнага часу — свая мадонна. Свая яна і ў кожнага мастака. Бо слова «мадонна» азначае «мая жанчына»...
З 15 жніўня па 15 верасня ў мінскай Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага будзе працаваць персанальная выстаўка «Святланосны лік Мадоннаў» вядомага беларускага мастака Аляксея Кузьміча. Арганізатары прадставяць каля васьмідзесяці жывапісных работ майстра. У асноўным, гэта вялікія палотны, тэматычныя работы, а таксама партрэты вядомых дзеячаў культуры і мастацтва.

Нарадзіўся Аляксей Васільевіч Кузьміч у Махро — вялікай і прыгожай палескай вёсцы на Брэстчыне. Дзяцінства прайшло ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Дзень яго нараджэння — 1 чэрвеня 1945 г. — запомніўся вяскоўцам вялікімі пажарамі, якія ўспыхнулі ад удараў маланкі. Казалі, што яго маці, Аляксандра Максімаўна, успрыняла іх як знак, які абяцаў сыну вялікую будучыню. Васіль Феадосьевіч, бацька Аляксея, памёр, калі хлопчыку было паўтара года, — франтавыя раненні...

Аляксей Васільевіч пачаў далучацца да мастацтва яшчэ з ранняга дзяцінства. Стрыечны брат Сцяпан, мастак-самавук, стаў яго першым настаўнікам. Трэба адзначыць, што маляваннем А. Кузьміч займаўся ў царкве, дзе бацька Сцяпана служыў святаром. Таму хлопчык ужо ў дзіцячым узросце наблізіўся да духоўнасці.

Найбольш яркія ўспаміны дзяцінства Аляксея звязаны з паважаным на вёсцы чалавекам, мастаком, сябрам бацькі Анатолем Рубановічам. Гэта быў сапраўды цікавы, высокаадукаваны (вучыўся ў Варшаве, Парыжы, Вене), шырокай культуры чалавек. Ад яго хлопчык упершыню пачуў імёны Тыцыяна, Веласкеса, Ван Гога, Рэпіна, Сурыкава, убачыў рэпрадукцыі іх карцін. Падоўгу стаяў і назіраў за тым, як працуе Анатоль Паўлавіч, прасіў растлумачыць незразумелае.

Заканчэнне чытайце на стар. 13

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# «Залаты Купідон». Напярэдадні

**Вылучаныя пераможцы літаратурнага конкурсу «Лепшы твор-2012». Імёны будуць абвешчаны падчас святкавання Дня беларускага пісьменства. А старшыня журы конкурсу Ігар Лапцёнак распавёў пра адметнасці сёлетніх спаборніцтваў.**

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

— За час уручэння «Залатога Купідона», з 2006 года, істотна павысіліся і колькасць удзельнікаў, і іх узровень, і, адпаведна, узровень патрабаванняў. Прэтэндэнты праходзяць густое сіта адбору. Праз абласныя арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі лепшыя творы трапляюць у нашы секцыі, потым 6 — 7 найлепшых (у паэзіі, прозе і дзіцячай літаратуры, астатніх — менш) разглядае журы і большасцю галасоў вылучае пераможцу.

Ёсць з чаго выбіраць, ёсць што параўноўваць. Гэта выдатна і разам з тым складана. Шмат залежыць ад густу членаў журы. Але ж гэта і ёсць людзі з густам і вялікім літаратурным вопытам, якія цудоўна разумеюць адказнасць выбару, неабходнасць кіравацца аб'ектыўнымі крытэрыямі. Таму абыходзіцца, як кажуць, «без бойкі».

Аб'ектыўныя крытэрыі ацэнкі прозы такія. Па-першае, цікавая фабула, змест. Да таго ж кніга павінна выхоўваць чытача. Калі гэта ёсць, але чытаецца «цяжкаватамарнавата», змест кнігу не ўратуе. Калі няма «выбуху» ўражання і ад зместу, і ад формы, няма за што прысуджаць прэмію. Менавіта так сёлета з прозай і адбылося.

Нягледзячы на тое, што тыражы паэтычных кніг падаюць (500 асобнікаў лічыцца за рэкорд), паэтаў становіцца не менш, а больш. Шмат новых імёнаў — у тым ліку з рэгіёнаў, у тым ліку маладых. З ацэнкай паэзіі — свае асаблівасці. Калі паэзія «чапляе»? Калі яна супадае з нашым настроем. Гэта суб'ектыўна, але і заканамерна: большая колькасць супадзенняў — большая колькасць галасоў.

Пра краязнаўцаў звычайна кажуць: «Кожны кулік сваё балота хваліць». Гэта і выдатна: да чаго ляжыць сэрца, тое пісьменнік добра апіша. Суб'ектыўнаасабістае перажыванне захапляе і прываблівае. Важна, аднак, каб кнігу чыталі не толькі жыхары таго ці іншага рэгіёна або мястэчка, але самае шырокае кола насельнікаў краіны (і нават замежжа). У якасці пераможцы абраны менавіта такі краязнаўчы твор.

Што да сатыры і гумару, кніг у гэтым кірунку традыцыйна няшмат: на конкурс вылучыліся толькі дзве. Адна з іх — шматгадовая плённая праца — стала пераможцай.

Таксама небагата перакладаў, але ёсць кніга, якая мае і палітычнае гучанне, здольная спрыяць культурным сувязям і асветніцкім мэтам.

Мала публіцыстыкі. Прыкладам, у савецкія часы яе было значна больш. Чаму мала пішуць? Цяжка сучаснаму пісьменніку быць надзённым і злабадзённым? Знайшлася, аднак, безумоўна цікавая публіцыстычная кніга, якая і стала лаўрэатам.

Апошнім часам з'яўляецца ўсё больш дзіцячых кніг на беларускай мове. Цяжкасць ацэнкі дзіцячай літаратуры — з-за рознага ўзросту яе адрасатаў: паспрабуйце параўнаць твор для падлеткаў з творам для дашкольнікаў. Таму варта глядзець на адпаведнасць шэрагу ўмоў: дзіцячая кніга павінна быць цікавай, сацыяльна значнай (мець выхаваўчую каштоўнасць) і добра аздобленай. Тое, што мы абралі, цалкам адпавядае гэтым крытэрыям.



Крытыка і літаратуразнаўства — балючая кропка ў нашым жыцці. Пра гэта шмат гаворыцца... Здаецца, падыход да крытыкі павінен быць класічны: Бялінскі і Дабралюбаў дапамагалі чытачу арыентавацца ў моры кніжных навінак — сёння патрэбнае тое ж самае. Кніга-лаўрэат даволі сур'ёзна падыходзіць да праблем беларускай літаратуры і ўяўляе сабой грунтоўную навуковую працу, таму будзе цікавай і спецыялістам, і шырокаму колу чытачоў.

Наконт драматургіі. Ацэньваліся творы, пастаўленыя ў 2012 годзе на сцэнах тэатраў Беларусі і Расіі або экранізаваныя і з прыхільнасцю ўспрынятыя грамадскасцю. Такім чынам, за пераможцу прагаласавалі не толькі мы, але і глядач — сваім рублём.

І, нарэшце, дадатак да літаратурных кірункаў — песенны жанр. Прэтэндэнты на прэмію — песні, якія цяпер «на слыху». Пераможцаў вельмі цікавы сучасны пісьменнік, паэт, кампазітар, выканаўца — бард, адным словам. Мы падтрымалі яго за шматграннасць таленту і з надзеяй на плённы творчы росквіт.

Увогуле, літаратурныя (і іншыя) конкурсы даюць магчымасць паглядзець навокал, адчуць, дзе мы знаходзімся, у якім свеце жывём. Даведацца пра новыя імёны, новыя вартыя творы, набыць падставы для нашага ўласнага духоўнага развіцця.

# Адзінства слоў і спраў



*Быхаўскі раённы аддзел абласнога ўпраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.*

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Да Свята беларускага пісьменства, якое пройдзе ў старажытным Быхаве, засталося 35 дзён. Як рыхтуецца горад да гэтай важнай падзеі? Пра гэта вялася гаворка на чарговым пасяджэнні рабочай групы арганізацыйнага камітэта па яго правядзенні, у якім удзельнічалі першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец, выканаўчы дырэктар арганізацыі Дня беларускага пісьменства Аляксандр Бяссмертны, прадстаўнікі іншых рэспубліканскіх і абласных арганізацый і ўстаноў. Яны прааналізавалі справаздачы кіраўнікоў і спецыялістаў райвыканкама, наведалі аб'екты, дзе вядуцца капітальны рамонт, рэканструкцыя, рэстаўрацыя, выказалі свае заўвагі, прапановы і пажаданні.

На сустрэчы таксама прысутнічалі прадстаўнікі гарадоў, якія былі ўганараваны стаць сталіцамі Дня беларускага пісьменства ў мінулыя гады. Адтуль у Быхаў прыедуць найлепшыя самадзейныя артысты і народныя майстры.

Адзначана, што да свята актыўна рыхтуюцца рэспубліканскія выдавецтвы. Напрыклад, Выдавецкі дом «Звязда» выпусціць багата ілюстраваныя кнігі «Быхаўшчына. Дыханне вякоў» і «Летопись города Быхов», а «Мастацкая літаратура» — «Быхаўшчына літаратурная».

**Газета «Літаратура і мастацтва» — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

# Касмічны экспанат

**У Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці, філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, прайшла прэзентацыя незвычайнага экспаната — макета спадарожніка, першага беларускага касмічнага апарата.**

**Святлана СТРОК**

Новы экспанат перададзены ў музей Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі. Макет у два разы меншы за спадарожнік, які знаходзіцца на арбіце. Пасля запуску апарата, які ўваходзіць у Беларускую касмічную сістэму дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі і створаны па заказе НАН Беларусі, наша краіна ўвайшла ў адзін шэраг з іншымі касмічнымі дзяржавамі свету.

Гэтая важная для беларускай касмічнай галіны падзея адбылася на касмадроме «Байканур» 22 ліпеня 2012 года. Айчынны касмічны апарат быў выведзены ракетай-носьбітам «Саюз» і разгонным модулем «Фрэгат» разам з расійскім спадарожнікам «Канопус-В» на арбіту вышынёй прыкладна ў 500 — 520 км. А ўжо 29 жніўня са спадарожніка пачалі паступаць першыя касмічныя здымкі. Апарат мае высокія дынамічныя характарыстыкі.

— Здымкі спадарожніка выкарыстоўваюць дзевяць беларускіх міністэрстваў, — распавёў кіраўнік апарата НАН Беларусі Пётр Віцязь. — У краіне створаная цэлая сетка паскоранага прыёму касмічнай інфармацыі і яе апрацоўкі ў практычных мэтах.

# Алгарытм для паясоў



Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Слуцкія паясы» плануе закупіць сёлета абсталяванне для вытворчасці копій слуцкіх паясоў. Яно будзе дастаўлена з Германіі. Над алгарытмам, які нарэшце дасць магчымасць наладзіць выпуск унікальных вырабаў, працавалі супрацоўнікі Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта.

Выпуск копій будзе наладжаны ў межах дзяржаўнай праграмы адраджэння тэхналогій і традыцый вытворчасці слуцкіх паясоў і развіцця вытворчасці нацыянальнай сувенірнай прадукцыі «Слуцкія паясы» на 2012 — 2015 гады. Урадам прынята рашэнне выдзеліць РУП «Слуцкія паясы» бюджэтную пазыку ў 3 млрд. руб. для закупкі шоўку, залатых і срэбных нітак.

Для вывучэння тэхналогій і тэхнік ткацтва, захавання народных традыцый на прадпрыемстве дзейнічае і развіваецца ўчастак ручнога пераборнага ткацтва. Летась тут набылі дзевяць адпаведных станкоў для вырабу сурвэтак, ручнікоў, паясоў, лялек, сувеніраў.

**Раіса МАРЧУК**

## Абрысы

Сёння, 26-га ліпеня, а 10-й гадзіне ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда» (Дом прэсы на Б. Хмяльніцкага, 10а, 5-ы паверх) адбудзецца прэс-прэзентацыя выдання «Скрозь «Маладосць». Не самая сумная кніжка пра грошы, чорны шакалад, пісьменнікаў і літаратуру», створанага да 60-годдзя часопіса. Калектыў рэдакцыі запрашае журналістаў і рэдактараў пазнаёміцца з кнігай, задаць пытанні і атрымаць на іх адказы. Святочнае выданне не стала звыклым наборам успамінаў былых супрацоўнікаў і рэдактараў часопіса, а здолела перадаць сапраўдную «маладосцеўскую» атмасферу. Да таго ж, гэтай кнігай аднаўляецца заснаваная ў 1988 годзе серыя «Бібліятэка часопіса «Маладосць».

Крыж, на якім, паводле падання, прыняў пакутніцкую смерць святы апостал Андрэй Першазванны, будзе дастаўлены ў Мінск 28 ліпеня ў 23.45 на ліцерным цягніку ў суправаджэнні дэлегацыі Эладскай (Грэчаскай) Праваслаўнай Царквы. Агульнахрысціянскую святыню змесцяць у сталічнай царкве апостала Андрэя Першазваннага на вуліцы Малініна, дзе яна будзе знаходзіцца да 7.30 29 ліпеня. У 8.00 таго ж дня крыж прынясуць на Замчышча, дзе Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл разам з кіраўнікамі і прадстаяцелямі памесных цэркваў адслужаць літургію. Пасля Андрэеўскі крыж будзе змешчаны ў храме-помніку ў гонар Усіх Святых на скрыжаванні вуліц Каліноўскага і Усіхсвяцкай, дзе застанецца да 2 жніўня.

Разам з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Кірылам у Мінск для ўдзелу ва ўрачыстасцях з нагоды 1025-годдзя Хрышчэння Русі 29 ліпеня прыедуць яшчэ сем прадстаяцеляў праваслаўных цэркваў свету. У Мінску чакаюць Патрыярха Александрыйскага Феадора, Патрыярха Іерусалімскага Феафіла, Патрыярха Грузінскага Ілію, Патрыярха Сербскага Ірынея, Архіепіскапа Кіпрскага Хрызастома, Мітрапаліта Варшаўскага Саву, Мітрапаліта Амерыканскага Ціхана. Ва ўрачыстасцях возьмуць удзел пастаянныя члены Свяшчэннага сінода Рускай Праваслаўнай Царквы, члены Сінода БПЦ. Усяго чакаецца больш як 80 архіпастыраў і 50 тысяч паломнікаў.

Прэзідэнцкая бібліятэка імя Б. М. Ельцына — першая расійская электронная нацыянальная бібліятэка — аб'явіла пачатак правядзення Міжнароднага фотаконкурсу "Погляд іншаземца / «Foreign View». Паўдзельнічаць у творчым спаборніцтве могуць усе жадаючыя фотааматары і прафесійныя фатографы незалежна ад узросту, грамадзянства і краіны пражывання. Дэвіз творчага спаборніцтва — «Мова ў зменлівым свеце». Работы будуць ацэньвацца па шасці намінацыях, сярод якіх — «Бессмяротнасць народа ў яго мове», «Пазнаючы іншага, пазнаеш сябе», «Навацыі і традыцыі» ды інш. Мэта конкурсу — пашырыць і ўмацаваць міждзяржаўныя сувязі, спрыяць міжнароднаму культурнаму і інфармацыйнаму абмену.

*За падзеяй*

# Грунвальд праз стагоддзі

Музейны комплекс «Дудуткі» ўпяты раз сустракаў рэканструктараў Сярэднявечча з Беларусі, Расіі, Украіны. Тут прайшоў фестываль славы беларускай зброі «Наш Грунвальд».

**Алена ЦІШЭЎСКАЯ**

Некалькі соцень аматараў мінуўшчыны на працягу двух дзён адраджалі старонкі слаўнай даўніны. Пешы і конны рыцарскія турніры, турнір збраяносцаў, лучнікаў, алебардыстаў, камандныя і масавыя баі, танцы, музыка, гульні, фаер-шоу — гэта далёка не поўны спіс таго, што можна было пабачыць. Дарэчы, галоўнай дзеяй фестывалю стала рэканструкцыя бітвы пад Грунвальдам, што адбылася 603 гады таму.

Значэнне Грунвальдскай бітвы ў гісторыі Беларусі, Польшчы ды і ўсёй Еўропы ў цэлым пераацаніць складана. 15 ліпеня 1410 года аб'яднаныя сілы Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага разграмілі сілы Тэўтонскага ордэна, тым самым паклалі канец больш як двухсотгадовай вайне і спынілі нямецкую агрэсію на шмат стагоддзяў наперад. Вынікам адной з самых маштабных бітваў сярэднявечнага свету стала змена расстаноўкі сіл на сусветнай арэне, а ВКЛ і Каралеўства Польскае выйшлі на першыя пазіцыі ў рэгіёне.

Рэканструкцыя бітвы прайшла ў суботу а пятай. Ёй папярэднічала даволі працяглая і дасканалая рэпетыцыя, што адбылася ў пятніцу. На змярканні з рыцарскага лагера збіраліся пакуль няўзброеныя ўдзельнікі. На полі будучай бітвы абіраліся камандуючыя, шыхтаваліся шэрагі войскаў…

Галоўнай дзеі фестывалю не перашкодзіла нават зменлівае надвор'е. Удзельнікі двойчы спрабавалі выйсці на поле — літаральна на паўшляху спыняў дождж. Але гледачы — дарослыя і дзеці — мужна трывалі пад парасонамі.

Крыжакі, велікакняжацкія і польскія ваяры, лучнікі-татары, розныя віды зброі, асадная тэхніка і артылерыя — усё як мае быць. Пад небам лунаюць харугвы і лётаюць стрэлы. У паветры гучыць звон зброі, чутны словы каманд. Пах мокрай зямлі, жалеза ды пораху нараджае адчуванне блізкай, сапраўднай вайны. На зямлі — адпаведныя манеўры, жорсткія баі, у траве — пераможаныя. Вынік Грунвальдскай бітвы, канечне, вядомы.



*Фота Аляксандра Доя*

*Падчас пешага парнага турніру рыцараў, што прайшоў у межах фэсту «Наш Грунвальд».*

Пасля рэканструкцыі адбыўся вялікі канцэрт, у якім узялі ўдзел вядомыя беларускія гурты *Gods Tower, Neuro Dubel, Litvintroll, Znich*.

Увогуле, зацікаўленых айчыннай гісторыяй як сярод удзельнікаў клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі, так і сярод гледачоў з кожным годам становіцца ўсё больш. Расце і ўзровень рэканструкцыі як вайсковай, так і свецкай сярэднявечнай культуры нашых продкаў.

# Вішнёвая сталіца запрашае

Паэтычна-песенная, маляўнічая Глыбоччына заўсёды адрознівалася неардынарным культурным асяроддзем.

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Гэта край знакамітых пісьменнікаў, майстроў мастацтва, якія нарадзіліся, выраслі, працавалі тут і сваёй творчасцю ўнеслі важкі ўклад у беларускую і сусветную літаратуру. Сярод іх — Тадэуш Даленга-Мастовіч, Клаўдзій Дуж-Душэўскі, Лявонцій Ракоўскі, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Драздовіч, Ігнат Буйніцкі і многія іншыя.




Штогод у раёне ладзяцца цікавыя фэсты, творчыя конкурсы, выстаўкі-кірмашы. А напрыканцы ліпеня тут адкрыўся першы ў Беларусі «Вішнёвы фестываль». Вішня — даўні сімвал раёна. Таму не выпадкова брэндам новаспечанай вішнёвай сталіцы стала манументальна-дэкаратыўная скульптура «Вішанька», урачыстае адкрыццё якой адбылося ў першы дзень фэсту. Яго сімвал — вішня — панаваў паўсюдна: на плошчах, вуліцах, танцавальных і сцэнічных пляцоўках, у кавярнях і крамах…

Спецыяльна да гэтага свята РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» падрыхтавала багата ілюстраванае выданне «Край мой Глыбоцкі». У ім апавядаецца пра гістарычную, культурную і прыродную спадчыну раёна, развіццё літаратурна-музычнага мастацтва, людзей, якія сваімі добрымі справамі памнажаюць багацце гэтага ўнікальнага кутка Віцебшчыны.

*Не праміне*

# Старонкі брэсцкай гісторыі

Нядаўна ўбачыў свет другі нумар Брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс». Змест гэтага выпуска вытрыманы паводле тэматыкі, акрэсленай у першым, пілотным, нумары. Аўтары альманаха імкнуцца і надалей асвятляць гісторыю рэгіёна і сучаснае жыццё праз прызму традыцыйнай культуры і народнай творчасці.

Менавіта пра гэта ідзе размова ў загалоўным артыкуле намесніка старшыні райвыканкама, куратара рэгіянальнага праекта «Астрамечаўскі рукапіс» Людмілы Жуковіч, якая ў сваіх палемічных нататках «Культурныя брэнды Брэсцкага раёна» разважае над актуальнымі праблемамі. Да прыкладу, што сёння значыць для сучаснікаў музычны зборнік XVII стагоддзя, які быў знойдзены беларускім навукоўцам Адамам Мальдзісам у Ягелонскай бібліятэцы Кракаўскага ўніверсітэта ў Польшчы і вядомы грамадскасці як «Астрамечаўскі рукапіс»? Як развіваць і падтрымліваць культурныя брэнды рэгіёна, сярод якіх — помнікі гісторыі і культуры, песенная, музычная творчасць продкаў і сучасных выканальніцкіх калектываў, узоры творчасці народных майстроў, а таксама наша знакамітае Астрамечава з не менш вядомым кіраўніком мясцовага СВК «Астрамечава» Аляксеем Скакуном? Роля і месца матэрыяльных і нематэрыяльных культурных каштоўнасцей — брэндаў Брэсцкага раёна — у стварэнні дадатковага іміджу рэгіёна, усёй Беларусі і інш.




Эксклюзіўныя матэрыялы друкуюцца пад рубрыкамі «Астрамечава і астрамечаўцы», «Чароўныя спевы і паданні спадчыны», «Маладое дрэва», «Старонкі гісторыі», «Кніжная зала», «Літаратурная сядзіба». Чытач зможа пазнаёміцца з тэкстамі абрадавых, вясельных песень, прыпевак, баек і легенд, прыказак і прымавак, якія краязнаўцы запісалі ў вёсках Брэсцкага раёна, з факсіміле (арыгінальны нотны запіс і тэкст) песні Ігара Лучанка «Назвалі хлопца Аляксеем» на словы брэсцкага паэта Міколы Панасюка, з сімволікай беларускага ткацтва і вышыўкі, расповедамі пра дзіцячыя творчыя калектывы — ансамбль юных цымбалістаў «Астрамечаўскія жаўрукі» і ўзорную студыю выяўленчага мастацтва «Калібры» Вістычскага СДК. Даведацца пра гісторыю станцыі Дубіца, «пабываць» на вечары, прысвечаным 255-годдзю Юліяна Урсына Нямцэвіча, у вёсцы Скокі ў музеі-сядзібе Нямцэвічаў, у кутку «Жывыя рэчы» Дамачаўскай пасялковай бібліятэкі, «папрысутнічаць» на творчым вечары паэтэсы Веры Пракаповіч з вёскі Чэрні, прайсці сцежкамі турыстычнага маршруту, прапанаванага Рэспубліканскім ландшафтным заказнікам «Прыбужскае Палессе»…

— У лепшы бок змяніўся і дызайн другога нумара альманаха, — распавёў рэдактар і складальнік «Астрамечаўскага рукапіса», брэсцкі пісьменнік і журналіст Аляксандр Валковіч. — Мяне радуе рэзананс у друкаваных і электронных СМІ, якія суправаджаў першы выпуск. Заўважаны мы былі нават сайтамі беларускіх дыппрадстаўніцтваў у Канадзе і Індыі. Такія ўвага і павага да традыцыйнай беларускай культуры, да нашага «Астрамечаўскага рукапісу» не могуць не ўзрушыць.

**Аляксандр ВАСІЛЬЕЎ**

---

Тэма сёлетняга XI Міжнароднага пленэру «Арт-Жыжаль» у Бабруйскім раёне — «Скульптура ў прасторы інтэр'ера». У дадатак да асноўных трох печак, дзе будуць апальваць вырабы, сёлета спецыяльна пабудавалі чацвёртую. Яе выкарыстоўваюць для вырабу навінкі форуму — вогненнай скульптуры. Гэта фігура памерам не менш як 1,5 м. Зверху з такой «лялькі» будуць выходзіць полымя і дым. У форуме бяруць удзел больш як 20 майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі і Малдовы. Разам з прызнанымі майстрамі ў пленэры ўдзельнічаюць студэнты навучальных устаноў культуры і мастацтва Беларусі і Украіны. Да 5 жніўня мастакі павінны стварыць па дзве работы. Многія з іх зоймуць ганаровыя месцы ў Бабруйскім гарадскім мастацкім музеі імя Г. Паплаўскага. Іншыя ўпрыгожаць фае гарадской бібліятэкі № 16.

Другі фестываль мастацтваў беларусаў свету пройдзе ў 2014 годзе. Плануецца, што асноўнай пляцоўкай правядзення форуму стане Мінск. Хоць не выключана, што свята ахопіць некалькі беларускіх гарадоў. «Мы робім стаўку на Мінск, паколькі для тых, хто ўпершыню прыязджае ў Беларусь, важна пазнаёміцца са сталіцай. Магчыма, будзем вывозіць фестываль і ў іншыя гарады. У гэтым выпадку будзем арыентавацца на правядзенне там буйных мерапрыемстваў, каб людзі не толькі сябе паказалі, але змаглі пераняць досвед іншых», — растлумачыў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў.

Прэм'ера дакументальнага фільма «Беларуская дыпламатыя. Першы міністр» адбылася ў Мінску. Карціна стала першай стужкай пра беларускую навуку міжнародных адносін. Фільм распавядае пра лёс першага міністра замежных спраў БССР Кузьмы Кісялёва. Рэжысёр карціны — Сяргей Агеенка. На прэзентацыі прысутнічалі міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, прадстаўнікі замежных устаноў і ведамстваў, генеральны дырэктар Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Алег Сільвановіч, а таксама дзеці Кузьмы Кісялёва.

Шэраг сумесных мерапрыемстваў з удзелам прадстаўнікоў нацыянальна-культурных грамадскіх аб'яднанняў Беларусі і Польшчы пройдзе 26 — 28 ліпеня ў Беластоку. Праграмай форуму прадугледжана і сустрэча кіраўнікоў нацыянальна-культурных аб'яднанняў. Плануецца, што 27 ліпеня ў Беластоку яны абмяняюцца досведам узаемадзеяння з органамі дзяржаўнай улады. У склад беларускай дэлегацыі ўвойдуць прадстаўнікі літоўскага, армянскага, грэчаскага, татара-башкірскага нацыянальна-культурных аб'яднанняў. Украінскую дыяспару Беларусі прадставіць музычны тэатр «Надзея» Каладзішчанскага сельскага Дома культуры Мінскага раёна. Запланаваны выступленні калектываў на міжнародным фестывалі «Актава культур» у Беластоку, а таксама на міжнародным фестывалі нацыянальных культур у Падляскім ваяводстве.



**Алесь Бельскі, вядомы беларускі літаратуразнавец, крытык і пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, нарадзіўся ў шчодрую ліпеньскую пару, у самы разгар лета. Сёлетні ліпень для майго сябра і калегі юбілейны — 50-гадовы, таму прыйшоў час агледзець жыццёвыя набыткі і творчы плён. А пражытыя гэтыя гады Алесем сумленна, годна. І напрацавана шмат. Радасна ўсведамляць, што ён у свой ліпеньскі поўдзень, гаворачы словамі Уладзіміра Караткевіча, «шчаслівы паўнатою сталай сілы».**

# Яго ліпеньскі поўдзень

Нарадзіўся Алесь Бельскі ў вёсцы Цімкавічы на Капыльшчыне. Арганічна ўвабраў маральна-этычны і духоўны вопыт сваіх бацькоў, сваякоў — частку агульнага досведу беларускага народа. Адзначым, што яго прадзед Сільвестр Бельскі закончыў Віленскі ўніверсітэт, быў удзельнікам паўстанняў 1830 — 1831 і 1863 — 1864 гадоў у Польшчы, Беларусі і Літве. З Цімкавіч і яго дзядзька — прафесар Фама Бельскі (1890 — 1952), вядомы беларускі і ўкраінскі вучоны ў галіне педагогікі і псіхалогіі. Прафесарам быў і яго стрыечны брат Георгій Яталь (1928 — 1998), вядомы ўкраінскі лінгвіст-паліглот, карані якога па матчынай лініі таксама з Цімкавіч.

З 1986 года, пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ, і па цяперашні час лёс Алеся Бельскага звязаны з роднай alma mater: Алесь Іванавіч — аспірант, выкладчык, дацэнт, загадчык кафедры даўніверсітэцкай адукацыі, дактарант. Абараніў кандыдацкую «Чалавек і прырода ў сучаснай беларускай паэзіі» (1991) і доктарскую «Пейзаж у беларускай паэзіі (эвалюцыя, паэтыка, сістэма вобразаў)» (1998) дысертацыі, з 2002 года прафесар. Яго кіраўніком і кансультантам быў выдатны вучоны і пісьменнік Алег Лойка. У 2000 — 2002 гадах Алесь Іванавіч узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, а ў 2006 — 2008 гадах працаваў галоўным навуковым супрацоўнікам гэтай установы. З 2001 года займае пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская мова і літаратура».

Алесь Бельскі выявіў сябе як удумлівы, глыбокі даследчык гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, праблем сучаснага літаратурнага працэсу, пытанняў індывідуальнага стылю, нацыянальнай спецыфікі мастацкага слова, развіцця сучаснай беларускай паэзіі, пра што сведчаць яго манаграфіі «Жывая мова краявідаў: Пейзаж у беларускай паэзіі» (1997), «Беларуская літаратура ХХ стагоддзя: гісторыя і сучаснасць» (2005), кнігі артыкулаў, нарысаў, эсэ «Пакуль баліць душа» (1995), «Экалогія душы» (2003), «Галасы і вобразы», «Літаратурацэнтрызм» (абедзве 2008), навучальных дапаможнікаў «Сучасная беларуская літаратура: Станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцей (80 — 90-я г.)» (1997), «Свет ад травы да зор: Беларуская паэзія: Сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу» (1998), «Краса і смутак», «Сучасная літаратура Беларусі» (абедзве 2000), «Класікі і сучаснікі ў школе» (2005). Ён адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» (т. 4, кн. 2, 2003). Навукова-творчы набытак Алеся Бельскага складае больш як пяць соцень публікацый, у якіх па-навуковаму грунтоўна і адметна асэнсаваны самыя розныя праблемы беларускай літаратуры, культуры, педагогікі. Яго працы вызначаюцца не толькі канцэптуальнасцю, але і высокай культурай выдання, дзе кваліфікавана пададзены крыніцы мастацкіх тэкстаў, спісы выкарыстанай літаратуры і інш.

Алесь Іванавіч — аўтарытэтны даследчык ролі пейзажу ў беларускай літаратуры. Ён грунтоўна прааналізаваў творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Дубоўкі, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка ды іншых выдатных пісьменнікаў, раскрыў пераемнасць мастацкіх традыцый, ахарактарызаваў праблему літаратурных пакаленняў. Даследчык па-грамадзянску смела і высокапрафесійна адстойвае эстэтычна-духоўныя каштоўнасці літаратуры і культуры, падкрэслівае іх вялікае значэнне для грамадства, выступае за беражлівае стаўленне да класікі, далікатна і клапатліва аналізуе сучаснае беларускае прыгожае пісьменства, вызначае яго асноўныя кірункі і тэндэнцыі развіцця. Выяўляючы добры эстэтычны густ і даследчанасць, разглядае беларускую літаратуру ў сусветным кантэксце.

Пра непаўторнасць і наватарства літаратуразнаўчай думкі Алеся Бельскага сведчаць і яго назіранні па заходнебеларускай літаратуры, і разгляд мастацкага свету паэтаў-песеннікаў Адама Русака, Авяр'яна Дзеружынскага, Алеся Ставера, Леаніда Пранчака, і даследаванне ролі шахмат у жыцці і творчасці беларускіх пісьменнікаў, і многія іншыя закранутыя ім тэмы і праблемы.

Алеся Бельскага непакоіць сучасны стан беларускай мовы, праблемы выкладання беларускай літаратуры ў сярэдніх і вышэйшых установах адукацыі. Ён асэнсоўвае актуальныя і найбольш важныя пытанні літаратурнай адукацыі на сучасным этапе, у сваіх развагах абапіраецца на асноватворныя традыцыі нацыянальнай педагогікі, выступае з пазіцый культурацэнтрызму і гуманізацыі навучання, паслядоўна праводзіць ідэю пра неабходнасць мэтаскіраванага фармавання ў сям'і і школе гарманічнай, духоўна паўнавартаснай асобы, чалавека з глыбока этычнымі перакананнямі і патрыятычным светапоглядам.

Пад псеўданімам Алесь Ветах піша прозу. Ён адзін з аўтараў калектыўных выданняў «Карані» (1994), «Вальс пад журлівымі таполямі» (2008), «У храме зямнога кахання» (2009), «Самая чароўная кветка» (2010), «Пакуль б'ецца сэрца…» (2013). Выдаў уласныя кнігі «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999, Літаратурная прэмія імя Івана Мележа 2000). Яго прозе ўласцівы гуманістычны змест і лірыка-драматычны пачатак (аповесць « Не памірай, надзея», раман у лістах «Хроніка смутку», апавяданне «Казанова з Амерыкі»), суровасць фарбаў і містыфікацыя (аповесць «Барак № 6»). Пісьменнік, засяроджваючы ўвагу на лёсе свайго пакалення, праўдзіва паказвае калізіі, кантрасты і парадоксы жыцця савецкага і постсавецкага грамадства. Лірычную манеру пісьма падсвечвае эпічным аповедам, стварае выразныя характары і перакаНаўчыя жыццёвыя сітуацыі, з пачуццём меры выкарыстоўвае дыялектызмы, жарганізмы, трапныя народныя словы і выразы. Думаецца, што Алесь Ветах у паказе чалавека і грамадства плённа развівае традыцыі свайго славутага земляка Кузьмы Чорнага.

Алесь Бельскі — суаўтар праграм па беларускай літаратуры для сярэдняй школы і вучэбных праграм для ўстаноў вышэйшай адукацыі, навучальных дапаможнікаў «Беларуская літаратура: ХІ — ХХ стст.» (1999, 2-е выд. — 2001), «Беларуская літаратура, 5 клас» (2002, 2003), «Беларуская літаратура, 6 клас» (2010), «Беларуская дзіцячая літаратура» (2008), Беларуская літаратура, 10 клас», «Беларуская літаратура, 11 клас» (абодва 2009) і інш.

У якасці ўкладальніка Алесь Іванавіч працаваў над зборнікам «Творы» Янкі Журбы (1993, 2011), кнігай твораў беларускіх паэтаў пра чарнобыльскую трагедыю «Зорка Палын» (1993), аб'ёмным выданнем у трох кнігах «Скрыжалі памяці: З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны» (2005), бібліяграфічным даведнікам «Навукоўцы кафедры беларускай літаратуры ХХ стагоддзя БДУ» (1999), зборнікам «Імёнаў светлае аблічча» (2002), у які ўвайшлі артыкулы, эсэ, вершы навукоўцаў і выкладчыкаў філалагічнага факультэта БДУ пра былых калег Алеся Адамовіча, Сцяпана Александровіча, Варлена Бечыка, Міколу Грынчыка, Сяргея Гусака, Міхася Ларчанку, Івана Мележа, Юльяна Пшыркова, Рыгора Семашкевіча, Леаніда Царанкова. Ён жа падрыхтаваў зборнік гумару кафедры беларускай літаратуры ХХ стагоддзя БДУ «Смяяцца не грэх» (2002), выданні «Жыццё, аддадзенае навуцы і Радзіме: зборнік артыкулаў пра міколага П. Яталя» (2011; у суаўт.), «І прызванне, і лёс: жыццё і дзейнасць вучонага-педагога прафесара Ф. А. Бельскага» (2012) і інш.

З 1998 да 2006 года Алесь Бельскі працаваў вучоным сакратаром савета па абароне дысертацый па літаратуразнаўстве, некалькі гадоў быў намеснікам старшыні савета па абароне дысертацый па педагагічных навуках пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Сёння ён працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова», уваходзіць у рэдакцыйныя калегіі Збораў твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах і Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах.

Неяк падчас размовы Алесь пацікавіўся, як у нас на Мастоўшчыне называецца драўляная сагнутая штука, што мацуецца пасярэдзіне касільна ў касе. «Кулька»! А ў іх на Капыльшчыне — «лучок». Хутка Алесь на кірмашы ў Слуцку купіў два «лучкі». Адзін з іх падарыў мне — замест майго, зламанага… І як прыемна было пазней у яго цудоўным апавяданні «Лучок» знайсці слова «кулька».

Узорнымі падаюцца Алесевы справаздачы, вучэбна-метадычныя комплексы. У БДУ ён плённа працягвае традыцыі сваіх настаўнікаў і папярэднікаў. Студэнты паважаюць Алеся Іванавіча за прафесіяналізм, апантанасць літаратурай, шчырую аддадасць сваёй справе, дэмакратызм, інтэлігентнасць і тактоўнасць.

Даверлівы, шчыры, летуценны і рамантычны, Алесь Бельскі бескампрамісны і паслядоўны ў адстойванні важных для яго прынцыпаў і жыццёвых перакананняў!

**Анатоль ВЕРАБЕЙ**

# Для ўсёй сям'і




**Адметнай з'явай у дзіцячай літаратуры бачыцца кніга Паўла Саковіча «Князь-карась». Яе склалі вершы, казкі, загадкі, усмешкі-пацешкі, абразкі, баечкі, героі якіх — звычайныя хлопчыкі і дзяўчынкі, казачныя жывёлы і птушкі, нават Ветрык і Скразняк. З усімі імі здараюцца часам дзіўныя, а то і смешныя гісторыі.**

Шматлікія чытачы і калегі аўтара адзначаюць, што Павел Саковіч добра зарэкамендаваў сябе ў розных жанрах у паэзіі і прозы. Яго яркія, вобразныя, запамінальныя творы вызначаюцца пазнавальным зместам. Яны прасякнутыя любоўю да прыроды, падсветленыя досціпам, гумарам.

Узяць, да прыкладу, верш, загаловак якога даў назву ўсёй кнізе, — «Князь-карась». Чытаеш і быццам бачыш насамрэч, як:

*На дне разгульвае карась*
*Ва ўсім бліскучым, быццам князь.*
*І пёркі флікерам гараць —*
*Вачэй ніяк не адарваць.*

Вершам П. Саковіча ўласцівы лёгкасць, прастасць, дакладнасць, у творах заўважаецца цяга аўтара да фанетычных сродкаў выразнасці. Зачароўвае гукавая магія многіх вершаў («Фядот і чорны кот», «Антонавы антоны», «Папялушка і цялушка» і іншыя). Не забывае пісьменнік і пра выхаваўчы момант: «...Бо кот стары, па ўсім відаць, а старасць — трэба паважаць!»

Аўтар арыгінальна паказвае малюнкі прыроды («Гарэзлівы маладзічок») і адначасова вучыць дабрыні, спагадзе, міласэрнасці.

Не пакінуць раўнадушнымі юных чытачоў і вершаваныя казкі, змешчаныя ў раздзеле «Калючы дабрадзей», узнімуць настрой усмешкі-пацешкі ў раздзеле «Зайчыкавы імяніны».

Пісьменнік прапануе чытачам і разнастайныя празаічныя творы: традыцыйныя казкі, казкі-загадкі, казачныя былі (да прыкладу, цудоўны твор — быль «Як з'явілася дарожная «зебра»»), абразкі, баечкі ў прозе. Трэба адзначыць вобразнасць мовы не толькі ў паэтычных, але і ў празаічных радках П. Саковіча: «...здаля белыя купы дрэў нагадалі воблакі, якія селі адпачыць каля іхняй хаты» («Самы-самы смачны яблык»). Мастацкія дэталі ў творах дапамагаюць больш яскрава ўявіць сабе прадмет або дзеянне. Казачныя апавяданні абуджаюць фантазію чытачоў, сур'ёзнае, пазнавальнае пераплятаецца з казачным, міфічным. Па творах пісьменніка дзеці будуць спасцігаць прыгажосць навакольнага свету, адкрыюць для сябе шмат цікавага і карыснага.

Тэксты дапаўняюцца цудоўнымі каляровымі ілюстрацыямі мастачкі Марыі Лось. Адрасавана кніга дзецям малодшага школьнага ўзросту, аднак яе будзе прыемна чытаць і ўсёй сям'ёй.

**Міхась СЛІВА**

# Час збіраць камяні



**Алена КАРП**

«Курс на традыцыю», што трымае часопіс «Полымя», відавочны, напэўна, для кожнага чытача. Тым больш, рэдакцыя раз-пораз пацвярджае сваю прыхільнасць не толькі выбарам твораў для публікацыі, але і праграмнымі заявамі. Так, чэрвеньскі нумар адкрываецца падрабязнай справаздачай з «круглага стала» «"Полымя": тысяча крокаў у будучыню», на якім былі абмеркаваныя гісторыя, сучаснасць і перспектывы выдання. Натуральна, не абмінулі ў размове і традыцыю як надзейны арыенцір і паратунак у моры безгустоўнасці. Гэта ўсё зразумела, але дзіўна, як у падобных абмеркаваннях ігнаруюцца вельмі простыя і тым не менш непапулярныя рэчы. Чамусьці рэдка згадваецца, што традыцыя ўсё ж дапускае крок улева-ўправа і не замінае наватарству, што яе варта было б развіваць, а не паразітаваць на гатовым матэрыяле. Бо, па-першае, бяздумнае эпігонства не на карысць класічнай спадчыне, па-другое, тое, што цяпер лічыцца класікай, калісьці было якраз-такі смелым наватарствам, выхадам за межы. Таму не варта баяцца новага і рабіць з яго пудзіла, гэтаксама як не варта рабіць з традыцыі бязмоўнага ідала. Што б ні выбраў творца — авангард ці традыцыю, — на яго шляху будуць і страты, і здабыткі.

Здабыткі дэманструе Віктар Гардзей паэмай «Ледавік». Ува ўсіх сваіх творчых іпастасях — паэт, празаік, публіцыст, мудры настаўнік многіх літаратараў-пачаткоўцаў — пісьменнік выступае яшчэ і як асветнік. Так, маленькія чытачы з задавальненнем вывучаюць рэдкія, ахоўваемыя віды нашай флоры і фаўны па «Малой дзіцячай Чырвонай кнізе», а дарослыя спазнаюць родны край па шматлікіх публікацыях Віктара Гардзея. Гэта ўсяго некалькі прыкладаў. Аднак і яны, і новая паэма дазваляюць казаць, што асветніцкая місія паэта мае на ўвазе не толькі перадачу інфармацыі, але і ўздзеянне на пачуцці, на душу чытача, прычым уздзеянне тонкае, далікатнае. Шмат хто грашыць баявымі лістоўкамі і інструкцыямі да дзеяння. Віктар Гардзей згадвае, разважае і свайму чытачу пакідае магчымасць самастойна шукаць адказы:

*Душы збалелай трэба абярэг,*
*Дык на адзенне «флікераў» нашылі.*

У паэме «Ледавік» арганічна паяднаныя гістарычны сюжэт і рэфлексіі героя, у якіх акрэсліваюцца яго этычныя перакананні і светапогляд. Гістарычны сюжэт распадаецца на два складнікі: Старажытны Рым (даволі экзатычны, нетрывіяльны выбар) і родная вёска Малыя Круговічы. Прычым, сусветная гісторыя не засцяняе нацыянальную, цэнтр даўняй імперыі роўнавялікі беларускай вёсачцы. Паэма мае тры планы: агульначалавечы, нацыянальны, індывідуальны. І апошні кожны прачытае так, як падкажа ўласны досвед. У залежнасці ад узросту чытач выбера «сваё» ў насычанай сэнсамі паэме, у залежнасці ад перажытага больш ці менш паспагадае герою:

*Адзін ёсць камень — я не падыму,*
*І гэты камень у мяне на сэрцы.*

Змястоўнай атрымалася і публіцыстычная частка чэрвеньскага нумара. Так, вартая ўвагі навуковая публікацыя Дзмітрыя Аўчарова «Вавілонскі след (актуалізацыя іудзейска-хрысціянскай традыцыі ў мастацкай прозе малых форм)». Прыемна, што літаратуразнаўца не ігнаруе творчасць маладых аўтараў, такім чынам дэманструючы шырокае кола зацікаўленасцей: ад біблейскіх тэкстаў да класікі рускай літаратуры і найноўшага прыгожага пісьменства Беларусі.

Ганад Чарказян прапануе ўвазе чытача свае ўспаміны пра Петруся Броўку «Незабыўны Пятрусь Усцінавіч…». Напісаныя са шчырай любоўю, павагай і ўдзячнасцю, яны па-свойму дапаўняюць корпус прысвечаных паэту тэкстаў.

Апублікаванае ў нумары выступленне Міадрага Сабінавіча на прэзентацыі кнігі «Антологија белоруске поезије» «Струны пявучыя душы беларускай» сведчыць пра пашырэнне культурных сувязей, плённы дыялог паміж сербскай і беларускай літаратурамі. А з артыкулам «Эпас пра пчол і мёд» будзе карысна пазнаёміцца не толькі тым, каго займае бортніцтва і яго традыцыі, але і тым, хто цікавіцца гісторыяй юрыспрудэнцыі.

# Супастаўленні



**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Шосты нумар «Нёмана» распачынаецца гістарычнай аповесцю Алега Ждана «Беларусцы». Твор складаецца з трох частак: «Скандал у вялікім пасольстве» — расповед пра падарожжа пасольства Рэчы Паспалітай у Маскву, «Цароў град» — апісанне Трубяцкой разні ў Мсціслаўле, «Падарожжа» — гісторыя кахання Ульяніцы і Сцяпана — майстра па кафлі, які з маскоўскага палону выправіўся ў родны горад па нявесту. Першая частка напісаная ад імя пісара — гэта «дзённік Пятра Вяжэвіча, стольніка і падкаморыя мсціслаўскага, запісаны сённяшнімі словамі». Руска-польскую вайну (1654 — 1667) пісьменнік бачыць то вачыма князя Трубяцкога, якога цар выправіў супраць «врагов Божиих и наших» (каталікоў ды ўніятаў), то назірае за падзеямі нібы зверху і вылучае з натоўпу ўзрушаных мсціслаўцаў ваяводу, бурмістра, цесляра ды божага чалавека Андруху. Раздзелы аповесці з'яўляюцца ў значнай ступені аўтаномнымі: расповед пра пасольства і прыгоды Сцяпана Паўбеса аб'яднаныя толькі часам дзеяння і паходжаннем герояў.

У мемуарах XVII стагоддзя вельмі здзіўляе стрыманая канстатацыя забойстваў, злачынстваў, гвалту, нібыта нейтральнае стаўленне да несумленнасці, нясхільнасць шукаць прычынна-выніковыя сувязі, тлумачыць цяперашняе мінулым. Гэтыя ж рысы ўласцівыя аповесці А. Ждана, прычым не толькі першай часткі. Зрэшты, ці патрэбныя доўгія разважанні, калі чытач сам здольны супаставіць факты, і навошта доўгія пасажы, прасякнутыя абурэннем ці скрухай, хіба словы *вайна, пажар, смерць* маюць недастаткова важкі сэнс?

Проза нумара прадстаўлена таксама апавяданнямі Жанны Міланові і Наталлі Шамяткоевай. Творы Н. Шамятковай — з адухаўленнем гітары, восенню, зімой і вясной як алегорыяй чалавечых пачуццяў — нечым падобныя да казак Х. К. Андэрсена. Гэтыя прыгожа напісаныя, паэтычныя навелы прыкметна адрозніваюцца ад апавяданняў Ж. Міланові, дзе сюжэтам з'яўляюцца адметныя выпадкі з жаночага жыцця, пра якія можна часам загадкава, а часам са смехам распавядаць сяброўцы па тэлефоне ці за гарбатай.

Проза трэцяй аўтаркі — дацкай пісьменніцы Хэле Хэле — правакуе параўноўваць пра жаночую прозу і доўга шукаць адрозненні паміж тэкстамі. Як і ў апавяданнях, у рамане «Гэта варта было напісаць у цяперашнім часе» ёсць стасункі з мужчынамі і адзінота, матэрыяльная ўладкаванасць і адчуванне няўтульнасці, там і тут гатуюць, прыбіраюць, задумліва аглядаюць адзенне. Але калі ў «Супадзеннях» Ж. Міланові няўтульнасць мае звыклую падставу — адсутнасць сапраўднага кахання, — то ў выпадку Дортэ прычын шмат і разабрацца ў іх больш складана. Галоўная гераіня рамана не схільная да абагульненняў і філасофскіх роздумаў, яна пазбягае слоў з адцягненым, абстрактным значэннем, але фіксуе ўсе дробныя здарэнні і маласэнсоўныя рэплікі, выхоплівае асобныя дэталі, дзеліцца нібыта нязначнымі ўспамінамі. За дзённікамі-маналогам Дортэ стаіць праблема самаадчування сучаснай еўрапейскай моладзі, і галоўная розніца паміж аўтаркамі — ва ўзроўні самастойнасці і канцэптуальнасці.

Паэзія Вячаслава Казакевіча трымаецца на супастаўленнях і супрацьпастаўленнях, для яе ўласцівая метафарычнасць, арыгінальнасць высной і падагульненняў. Галоўная тэма большасці вершаў — няспынная хада часу, заўсёдны рух ад незабыўнага мінулага да сталасці, дзе ўсё чым далей, тым больш недарэчнымі здаюцца аптымізм, мэтанакіраванасць і вера ў Сінюю Птушку.

У вершах Наталлі Дзевы ўзнёсласць, часам цяжкаватая ўрачыстасць ураўнаважваюцца іроніяй, своеасаблівай разняволенасцю, незаціснутасцю ў межы паэтычнай лексікі. Для твораў на сацыяльныя тэмы ўласцівае адчуванне сучаснасці як катастрофы, рэгрэсу ці, прынамсі, таптання на месцы, а вершы асабістыя, камерныя адрозніваюцца вытанчанасцю і выкшталцонасцю. Асабліва ўдалым атрымаўся верлібр «Да НББ», велічны і адначасова сучасны: «…Там перакрёсток Солнца, / Уходящий / Лучисто в необъятный Храм Вселенной. / Я в нём тону, / Дивясь, преображаясь, / Вливаясь в русло / Свежих информаций… / И этот путь длиннее нашей жизни».

Між іншых матэрыялаў «Нёмана» варта адзначыць надзвычай карысны тэкст Ірыны Шауляковай «"Рацыянальная этыка" для роднай літкрытыкі», азнаямленне з якім было б вельмі пажаданым для кожнага ўдзельніка літаратурнага працэсу.

# Ад Быкава — да «COSMOpoLITan-exPRESS»



**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» прытрымліваецца тактыкі, скіраванай на паступовае змяненне фармату выдання і пашырэнне яго аўдыторыі. Таму ў чэрвеньскім нумары сустракаюцца як публікацыі ў традыцыйным фармаце, так і тыя, што прадстаўлены ў новых рубрыках.

Паўныя праблемы, уласцівыя празаікам-пачаткоўцам, выразна бачныя на прыкладзе аповесці Яўгеніі Руль «Па той бок шыбы». Цудоўна, што аўтар адмовілася ад тэм, якія найчасцей сустракаюцца ў прозе маладых аўтараў (кшталту першага спаткання, нешчаслівай гісторыі першага кахання і г. д.). Галоўная дзейная асоба, Ева, трапляе з дэпрэсіяй у псіханеўралагічны дыспансер. Здавалася б, гераіня з'яўляецца цяжкахворай: дзяўчына перaлічвае доктару дзесяць уласных дыягназаў. Але, на шчасце для аўтара, аповесць напісана цалкам здаровым чалавекам, які не змог увасобіцца ў хворую дзяўчыну і перадаць яе самаадчуванне, пераходы ад надзеі да адчаю і наадварот (адзінае выключэнне — калі аўтар апісвае пагаршэнне настрою ў Евы пасля Новага года). Таму загадчыца аддзялення Наталля Сяргееўна абсалютна мае рацыю, калі кажа: «Ева, у каго, а ў вас дэпрэсіі не было і цяпер дакладна быць не можа. Вы ж самая вясёлая ў нашым аддзяленні». У выніку дні, праведзеныя ў дыспансеры, паўстаюць на старонках аповесці дастаткова мілым баўленнем часу.

Выклікае добрую ўсмешку і сцэна, калі Ева ўпершыню знаходзіць узаемаразуменне з бацькамі. Тыя забіраюць дзяўчыну з дыспансера і разам наведваюць мастацкі музей. Бадай, можна заплюшчыць вочы на пэўны ідэалізм сітуацыі (бацька Евы, якога зацікавіў жывапіс, выказвае «свае меркаванні наконт стылю мастака і выкарыстаных фарбаў»), калі не ўлічваць, што падзеі адбываюцца… 1 студзеня. А як жа выхадны? Наогул, празаічныя здольнасці ў Я. Руль, безумоўна, маюцца. Але ці рэалізуе яна свой талент напоўніцу, залежыць толькі ад яе.

Адным з лепшых матэрыялаў нумара, безумоўна, з'яўляецца эсэ Ціхана Чарнякевіча «Васіль Быкаў. Адзінота і свабода». Як прызнаваўся сам аўтар, у крытыцы ён паступова дрэйфуе да навукі, а ў навуцы «прыкладае ўсе намаганні, каб выбрацца з цянётаў бягучкікрытыкі». Але, на радасць шырокай аўдыторыі, дрэйф не завёў аўтара ў глыбокі акадэмізм. Тэкст Ц. Чарнякевіча можа назваць адным з надзвычай удалых прыкладаў «залатой сярэдзіны», калі фундаментальныя тэзісы і глыбокія навуковыя развагі пададзены ў даступнай для чытача форме. А найлепшыя цытаты літаральна просяцца ў нататнік: «Адрознасць і тая навізна, якую праявіў Быкаў у адмаўленні эпічнай карціны ў мастацкай прозе. З тым разлікам, вядома, каб менавіта праз асобнага чалавека, адзінкавую з'яву, індывідуальнасць паказаць іншы бок эпічнасці — бяздонны калодзеж чалавечай душы і яе лёсу на шахматнай дошцы гістарычнага часу.

Спалучанасць з гісторыяй кожнага асобнага чалавека ў часе вайны (неістотна — франтавой, партызанскай альбо ўнутранага спаборніцтва «чорных варанкоў») давала той жа эпічны эфект, якога марна хацелі дасягнуць стваральнікі дылогій, трылогій, тэтралогій і пенталогій».

Аксана Бязлепкіна і Уладзімір Капцаў прапанавалі чытачам артыкул «Фабрыка пісьменнікаў», прысвечаны кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ і спецыяльнасці «Літаратурная работа (творчасць)». Лёгкі, няпафасны аповед акрэслівае маштаб даследаванняў, ажыццёўленых супрацоўнікамі кафедры. Наогул, знаёмства з тэкстам выклікае лёгкую зайздрасць і шкадаванне, што сам не меў да кафедры і спецыяльнасці дачынення.

Акрамя таго, «Маладосць» прэзентавала новы праект «COSMOpoLITan-exPRESS», у якім Наташа Басалай ажыццяўляе літаратурную вандроўку па Парыжы. Гэтым разам чытачы даведаюцца, у якіх мясцінах жылі славутыя мушкецёры з рамана Аляксандра Дзюма. Але ў часопісе змешчана толькі частка падарожжа. Тады як па астатнія падрабязнасці вандроўкі, ды яшчэ аздобленай ілюстрацыямі, рэдакцыя прапануе звяртацца да электроннай версіі. Цудоўны маркетынгавы ход! Тым больш што сайт «Маладосці» істотна змяніўся і, калі параўноўваць яго са старонкамі іншых дзяржаўных літаратурных часопісаў, выглядае ў сеціве найлепшым чынам.



## Віктар ШНІП

* * *

*Я прыбіты крыжамі да роднай зямлі,*
*У якой мае мама і тата ляжаць,*
*Да якой і яны тут прыбіты былі*
*І не змог іх ніхто ад зямлі адарваць,*
*Над якой маладзік, як да Бога каўчэг,*
*Адзінока й спакойна*
*праз вечнасць плыве.*
*Я па снезе іду, і са мной плача снег*
*І знікае, як грэх, з мяне снег у царкве,*
*Дзе малюся ізноў за бацькоў і дзядоў,*
*Каб яны для мяне не знікалі, былі,*
*Як ёсць Вера, Надзея, Каханне, Любоў…*

*Я прыбіты крыжамі да роднай зямлі….*

* * *

*У нябёсах зоркі мые мама,*
*Поўню праціраe, як ліхтар.*
*Бацька не ляпуецца таксама,*
*Бацька і ў нябёсах — гаспадар.*
*На бацькоў гляджу я і сумую,*
*Бо яны не вернуцца дамоў*
*Ні ў вясну, ні ў восень залатую,*
*Толькі мне прыходзіць да крыжоў,*
*Ад якіх бацькі свае дарогі*
*Пачалі ў нябёсы, каб і там*
*Радасці свае ўсе і трывогі*
*Зноў дзяліць, як трэба, папалам.*
*І ў той час, як зоркі мые мама,*
*Бацька з Богам носяць ёй ваду,*
*Каб было ўсім светла й мне таксама.*
*І я з думкай пра бацькоў іду,*
*І адзін без іх жыву, сумую,*
*Бо бацькі не вернуцца дамоў*
*Ні ў вясну, ні ў восень залатую,*
*Помнячы, што на зямлі Любоў*
*Засталася і пасля сыходу*
*У нябёсы па дарозе з лёду…*

### Ракаўскія могілкі

*Мне прыходзіць да бацькі на святы,*
*Мне прыходзіць да маці, калі*
*Буду я адзінотай распяты,*
*Як распятыя ў ноч жураўлі*
*Над зямлёю, дзе восень пануе*
*Залатая, як маміна сэрца.*
*І ўжо маці з зімы не сумуе,*
*Бо з ёй бацька, ды ім не сагрэцца,*
*Хоць у роднай, ды мёртвай зямлі,*
*Што кустамі й травой парастае.*
*Тут усё адным словам «жылі»*
*Аб'яднана, інакш не бывае.*
*Я стаю ля бацькоўскіх крыжоў,*
*Як ля двух здзервянелых мячоў…*

* * *

*Нада мной, як матуліны слёзы,*
*Беларускія нашы нябёсы.*
*І мне светла заўсёды пад імі,*
*І не стануць яны мне чужымі*
*Нізашто, аніколі, нідзе.*
*Ноччу зорка слязою ўпадзе*
*І бярозай вясной прарасце,*
*І сарока за дзень на хвасце*
*Ад бярозы святло разнясе*
*Па палях, па лугах, па расе,*
*Што нібыта матуліны слёзы,*
*Па якіх я іду паўз бярозы*
*Да крыжоў, пад якімі сябры,*
*Што пакінулі свет без пары.*
*І таму па-над намі, як слёзы,*
*Беларускія нашы бярозы…*

* * *

*Па лісці апалым, нібыта па грошах,*
*Ідзеш ты з усмешкай, бо добра табе,*
*І зоркі ў нябёсах, як з золата вошы,*
*І поўня, нібыта гузак на ілбе*
*У бога, якога ты сёння прыдумаў*
*І тут жа ты, грэшны, яго палюбіў,*
*Бо ён жа як тыя, хто ў цемрыве турмаў*
*Сядзяць не за тое, што маці забіў,*
*Сядзяць за стварэнне прыгожага свету,*
*Дзе Вера, Надзея, Каханне, Любоў*
*Не толькі у вершах самотных паэтаў,*
*А ў кожным,*
*хто ў свет тут аднойчы прыйшоў,*
*Каб крочыць па лісці, нібыта па грошах,*
*І Бога любіць не таму, што харошы,*
*Таму, што нам Бог не адменіць грахоў…*

* * *

*Мне зноўку хочацца*
*пра ўсё і ўсіх забыцца,*
*Нібыта выйсці з хаты ў двор*
*і заблудзіцца*
*Сярод дамоў старых і шэрых, нібы пыл.*
*Але нішто, ніхто не забываецца,*
*І ўсё ў душы, як сонца, разліваецца,*
*І так, як сонца затапляе небасхіл,*
*Мяне зноў успаміны*
*ў белы свет вяртаюць,*
*Дзе людзі нараджаюцца і паміраюць,*
*Не маючы, каб жыць бясконца, сіл...*

* * *

*Апошняй квецені самота*
*Пад сонцам растае ў траве.*
*І пад асфальтам, як пад лёдам,*
*Дарога, як рака, плыве*
*Праз сад стары, як праз былое,*
*Што адцвіло і адышло,*
*Пакінуўшы святло жывое,*
*Але нябачнае святло,*
*Што ў кожнае травінцы сёння*
*Жыве і будзе доўга жыць,*
*Нібыта ў вечнасці палоне,*
*Нібыта холад у глыжы,*
*Які з дарогі ты прымаеш*
*І ў травы кідаеш, і сам*
*У сад ідзеш, і там знікаеш,*
*І нараджаешся зноў там…*



Фота Анеі Седро



## Міхась МАМОНЬКА

### Паляшучка Каця

*У Надпрыпяцкім краі —*
*Хатка ў гаі,*
*У ёй жыве,*
*Як цыганка,*
*Паляшучка, тураўчанка.*
*Чыстая,*
*Як расінка,*
*Як першы пацалунак.*
*Яе прыгажосці*
*Свету хапае.*
*І хто б*
*Тут ні йшоў,*
*І хто б тут*
*Ні ехаў,*
*Заўсёды ў гаёчак*
*Сэрца схіляе,*
*Як быццам*
*Імкнецца*
*Прыгубіць з крынічкі*
*Палескай вадзічкі.*
*А гляне —*
*Прыгалубіць,*
*Душу*
*Пакідае.*
*Такую дзяўчыну*
*Палессе гадуе,*
*Такую дзяўчыну*
*Бог сам шануе.*

### Божы ранак

*Іду*
*Па тураўскай зямлі,*
*Ступаю,*
*Як па небе.*
*Тут растуць*
*Камяні-крыжы,*
*Магчыма,*
*Барыса і Глеба.*
*Па-святому*
*Сонейка ўстае.*
*Адчувае сэрца*
*Ўсю лагоднасць*
*У ваколлі,*
*І твой крок*
*Сугучны з ёю*
*У душы тваёй*
*Па святой*
*Божай волі.*
*Гэты свежы*
*Нябесны ранак*
*Цябе,*
*Як малітва, сагрэе.*
*Ніколі*
*Не гадаў я,*
*Што й мая*
*Доля*
*Тут слязу*
*Сваю пральe.*
*Упаў я на калені.*
*У думках*
*З распятаю душой,*
*Ля крыжа,*
*Што расце*
*У неба,*
*Ля крыжа*
*Вечнасці святой.*



## Ірына КАСЯНКОВА

### Бяссонніца

*І зноў бяссонніца мая*
*Пакліча думкі ў карагоды.*
*Хоць не хачу, успомню я*
*Свае турботы і нягоды.*

*І зноў бяссонніца мая*
*Сяброўкай лепшай назавецца.*
*Хоць не хачу, даверу я*
*Ёй тое, што хавала сэрца.*

*Мне зноў спакою не знайсці*
*Сярод такой бясконцай ночы.*
*Прашу, бяссонніца, пусці*
*Салодкі сон ты мне на вочы!*

*Але яна не хоча спаць.*
*Мяне ні кроплі не шкадуе.*
*Мы будзем доўга размаўляць*
*І зноў да ранку не засну я…*

### Прыварот

*Я прыгатую свай напой,*
*Бы ў час мінулы чараўніца.*
*Туды закіну смутак свой*
*І дам каханаму напіцца.*

*Ён вып'е зелля, бы вады,*
*Яму не справіцца з падманам.*
*А яго вочы назаўжды*
*Густым засцелюцца туманам.*

*Не ўспомніць ён сваё імя,*
*Сваю каханую забудзе.*
*Цяпер у думках буду я!*
*Мяне адну кахаць ён будзе.*

*Амаль гатовы прыварот,*
*Кініць жаданне ракавое,*
*Адпраўлю любаму зварот*
*Свайго адчаю, неспакою.*

*Але чаму душа гарыць?*
*Не хоча шчасця пад прымусам.*
*Мо лепей мне яго забыць,*
*Як быццам нейкую спакусу?*

### Закаханыя

Прысвячэнне Сяргею Ясеніну

*Скучаравіць дрэвы вецер на узлеску.*
*Пацалуе сонца ломкую пралеску.*
*Я з табой да рання ў гаі заблукаю,*
*Як дайду да дому, нават і не знаю.*

*Сябра лес хавае ад людскога вока.*
*Завядзі, мой любы, ты мяне далёка,*
*Кінуся ў пачуццяў вір я з галавою,*
*Будзь што будзе потым,*
*зараз ты са мною.*

*Можа, засумую, плакаць буду ўпотай,*
*Толькі гэта будзе не цяпер, а потым.*
*Зараз — лашчыць дрэвы вецер на узлеску*
*І цалуе сонца ломкую пралеску.*

### Тайна

*Зноў чакаеш мяне ноччу зорнай.*
*Ціха стукне галінка ў акно.*
*Тоне месяц у цемры азёрнай.*
*Што заснула навокал даўно.*

*Сонны вецер зачэпіць бярозу,*
*Пад якою абдымеш мяне.*
*Твае вусны збяруць мае слёзы,*
*Нас пяшчота сабой захіне.*

*Зорны вэлюм накрые, схавае.*
*Салавей, музыкант залаты,*
*Нам на струнах душы заіграе, —*
*Што кахаеш, прызнаешся ты.*

*Заказыча нам вочы світанак,*
*Загарыцца агнём у расе.*
*А гарэзлівы сонечны ранак*
*Мае косы ў траву растрасе.*



# Віктар КАКОРЫЧ

# Грахі нашы вечныя…

*Апавяданне*

Даўні эпізод з мінулага жыцця і, напэўна, банальны, хоць і не без сюрпрызаў, але ж…

У той ветраны, пахмурны дзень фабрычная швачка Святлана Невядомская, а да замужжа — Рунец, прывабная трыццацішасцігадовая разведзёнка, з добрым настроем пераступіла парог кватэры. Сын Андрэй, адзін з найлепшых вучняў у сваім дзявятым і, на думку трэнера, перспектыўны плывец на кароткія дыстанцыі, убачыў прынесены «Геркулес» і шчыра ўзрадаваўся: «О, мая любімая аўсяначка!» Беручы з рукі маці досыць важкую гаспадарчую валізу, зразумеў, што зарплата атрымана, і тут жа запатрабаваў:

— Дай мне капеек пяцьдзясят. На два сокі таматныя і піражкі з капустай. Яны такія смачныя пасля трэніроўкі. — Андрэй хутка пакіраваў з сумкай на кухню і ўжо адтуль папрасіў: — Мам, яшчэ мне і дзясятку пазыч. Буду на велік збіраць. Акурат і куплю перад летам. Паедзем кампаніяй да вусця Бярэзіны, дзе яна ўпадае ў Дняпро. Уведаем, хто з іх там шырэйшы. Пазыч, мама.

— Во прыдумаў — пазыч! — непафарбаваныя вусны жанчыны кранула ўсмешка. — Бытта я нейкая чужая. І доўга мазгаваў? Што, я ўжо не магу і падарыць гэтай дзясяткі?

Святлана павесіла ў шафу лёгкае цёмнасіняе паліто і ўжо здымала з галавы шапку такога ж колеру, як нечакана пачула:

— Дораць на дзень народзін, на Новы год, на вяселлі і на святы розныя, а я хачу ў будзённы дзень пазычыць і сам купіць велік. Усё вярну, павер мне.

Сын выбег з кухні і, на хаду жуючы, пранёсся віхрам міма з надкусаным плаўленым сырком «Дружба» ў руцэ. Знік за дзвярыма залы, дзе звычайна перад трэніроўкай рыхтаваў урокі.

— Ды веру я, веру, — ціха прамовіла маці і падумала: «Хоча быць самастойным».

Святлана палезла ў правую кішэню паліто па кашалёк, але там была толькі насоўка, у левай намацала запалкі і некалькі манет. У сумку яна, здаецца, заробак не клала, бо старалася не рабіць гэтага пасля крадзяжу кашалька ў перапоўненым аўтобусе, на шчасце, з невялікімі грашыма. І цяпер з нейкім нядобрым прадчуваннем Святлана зайшла на кухню. Яе высокая дэрмацінавая сумка з дзвюма ручкамі чарнела на белым табурэце, а на стале стаялі двухлітровы эмаліраваны бідончык з малаком і бутэлька сланечнікавага алею, ляжалі ўсе яе пакупкі. Кашалька сярод прадуктаў не было, і Святлана зазірнула ў сумку, але і там нічога не згледзела. Не верачы самой сабе, яна яшчэ і рукой абшарыла дно і ўсе чатыры куткі валізы. На душы жанчыны стала млосна, у горле перасохла: «Выцягнулі з кішэні».

Разгубленая, не ведаючы, што рабіць, яна апусцілася на скрыпучы табурэт, абхапіла рукамі галаву, з хвіліну сядзела, быццам скамянелая. Аліменты ад былога мужа, які два гады таму пасля курортнага рамана ўцёк да каханкі ў сталіцу, патрачаны на сынаву зімовую куртку. А больш грошай ад яго чакаць не прыходзілася, бо аднойчы дарэмна прасіла, калі яе прыціснула хвароба. У ягоных бацькоў яна таксама не магла перахапіць. І ў сваіх не магла. Бацька трагічна загінуў, а састарэлая матуля жыла ў далёкай вёсцы на невялікую калгасную пенсію. Адзіны брат Мікола заехаў аж у Краснаярскі край, рабіў на нейкім прадпрыемстве слесарам, меў пяцярых дзяцей і з-за недахопу тых жа грошай ужо даўно не прыязджаў на радзіму. І цяпер Святлана не магла нават уявіць, як ім, удваіх з сынам, перабедаваць да наступнага заробку.

«Мяне, здаецца, ніхто не даганяў і не ішоў побач, — ачомалася яна. — Па дарозе не маглі…»

Прыгадала апошнія хвіліны наведвання магазіна і спешна апранулася, прачыніла дзверы ў залу.

— Мне яшчэ ў аптэку трэба, — не хацелася казаць сыну праўды. — Звары кашу сам. Малако вылівай усё, у вялікую каструлю. Высып увесь пачак. І не праваронь, каб малако не збегла. Памешвай на малым агні, ды нядоўга.

— Ведаю, — адазваўся сын, не паварочваючы галавы, бо нешта занатоўваў за пісьмовым сталом.

Святлана хутка сышла са свайго чацвёртага паверха, бегма накіравалася да магазіна. Ён месціўся паміж дзвюма «хрушчоўкамі» на гэтым баку вуліцы, а на другім рассыпаліся вялікі парк з пакуль што маладзенькімі дрэвамі і астраўкамі цёмнага кустоўя. Пакідаючы сляды на свежым бялюткім снезе, жанчына праз нейкія хвіліны адчыніла шкляныя дзверы і кінулася да прадаўгаватага стала пад ячэйкамі, што мацаваліся да сцяны. Стол быў застаўлены кошыкамі з тонкіх металічных пруткоў.Святлана перагледзела ўсе кошыкі, але кашалька не знайшла. У гандлёвай зале касірка ў зеленаватай пілотцы нерухома сядзела за апаратам і задумліва пазірала праз акно на вуліцу. Святлана падышла да яе і дрыготкім ад хвалявання голасам, у якім яшчэ цеплілася надзея, спытала:

— Вам не перадавалі кашалька?

Касірка з непаразуменнем падняла на яе ўважлівыя светла-шэрыя вочы.

— Я на стале яго пакінула, — хутка дадала Святлана. — Карычневы такі кашалёк.

— Не, — ціха, з нейкім спалохам, прамовіла дзяўчына. — Ніхто не прыносіў.

Святлане зрабілася кепска.

— Я вас двойчы разлічвала, — прыгадала касірка. — З другім прыходам у вашай руцэ кашалька ўжо не было. Вы з кішэні вынялі колькі манетак і далі траячок на тры карабкі запалак. Як жа вы так забыліся?

— Ды сунула між сумкай і кошыкам. Перакладала прадукты і ўспомніла, што запалак не купіла. А як вярнулася, то падхапіла сумку за вочапкі і — дадому. Сына галоднага спяшалася накарміць. І ў самой ад рання макавага зерня ў роце не было.

— Ці хоць нямнога страчана грошай?

— Палучка і прэмія. Сёння далі. Во ў вашу краму толькі і зайшла.

— Вы што… — вочы дзяўчыны акругліліся. — Трэба заявіць у міліцыю. Надзя! — паклікала касірка дзяўчынку са светлай касой, якая выстаўляла на паліцу пакеты з мукой. — Хуценька завядзі пакупніцу да загадчыцы. Яе кашалёк згубіўся ў нас, з усёй палучкай. Няхай міліцыю выкліча.

Пункт правапарадку знаходзіўся недалёка, у рабочым інтэрнаце-дзевяціпавярхоўку. Неўзабаве ў дзвярным праёме паказаўся старшы лейтэнант: досыць рослы, светлавалосы, з велікаватым носам і тонкімі губамі. Святлана мімаволі ажно здрыганулася ад яго знешняга падабенства з былым мужам. Выгляд у лейтэнанта быў пахмурны, нават змрочны, як быццам чалавека адарвалі ад вельмі важнай справы з-за нейкай драбязы. Але ён на дзіва ўважліва выслухаў Святлану, папракнуў прыцішана-нізкім голасам за неабачлівасць. Задаў некалькі пытанняў, выняў з карычневай афіцэрска-палявой сумкі чысты аркуш паперы, падсунуў крэсла да стала з супрацьлеглага ад загадчыцы боку, прадыктаваў заяву, прачытаў уголас і, калі пацярпелая паставіла подпіс, паклаў у сумку.

— А цяпер пройдземце… — прамовіў ён, ставячы крэсла на сваё месца. — Хачу на месцы ўдакладніць тое-сёе.

Участковы выйшаў з кабінета, Святлана і загадчыца — следам. Лейтэнант перайшоў залу, прамінуў касу, спыніўся каля стала з кошыкамі на ім.

— Скажыце, — звярнуўся ён да Святланы, — а хто-небудзь заставаўся тут, ля стала, калі вы адышліся?

— Бабуля была збоку. А мае сумка і кошык стаялі бліжэй да сярэдзіны.

Участковы на момант задумаўся.

— Думаеце, гэта яна? — нясмела спытала Святлана.

— Усё магчыма, — ухіліўся ад прамога адказу лейтэнант. — Грошы ж для чалавека — такая спакуса. А тут… Ляжыць без нагляду тоўсценькі кашалёк і быццам кажа: «Забяры мяне». Дужа вялікая спакуса.

— Вось яна і ўзяла, — безапеляцыйна зрабіла вывад загадчыца. — Больш ніхто не мог.

— Усё магчыма, — зноў не спяшаўся выказаць сваю думку ўчастковы. — Чалавек — істота слабая ў гэтым сэнсе. Да службы ў міліцыі я і ведаць не ведаў, што ў нас гэтак цягнуць паўсюль. З хлебазавода — муку і печыва, з малочнага — масла і тварог, з птушкафабрыкі — яйкі, з фермаў — камбікорм…

— І ў нас, бывае, хто-небудзь прыхопіць, — уздыхнула загадчыца. — Нядаўна адзін схаваў у кішэню бутэльку «Зуброўкі».

— Людзі яўна забыліся, што квапіцца на чужое — грэх, — працягваў заклапочана ўчастковы. — Днямі быў на адным вяселлі, у цывільным. І чуў, як сімпатычная маладзічка захоплена распавядала сяброўкам, як з бацькам і двума братамі «пабыла ў злодзеях». Так гэта ў іх завецца. Накапалі за ноч цэлы воз калгаснай бульбы. Не баяцца ні начальства, ні міліцыі. Ні Усявышняга.

— Вы верыце, што ён існуе? — таргануліся ўгару тонкія бровы загадчыцы.

— А вы думаеце, што мы з'явіліся на планеце самі па сабе? — зірнуў на субяседніцу лейтэнант. — Сумняваюся, што паходзім ад нейкай там малпы. А вы чыталі Біблію? — звярнуўся ён да загадчыцы.

— Не, я атэістка, член партыі.

— І я камуніст, але прачытаў. Па настойлівай просьбе сваёй праваслаўнай матулі. І не шкадую. Пачаў чытаць, калі нікога дома не было, і не мог адарвацца. Вось пачытайце Новы Запавет, — параіў ён. — Невялікая кніжачка. Толькі ўдумліва і з верай чытайце, а то не дойдзе да сэрца. Гэта зусім не казка. Пачніце з Новага…

— Дзе яго дастанеш, той Новы Запавет? — быццам паскардзілася загадчыца.

— Зайдзіце ў царкву і папрасіце, — параіў міліцыянер. — Не пашкадуеце, калі прачытаеце. Закапаліся ў грахах, як тыя амерыканцы ў В'етнаме. Сусед прыхоплівае зямлю ў суседа. Крадуць медалі і ордэны ў былых франтавікоў. І прадаюць, лічы, іх кроў пралітую. Бацька спакушае жонку сына свайго, пакуль той служыць. Дзяўчына тайком нараджае ў сваім інтэрнаце, прыдушвае і выкідвае немаўля ў бак для смецця... Чулі, пэўна? Самы свежы факт.

— Чулі, — адказала за ўсіх касірка. — Праўда, што яна сірата?

— Ніякая не сірата, — запэўніў участковы. — Бацька робіць трактарыстам у саўгасе, а маці — даярка. Жыла да арышту побач з нашым пунктам аховы правапарадку, у другой дзевяціпавярхоўцы. Матальшчыца сінтэтычных нітак. Забаялася асуджэння. Без мужа нагуляла дзіця. А ў той жа Бібліі ясней яснага сказана: «Бацькі, любіце сваіх дзяцей…»

— І што ж ёй будзе за гэта? — спыталася касірка.

— Ды ўжо няважна. Сам факт… Хоць яе расстраляй, а жыцця дзіцяці не вернеш. Хацелі судзіць паказальна. Там жа, у інтэрнаце, у актавай зале. А людзей жа колькі прыйшло! Крэслы трашчалі! Быў і я там. Людзі ля ўвахода ледзь не растапталі пярэдніх. Кожнаму карцела ўбачыць гэткі «цуд». Дык яе тут жа і забралі ў спецмашыну. Будуць у закрытым рэжыме судзіць.

— Такога ў нас яшчэ не здаралася, — прамовіла загадчыца.

— Мне жанчына з Хоцімскага раёна расказвала, што жыў у адной вёсцы дзядуляўдавец: невысокі, худзенькі. Жыў ціха, трымаў казу, любіў свой гародчык, садок. І дужа маліўся, але дома. І за гэта вяскоўцы пачалі яго дапякаць: «Які ж ты праваслаўны, калі з намі ў царкву не ходзіш?» Урэшце так дапяклі, што дзядок пайшоў з імі. А царква была за рэчкай… Вяскоўцы па мастку перайшлі яе, а дзядуля — проста па вадзе. Перайшоў і толькі падэшвы ботаў замачыў. Падзівіліся людзі, пайшлі далей. Памаліліся ў царкве, вяртаюцца… Вяскоўцы рушылі на мост, а дзед — па сваім шляху. Вяскоўцы перайшлі ўжо, а яго на беразе няма. Глядзяць, а ён па грудзі ў вадзе клыпае. Выйшаў з ракі і кажа: «Цяпер бачыце, чаму я з вамі не хадзіў». Вось так. Набраўся стары грахоў ад сваіх вяскоўцаў, пакуль быў з імі, — участковы ўпершыню і з нейкай дзіцячай прасветленасцю ўсміхнуўся. Але тут жа выраз яго твару зноў пасур'ёзнеў. — Я вось думаю пра вашу згубу, — павярнуўся ён да Святланы. — Скажыце, а хто-небудзь заходзіў у магазін, калі вы стаялі каля касы?

— Прайшлі былі два школьнікі, гадоў па дзесяць-дванаццаць. Гаманілі пра марожанае...

— Бачыце… — ажывіўся ўчастковы. — А можа, іх трое было. І адзін з іх мог згледзець кашалёк ваш. За яго і — ходу. Мог і яшчэ хто разам з імі ўвайсці. Нейкія секунды і… Усяго ж тры метры да дзвярэй. Магло так адбыцца?

— Магло, — ціха адказала Святлана.

— Вы напішыце аб'яўку-плакацік, — звярнуўся ўчастковы да загадчыцы. — Прыблізна з такімі словамі: маўляў, таварышы пакупнікі! Не кладзіце на стол кашалькі, дакументы, пальчаткі, парасоны, бо можаце забыцца на іх.

Лейтэнант зірнуў на свой наручны гадзіннік.

— Паслухайце, вы вось казалі пра зямлю, — нагадала раптам касірка. — У нашага родзіча сусед прыхапіў паўметра ўчастка. Па ўсёй даўжыні. А ў Бібліі што-небудзь ёсць пра гэта?

— Так і напісана: «Пракляты той, хто парушыў мяжу бліжняга…»

— А вы яшчэ пра бацьку і жонку сынаву… — прыгадала і загадчыца. — І што далей было? Сын уведаў, калі прыйшоў са службы?

— Ён не прыйшоў, — з сумам у голасе адказаў участковы. — Калі маці застала іх і напісала сыну… Не змог ён перажыць, засіліўся... Прабачце, мне ўжо ў аддзел трэба. А то я тут нешта разгаварыўся.

Участковы і Святлана разам выйшлі з магазіна, дайшлі да рога будынка, спыніліся.

— Хачу вам сказаць… — пачаў лейтэнант, — сам люта ненавіджу злодзеяў. У майго бацькі, былога партызана, сцібрылі ордэн сярэбраны. Уручылі калісьці за падрыў нямецкага эшалона з боепрыпасамі. Буду шукаць вашу прапажу, але шанцаў — мізэр. Не магу вам нічога абяцаць. Прабачце, ідзе мой аўтобус… Я пазваню.

Участковы бегма кінуўся да прыпынку, а Святлане ўжо надышоў час паспяшацца на фабрыку, у другую змену, але ногі не хацелі ісці. Слёзы міжволі стаялі ў вачах, іх немагчыма было стрымаць. І ўсё ж яна вырашыла забегчы дамоў. Стомленая, быццам адрабіла ў цэху дзень, Святлана ўзышла, нарэшце, на свой паверх, адчыніла дзверы і паклікала сына. Аднак той не адгукнуўся. Не распранаючыся, бо ў яе ўжо не было лішняй хвіліны, яна зайшла на кухню, дзе моцна пахла смажанай цыбуляй. Падышла да пліты, падняла накрыўку над каструляй — кашы не было. Бідончык стаяў таксама пусты. Здзіўленая жанчына павярнулася і адчыніла халадзільнік, але і там не знайшла малака. Толькі цяпер яна заўважыла на стале, а дакладней — на шэрай кнізе дамашніх расходаў, белы аркушык са школьнага сшытка. Святлана ступіла бліжэй. Нахілілася, прачытала: «Мама, ну як у цябе ўкінуўся кашалёк у бідончык? На ім жа плойма заразных мікробаў і бактэрый. Я пераліў малако ў вядзерца і паставіў уніз, пад мыйку. Аддадзім вулічным катам. Чытаў, што яны нічога не баяцца. Кашалёк прамыў і паклаў на батарэю ў ваннай. Грошы спаласнуў і падвесіў на прасушку там жа. Галодны не пайшоў — зрабіў сабе яечню з цыбуляй, папіў гарбаты з батонам, з сырам ды маслам. Мам, а табе сёння заплацілі больш, чым у мінулым месяцы. І нават не пахвалілася. А гаварыла, што не толькі няўдачамі трэба дзяліцца. Ай-яй-яй…»

# Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ: «Чытаю, як сваю, беларускую кнігу»

Ідучы на інтэрв'ю да Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяра Бахціяра аглы Вагабзадэ, я ўжо ведала: культурная спадчына гэтай краіны прадстаўленая досыць шырока. Дзейнічае каля 150 музеяў і галерэй. Створаны Музей Літаратуры Азербайджана. Акрамя таго, кніжная мудрасць свята захоўваецца ў больш як 4,5 тысячы бібліятэк, дзейнічае 25 дзяржаўных тэатраў, ёсць філармонія, Музычная акадэмія, Інстытут мастацтваў, шмат дамоў культуры і навучальных устаноў рознага ўзроўню, якія рыхтуюць кадры для культуры.

Шлях з прыпынку з сімвалічнай назвай «Базісная» палягаў праз вуліцу Літаратурную на вуліцу Усходнюю, дзе размяшчаецца пасольства. Вакол гэтых трох азначэнняў — што ў нашым жыцці ёсць базіс, якое месца займае літаратура і як да яе ставяцца нашы паўднёва-ўсходнія суседзі — і вялася гутарка.

## РАСШЫФРАВАЦЬ КОД НАЦЫІ

**— Спадар Пасол, часта гавораць, што найлепшая дыпламатыя — культура. А ці дапамагае літаратура дыпламатыі?**

— Звычайна лічаць, што дыпламатыя — найперш эканоміка. Я гэтага не адмаўляю: без эканамічнага падмурку не пражывеш. У цяжкую хвіліну не станеш зачытвацца мастацкай літаратурай: эканоміка перадусім. Але павінна быць яшчэ штосьці! Былі ў нас цяжкія хвіліны, калі Беларусь вельмі дапамагала. І мы дапамагалі Беларусі.

Ёсць у народа багатыя прыродныя рэсурсы — выдатна! У вас ёсць трактарны завод, МАЗ, іншыя буйныя прадпрыемствы. Але трэба, каб народы ведалі адзін аднаго і праз культуру. Беларусь — гэта і Янка Купала, і Якуб Колас, і Максім Танк. Таму паставіў сабе за мэту перакласці Максіма Багдановіча. У яго столькі нацыянальнага каларыту! Кідкага, сапраўднага, славянскага! Раней, у 1970-х гадах, ужо выходзіў пераклад аўтара «Вянка» Ахмеда Джаміла. Мне падалося, што ён не зусім дасканалы. Пачаў перакладаць сам. Таксама гляджу, нешта не тое. Вядомае выслоўе: «Пераклад падобны да жанчыны: калі дакладны, то непрыгожы, а калі прыгожы — недакладны». У мяне атрымалася, што я нешта дадаў. Значыць, змест недакладны. Паслаў на радзіму знаёмаму маладому паэту Юнусу Ахмеду падрадкоўнік, папрасіў, каб ён паспрабаваў. Вось 20 чэрвеня спаўнялася 20 год устанаўленню дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Азербайджанам. Хацеў падрыхтаваць зборнік да гэтага дня — не атрымалася. І паставіць пераклад «у план» не магу: Багдановіча перакласці вельмі цяжка. Ён — код нацыі.

## ГАМЕР І ПРЫГОЖАЯ АЛЕНА

**— Вам мастацкае слова дапамагае ва ўсталяванні дыпламатычных адносін?**

— Бясспрэчна. Згадайма: многія вялікія дыпламаты былі паэтамі ці празаікамі. Пачынаючы з Макіявелі, Сервантэса і заканчваючы Бамаршэ, Свіфтам — яны адначасова творцы і дыпламаты!

Літаратура выхоўвае новае пакаленне, паказвае шляхі развіцця. Калі б Гамер не апісаў Алену, свет не ведаў бы, што такое прыгажосць. Дзякуючы яму ў чалавецтва сфарміравалася ўяўленне пра прыгажосць. Паэты — як дзеці. Іх падманваць вельмі лёгка. А калі размова ідзе пра нацыянальнае пытанне, падмануць немагчыма. Яны мысляць вельмі цвяроза!

**— Працуючы ў розных краінах, вы знаёміліся з нацыянальнымі літаратурамі. Але таленавіты твор — наднацыянальны. Што ж выбіраеце для перакладу?**

— Шукаю нацыянальны каларыт. Тых творцаў, якія ўвасабляюць боль свайго народа. Падчас дыпламатычнай працы ў Малдове я перакладаў Міхая Эмінеску — паэму «Нявыхаваная моладзь». Перакананы: нявыхаваны той чалавек, які не ведае сваёй гісторыі, літаратуры. А калі трымаецца каранёў — будзе сапраўдным грамадзянінам. На жаль, моладзь не заўсёды ведае сваю гісторыю.

**— Вы абаранялі кандыдацкую па тэме «Заснавальнік рэалістычнай літаратуры (Сулейман Рустам)». Доктарскую — «Заснавальнік рамантычнай літаратуры (Мухамед Хадзі)». Як вы мяркуеце, у сучасным свеце пераважае рамантызм ці рэалізм?**

— Мы 70 год жылі пры сацыялізме. Мне падаецца, сацыялізм якраз уславіў рамантызм. Нам абяцалі: усе будзе добра. Мы працавалі і верылі ў заўтрашні дзень. І ведаеце, калі б у нас не было таго рамантызму, не перамаглі б вайну. Мы памяталі, што — браты, што ў нас усё наперадзе, і не мела значэння, беларус ты, азербайджанец альбо малдаванін: змагаліся ў адных акопах! Не ўсё, што існавала пры сацыялізме, было дрэнным. Успомнім моцную савецкую медыцыну, адукацыю, навуку. Праз рускую мову вывучалі сусветную літаратуру: Бальзака, Шэкспіра, Лондана, Фаўлза, Купрына. А капіталізм — гэта двойчы два — чатыры. І ўсё. Вырашаюць грошы. Аднак ёсць людзі і іх маральныя законы, улічваць якія неабходна.

Прыблізна пасля 1960 года пачаліся новыя тэндэнцыі. Сацрэалізм застаўся. Толькі трошкі ён адышоў ад сацыялістычных ідэалаў, з'явіліся, як цяпер гавораць, нацыяналісты. Але наш агульнанацыянальны лідар — у той час першы сакратар ЦК кампартыі — Гейдар Аліеў літаратуру ведаў бліскуча і падтрымліваў усіх. Напэўна, з 15 рэспублік быў адзіным сакратаром, які аберагаў усіх паэтаў, пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, скульптараў: дапамагаў людзям мастацтва. Таму што быў дальнабачным чалавекам, ведаў, што такі час прыйдзе і будзе патрэба ў творчых людзях.



**Візітка**

*Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ ў нашай краіне — трэці год. Да гэтага быў паслом у Пакістане, Швейцарыі, Малдове. Працаваў таксама ў Іране, Турцыі, удзельнік вайны ў Афганістане.*

*Доктар філалагічных навук. Прафесар. Усходазнаўца.*

*Член трох саюзаў пісьменнікаў: Азербайджана, Беларусі і Малдовы, член Беларускага саюза журналістаў.*

## ПРА ДЗЯРЖАЎНУЮ ПАДТРЫМКУ

**— То які ж час цяпер? Пазнаёмце чытачоў са сваёй краінай і літаратурным Азербайджанам.**

— Цяперашні Прэзідэнт, спадар Ільхам Аліеў, працягвае распачаты шлях. У нас амаль няма беспрацоўных. Прэзідэнт даў клятву на Каране, што будзе імкнуцца, каб усе людзі жылі прыстойна. Калі мы перайшлі з кірыліцы на лацініцу, ён загадаў, каб уся сусветная літаратура (мільённыя тыражы!), надрукаваная кірыліцай, была выдадзеная і на лацініцы. Каб моладзь змагла чытаць шэдэўры! Калі не памыляюся, гэта каля тысячы найменняў кніг! Прэзідэнт Ільхам Аліеў цяпер стварыў умовы і для маладых паэтаў. Бясплатна даюцца кватэры журналістам, паэтам і пісьменнікам. Пабудавалі тры вялікія «творчыя» дамы, ідзе размеркаванне жылля праз Саюз пісьменнікаў Азербайджана. Яшчэ пры Гейдару Аліеву ў 1970-х гг. наладзілі вучобу студэнтаў у Беларусі, Украіне, Маскве, Днепрапятроўску. Цяперашні прэзідэнт за кошт дзяржавы накіроўвае студэнтаў у Францыю, Англію, Амерыку — каб атрымалі адукацыю і вярнуліся працаваць на радзіму. Ёсць фонд імя Гейдара Аліева, які дапамагае ў развіцці культуры і мастацтва. Узначальвае фонд жонка Прэзідэнта Мехрыбан ханум Аліева.

**— Якімі тыражамі выдаюцца ў Азербайджане кнігі?**

— Як і ў вас, рознымі. Ёсць паэты, празаікі, якія выдаюць кнігі па 200 экзэмпляраў — і ніхто не купляе. А ёсць кнігі, якім і пяць тысяч асобнікаў мала, іх перавыдаюць. Калі твор палюбіўся, яго купяць. Вось наш пісьменнік Анар — вельмі адукаваны чалавек. Нават ад размовы з ім атрымліваеш задавальненне. Яго кнігі выдаюцца тыражом 5 — 10 тысяч і разыходзяцца.

**— Якім чынам ажыццяўляецца дзяржаўная падтрымка кнігавыдання, калі такая прадугледжваецца?**

— Абавязкова. Штогод выдаткоўваецца пэўная сума на падтрымку кнігавыдання. Ёсць прыватныя і дзяржаўныя выдавецтвы, яны ведаюць запатрабаванні, якія аўтары найбольш папулярныя.

**— Ёсць розныя жанры і кірункі развіцця літаратуры. Што з напісанага ў вашай краіне карыстаецца найбольшым попытам?**

— Мне падаецца, што людзі цяпер больш чытаюць дакументальныя кнігі, мастацкая літаратура менш запатрабаваная. Інтэрнэт жа шкодзіць мастацкаму слову — пішуць у сецыве лаканічна: што, дзе, калі, часта з памылкамі. Чалавек нешта напісаў — і кідае ў інтэрнэт. У нас дома пасля смерці бацькі засталося каля 8 тысяч кніг — ад Шэкспіра і Стэндаля і да сучасных аўтараў. Але і мне больш цікавая цяпер не мастацкая літаратура, а даведачная.

**— Вы таксама аўтар сямі кніг. Пра што пішаце?**

— Тры кнігі — гэта навуковыя манаграфіі. Прыкладам, па рамантызме XX стагоддзя. Выходзілі апавяданні, таксама — даследаванні эміграцкай літаратуры. Знайшоў шмат такіх аўтараў сярод турэцкамоўных народаў: з Азербайджана, Казахстана, Татарстана, Туркменістана.

**— Ваш бацька — народны паэт Азербайджана. Ці лёгка быць сынам паэта?**

— Ведаеце, быў час, калі я нават памяняў прозвішча, знайшоў сабе псеўданім. Думаў, што такім чынам змагу самасцвердзіцца. Але я не паэт, не пісьменнік, а перадусім чыноўнік, дыпламат. І люблю сваю працу. Я вельмі рана абараніў кандыдацкую, доктарскую дысертацыі. Праз год стаў прафесарам — мне было 33 гады. Сустракаў шмат перашкод, тата мне не дапамагаў. Калі я падаў дакументы на пасаду члена-карэспандэнта Акадэміі навук Азербайджана, бацька сказаў: я табе свайго голасу не дам. Тады і я сказаў, што ў акадэмікі не пайду. Але цяпер я ганаровы акадэмік АН Малдовы. І адзіны з паслоў, хто атрымаў Уладзімірскі крыж — за падтрымку царквы ў Малдове. Разам з дыяспарай дапамаглі абсталяваць храм непадалёк ад Кішынёва.

## УЯЎНАЕ І РЭАЛЬНАЕ

**— За 20 гадоў дыпламатычных адносін назапасіўся немалы досвед добрасуседскіх стасункаў. На вашую думку, якія ўдалыя праекты рэалізаваныя? Што яшчэ можна планаваць на будучыню?**

— На гэта працуюць два паслы: пасол Беларусі ў Азербайджане Мікалай Пацкевіч і я — у Беларусі. Трэба аб'ядноўваць намаганні! Тым больш што ў нашых народаў шмат агульнага. Хоць падзяляе некалькі тысяч кіламетраў, але светапогляд, менталітэт падобныя. Шмат ёсць змяшаных шлюбаў. Мне прыемна бываць у Полацку, Магілёве, Брэсце, ды і іншых гарадах — там шмат такіх інтэрнацыянальных сем'яў.

У Беларусі праходзілі ўжо дні культуры Азербайджана. Праводзілі месяц азербайджанскага кіно, паказвалі гістарычныя фільмы, каб беларусы пазнаёміліся з нашымі вытокамі. Летам прайшлі дні культуры Беларусі ў Азербайджане (праходзілі такія і раней). У іх межах паказалі балет, створаны паводле паэтычнага твора Нізамі Гянджэві XII ст. «Сем прыгажунь». Збіраемся яшчэ паказаць балет «Тысяча і адна ноч». Акрамя таго, добра было б паставіць два спектаклі: паводле твораў Анара ды Эльчына. Мару стварыць хрэстаматыі: Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча — буду імкнуцца, каб іх кнігі выйшлі ў Азербайджане.

**— А каб беларусаў пазнаёміць з літаратурай Азербайджана, на вашую думку, каго найперш варта перакласці?**

— Кнігу доктара філалагічных навук, прафесара, першай жанчыны-ўсходазнаўцы Аіды ханум Імангуліевай мы ўжо прадставілі беларускаму чытачу. Пераклалі на беларускую мову і кнігу пра акадэміка-афтальмолага Зарыфу Аліеву. Прэзентацыі гэтых кніг прайшлі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. З сучасных аўтараў таленавітыя Мір Джалал Пашаеў, Анар (старшыня СП Азербайджана), Эльчын, Набі Хазры, Расул Рзэа.

**— Вы, напэўна ж, знаёміліся з нашай краінай, перш чым сюды прыехаць. Ці супалі ўяўленні з той рэальнасцю, якую ўбачылі?**

— Я трэці год у Беларусі і з першага дня бачыў толькі добрае. У крамах — шырокі выбар тавараў, людзі ходзяць на працу і атрымліваюць зарплату. Горад чысты. Нават у Жэневе, Швейцарыі такой чысціні я не бачыў. 20 верасня 2011 года ўручыў верыцельныя граматы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Ён тады сказаў: «Перадавайце прывітанне майму брату, Ільхаму Аліеву». І я зразумеў, што не на чужыне. Атрымліваю задавальненне і чытаю, як сваю, беларускую кнігу. Пра класікаў я гаварыў ужо, цяпер чытаю Мікалая Чаргінца. Дарэчы, сяброўства з Мікалаем Іванавічам пачалося ў Афганістане. А пасля знайшліся тут. У вас вельмі моцная Нацыянальная бібліятэка. Некаторыя дакументы я знайшоў, якія нідзе не знаходзіў. Да прыкладу, пра падрабязнасці смерці Купалы. Як ён апынуўся ў Маскве? Чаму ўсе творцы тады збіраліся ў сталіцы? Цяпер распрацоўваю гэту тэму.

## ЯК ЖА НЕ ВЕДАЦЬ РОДНАЙ МОВЫ!

**— У нас восень пачынаецца з Дня беларускага пісьменства. Вам даводзілася пабываць хаця б на адным свяце?**

— Бываў. Уражанні — цудоўныя, мне вельмі спадабалася. Для сучаснага чалавека важна, каб у яго была арганізаваная мова. А начыць, павінен быць начытаны. І кожны чалавек павінен ведаць сваю літаратуру. Не разумею, як чалавек можа не ведаць роднай мовы, гісторыі.

Неяк у Полацку зайшоў у сабор. Там манашка вельмі эмацыянальна распавяла пра крыж Еўфрасінні Полацкай. І я паабяцаў: абавязкова прыкладу намаганні, каб яго знайсці! Сёлета 28 мая, калі мы святкавалі дзень Рэспублікі Азербайджан, з Полацка мне даслалі дыванок з вывяай Еўфрасінні і яе крыжа. Для мяне гэта вельмі каштоўны падарунак. Знаходзіцца цяпер у мяне дома. І я ведаю, што буду рабіць далей...

Ірына ТУЛУПАВА

# Ведаць Караткевіча — ведаць Беларусь

Збор твораў Уладзіміра Караткевіча, ініцыяваны да выдання Беларускім дзяржаўным універсітэтам і выдавецтвам «Мастацкая літаратура», хутка папоўніцца чацвёртым томам. Ён змяшчае празаічныя творы: «Предысторию», «Маці Ветру», «У снягах драмае вясна», «Сівую легенду» і «Цыганскага караля». Пра гераічную працу ўкладальнікаў, пра адкрыцці, якія чакаюць чытачоў чацвёртага і наступных тамоў, ды іншыя цікавосткі распавёў чытачам «ЛіМа» Пятро Жаўняровіч, член рэдкалегіі Збору твораў Караткевіча, укладальнік чацвёртага і пятага тамоў (разам з Анатолем Вераб'ём), навуковец, дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ.



**— Чаго чакаць аматарам творчасці Караткевіча ад чацвёртага і пятага тамоў кнігазбору?**

— Сюды будуць уключаныя, я б так сказаў, празаічныя творы сярэдняй жанравай формы. Назваць іх толькі «аповесцямі» не паварочваецца язык, бо на кожны твор Караткевіч даваў сваё жанравае вызначэнне. Так, у кнігу 4-га тома ўваходзяць творы 1950-х гадоў. Гэта не апублікаваныя пры жыцці пісьменніка аповесці «Предыстория», «У снягах драмае вясна», легенда «Маці Ветру», а таксама аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Цыганскі кароль». З пятым томам складваецца дзіўная сітуацыя. Першай ідзе аповесць «Сівая легенда». Але нідзе аўтар не пазначыў, што гэта аповесць. У часопісным варыянце твор увогуле называўся «Раман Ракута» і меў падзагаловак «Сівая легенда». Для кніжнага выдання падзагаловак перайшоў у загаловак. Атрымліваецца, што па жанры гэта легенда. Яшчэ адна — «Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны». «Ладдзю Роспачы» Караткевіч назваў навелай, а «Чазенію» — паэмай. Аповесць тут толькі «Лісце каштанаў». Такое суквецце жанраў. Акрамя таго, чацвёрты і пяты тамы будуць суправаджацца амаль усе не апублікаваныя раней фатаграфіі, такія цікавыя матэрыялы, як аўтарскія планы мясцовасці да «Дзікага палявання» (т. 4) і да «Чазеніі» (т. 5).

**— Ведаю, што трэці том збору твораў выйдзе толькі пасля пятага. Чаму?**

— У трэці будуць уключаныя апавяданні і казкі, якія друкаваліся пры жыцці Караткевіча. А нядаўна Анатоль Верабей выявіў шмат зусім невядомых (у асноўным ранніх) апавяданняў. Гэта значыць, што для падрыхтоўкі тэкстаў запатрабавалася шмат часу.

**— Тэксты ў новым кнігазборы друкуюцца без правак савецкіх часоў?**

— «Предыстория», «Маці Ветру» і «У снягах драмае вясна» пры жыцці Караткевіча ўвогуле не выдаваліся. Таму да іх цэнзарская рука не дакранулася. А вось з «Дзікім паляваннем» і «Цыганскім каралём» узнікаюць вялікія праблемы. «Дзікае паляванне» мусіла выйсці яшчэ ў 1964 годзе разам з раманам «Леаніды не вернуцца да Зямлі», але набор быў рассыпаны. Таму твор выйшаў у кніжцы «Чазенія» толькі праз дзесяць гадоў, у 1974 м. Другая публікацыя таго ж твора — у кнізе «З вякоў мінулых» 1978 года. І ўсе гэтыя тэксты маюць адрозненні. Перад чалавекам, які рыхтуе тэкст да друку, узнікае вялікая праблема: дзе найбольш поўна адлюстроўваецца аўтарская воля? Сёння ў тэксталогіі тэрмін «аўтарская воля» азначае апошні апублікаваны прыжыццёвы тэкст. Але ж у большасці выпадкаў Караткевічу даводзілася дзейнічаць па прынцыпе «няхай будзе апублікавана так, чым зусім не будзе апублікавана»! Таму, калі ёсць рукапіс, — за аснову бярэся менавіта ён. Калі рукапіс не выяўлены — то машынапіс. Задайце пытанне «А што з рукапісамі?»

**— І што ж?**

— Некаторыя тэксты ў рукапісах не знойдзены. Прынамсі, іх няма ў архівах. А некаторыя захоўваюцца ў прыватных асоб. Не хачу, каб гэта гучала як папрок, але для навукоўцаў важна мець *вольны* доступ да аўтарскіх арыгіналаў. Не хацелася б убачыць праз пэўны час рукапісы Караткевіча сярод лотаў разнастайных еўрапейскіх аўкцыёнаў... Такія дакументы павінны мець статус нацыянальнакультурнай спадчыны і адпаведна захоўвацца.

**— Караткевіч, магчыма, сам іх падарыў?**

— Калі ў творы ёсць прысвячэнне асобе, гэта не значыць, што ёй ахвяраваны рукапіс. Гэта адно. Другое: некаторым сябрам Караткевіча проста пашчасціла, што яны працавалі з аўтарскім арыгіналам і потым ён застаўся ў іх. Але, падкрэслю, рукапісы «Цыганскага караля» і «Сівой легенды» не выяўлены. Прынамсі, добра, што машынапісы Караткевіч захаваў у асабістым архіве і потым перадаў у Цэнтральную навуковую бібліятэку імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук. Некаторыя пасля смерці брата перадала сястра пісьменніка Наталля Сямёнаўна.

**— Ці пакідаеце вы якія-небудзь старыя праўкі?**

— Возьмем для прыкладу «Дзікае паляванне караля Стаха». Вось перада мной на маніторы камп'ютара сканіраваны рукапіс. З левага боку ляжыць кніжка 1974 года, з правага — 1978-га. Я гляджу сказ у рукапісе, супастаўляю, што апублікавана ў 1974 годзе і што — у 1978-м. Калі праўкі задавальняюць мяне як рэдактара, — гэта значыць, што там проста дастаўлены нейкія коскі, правапіс і канчаткі ўнармаваныя, — то, безумоўна, я пакідаю апублікаваны варыянт. Але бывае, што ў рукапісе сказ адзін, у адной кнізе ён мае іншую форму і лексічнае напаўненне, у другой — таксама. Калі праўкі ідэалагічнага кшталту, значыць, яны зробленыя, магчыма, прадстаўнікамі Галоўліта (гэта першы від правак). Другі від правак — змястоўнага характару. Трэці від — праўкі мовы і стылю. Чацвёрты — выкліканыя неразуменнем рэдактарам таго, што напісана ў Караткевіча; гэта прывяло да такой змены сэнсу, што сказы нават не ўспрымаюцца. Атрымліваецца абракадабра. А чытач аўтаматычна будзе думаць, што так напісаў Караткевіч! Напрыклад, такая цяжка вытлумачальная замена ў «Дзікім паляванні караля Стаха»: калі застрэлілі Андрэя Свеціловіча, Беларэцкі над яго целам плача і ўсклікае: «Беларусь мая! Гаротная маці! Плач!» У тэкстах 1974 і 1978 гадоў замест «Беларусь» — «Радзіма». Якога кшталту гэта праўка?.. Мусіць, і ідэалагічнага, і сэнсавага. І яшчэ. У аповесці «Ладдзя Роспачы» над Гервасіем луналі беларускія жаўрукі. У публікацыях слова «беларускія» ўвогуле не фігуруе. За вынішчэннем гэтага слова стаіць мэта нівеліраваць нацыянальную спецыфіку твора. Відаць, дзеля зліцця моў, што рабілася ў той час. У «Лісці каштанаў» ёсць момант, дзе хлопцы думаюць, што б абмяняць на базары, і размова ідзе пра ліхтарык. У аўтарскім рукапісе Караткевіча сустракаем: «Добры быў ліхтарык… Неацэнная рэч для сігналізацыі». Апошні сказ выказвання ліквідаваны. Мабыць, цэнзары баяліся, што людзі даведаюцца пра тое, што ліхтарыкам можна падаваць сігналы? Хаця ўсе пра гэта і так ведалі.

Праўкі фактычнага характару можна ўзяць з «Ладдзі Роспачы». Калі па Гервасія Выліваху прыходзіць Смерць, яны ідуць да ўваходу ў пекла. У тэксце Караткевіча напісана пра тры ўваходы ў пекла на беларускай зямлі. Пасля цэнзараў застаецца толькі адзін. Зноў жа, праўка яшчэ і ідэалагічнага характару, «каб чаго не здарылася», бо Караткевіч канкрэтна ўказвае, дзе знаходзяцца ўваходы: адзін — на тэрыторыі сённяшняй Гомельскай вобласці, ля возера Падравучае, другі — ля Макруш пад Бельскам і трэці — пад Юхнавам. Сёння Бельск — гэта горад Белы ў Расійскай Федэрацыі, Юхнаў — тамсама. І калі Караткевіч піша, што ўсе тры ўваходы месцяцца на беларускай зямлі, то і расійскія гарады ён адносіць да беларускай тэрыторыі, хаця этнаграфічныя межы тут не парушаны і ў каментарыях сказана, што ўсе названыя землі да канца XVI стагоддзя ўваходзілі ў склад ВКЛ. Гістарычнага мыслення за гэтай праўкай не праглядваецца. У выніку чытач ведае, што на тэрыторыі Беларусі ўваход у пекла адзін, і ў той жа час Гервасій са Смерцю падыходзяць да ракі Паніклі, што пад Бельскам. Ва ўдумлівага чытача адразу ўзнікае пытанне: чаму яны раптам падышлі да ракі, пра якую не было сказана ні слова? Фактычныя змены, зробленыя па ідэалагічных прычынах, выклікалі сэнсавыя памылкі ў тэксце.

Працяг чытайце на стар. 12 ▶

*Прэзентацыя*

## Крытыка? Ёсць!

Марына ВЕСЯЛУХА

Неяк так павялося ў сённяшняй літаратурнай сітуацыі, што надта модна стала наракаць на адсутнасць у краіне добрай (калі не сказаць прафесійнай) літаратурнай крытыкі. І нават тое, што досыць якасныя, удумлівыя рэцэнзіі на новыя кнігі, агляды, напісаныя маладымі і больш дасведчанымі даследчыкамі, рэгулярна з'яўляюцца ў прэсе, праходзіць актыўнае абмеркаванне адметнасцей шляхоў развіцця айчыннага пісьменства, не задавальняе скептыкаў. Думаецца, кніга «Зерне харства: культурфіласофскія нататкі» Аляксея Рагулі, што зусім нядаўна пабачыла свет, стане больш пераканаўчым сведчаннем таму, што добрая крытыка ў беларускай літаратуры ўсё ж такі ёсць.

Выданне — не проста зборнік тэкстаў, напісаных шаноўным даследчыкам цягам апошніх некалькіх гадоў, гэта фактычна сцвярджэнне пастулатаў філасофіі нашай нацыянальнай культуры, развагі пра адметнасці функцыянавання літаратуры ў розных кантэкстах і аспектах. У пасляслоўі да кнігі вядомая даследчыца літаратуры Таіса Грамадчанка піша: «Да ліку сур'ёзных і глыбокіх інтэрпрэтатараў нацыянальнай класікі на сучасным этапе належыць Аляксей Уладзіміравіч Рагуля. Яго даследчыцкая сцяжына, якая бярэ пачатак з 1968 года, з першых




крокаў была пазначана зваротам да класічных твораў… У 1970-я гады А. Рагуля пачаў выступаць таксама як крытык. Рэцэнзіі, артыкулы, звязаныя з так званым бягучым літаратурным працэсам, з'яўляліся і пазней, а добрае веданне надзённай літаратурнай сітуацыі адчуваецца ў працах гісторыка-аналітычнага характару».

Выданне складаецца з двух вялікіх раздзелаў. У першы, які атрымаў сімвалічную назву «Накаты», увайшлі артыкулы аўтара, прысвечаныя аналізу пытанняў філасофіі беларускай культуры. Другі — «Перааддзенне» — склалі літаратуразнаўчыя працы. Тут у цэнтры ўвагі аўтара апынуліся творы класікаў — В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Янкі Нёманскага, а таксама нашых сучаснікаў.

Варта адзначыць, што тэксты Аляксея Рагулі не проста канстатуюць існаванне пэўных феноменаў у культуры, з'яў у літаратуры, — змяшчаюць сапраўды глыбокі філасофскі аналіз феноменаў з апеляваннем да прац класікаў сусветнай філасофіі. Аўтар імкнецца асэнсаваць з'яву, працэс у больш шырокім кантэксце, зразумець яго месца і значэнне ў гісторыі нацыі і нацыянальнай літаратуры. Магчыма, таму даследчык увесь час праз прызму здабытых ведаў, уласных новых разваг вяртаецца да ўжо вывучаных і разгледжаных раней твораў (у першую чаргу, нацыянальнай класікі), нібыта спаборнічаючы сам з сабою, прадстаўляе іх новае прачытанне і разуменне.

Адметна, што кандыдат філалагічных навук, прафесар культуралогіі Аляксей Рагуля і сёння актыўна працуе ў галіне літаратурнай крытыкі. Яго артыкулы і рэцэнзіі, якія досыць рэгулярна з'яўляюцца ў друку, — сапраўды «вышэйшы пілатаж», што паказвае выдатны прыклад і дае магчымасць маладым даследчыкам павучыцца ў сапраўдных мэтраў.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Чароўны дух Львова

Сёння я змагаюся з жаданнем стварыць манументальную працу ў стылі «Кніга-падарожжа» і неабходнасцю напісання кароткага артыкула. Прычына гэтых душэўных пакут — Львоў. Пяць дзён я правяла ў гэтым горадзе-казцы, горадзе-сне. Можна бясконца доўга гутарыць пра ўнікальнае гістарычнае мінулае Львова, што знайшло адлюстраванне ў яго архітэктуры і духу гараджан. Можна гадзінамі пад уплывам чароўных пахаў блукаць паміж кавярнямі. Можна… Можна… Львоў дорыць вам тысячы магчымасцей.

Выдаўцу ж ён адкрывае зусім іншыя таямніцы. Калі да канца калонкі пералічваць толькі факты, так ці інкш звязаныя са светам кнігі, то і ў гэтым выпадку будзе згаданая хіба зусім малая іх частка.

Пачаць варта з самага галоўнага. Некалькі год свайго жыцця тут правёў, бадай, самы вядомы рускі першадрукар Іван Фёдараў. У манастыры Святога Ануфрыя ў Львове ён і быў пахаваны. У гэтым горадзе Фёдараў заснаваў першую на тэрыторыі Украіны друкарню. Яго імя ў Львове і па сёння звязана з кнігамі. Каля будынка каралеўскага арсенала ў 1977 годзе ўсталявалі помнік першадрукару. Сёння ля яго размясціўся стыхійны кірмаш букіністычнай літаратуры. Калі я хадзіла між яго радоў, здавалася, што гэта Грэцыя, дзе «ўсё ёсць»…

Непадалёк ад гэтага месца, на вуліцы Фёдарава, знаходзіцца будынак друкарні Стаўрапігійскага інстытута, дзе і выдаваліся першыя тамы. Сёння некаторыя з гэтых старых кніг можна пабачыць ва ўнікальным музеі мастацтва старажытнай украінскай кнігі. Дарэчы, там жа захоўваюцца выданні, якія маюць асаблівае значэнне і для нас, беларусаў. Напрыклад, у залах музея прадстаўлена копія скарынаўскай Бібліі.

Крыху далей ад помніка Фёдараву знаходзіцца корпус Украінскай дзяржаўнай акадэміі друку, адзначаны мемарыяльнай дошкай у гонар 400-гадовага юбілею першадрукара. А сам будынак размечшаны ў канцы вуліцы Лесі Украінкі.

Увогуле, Львоў багаты на помнікі і вуліцы, названыя ў гонар выдатных дзеячаў літаратуры. Акрамя ўжо згаданых ёсць плошчы, праспекты і паркі ў гонар Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча, Івана Франко. Варта адзначыць, што львавяне асабліва шануюць Адама Міцкевіча. Мне давялося бачыць старыя жылыя дамы, упрыгожаныя бюстамі ці выявамі паэта ў поўны рост.

Але гэта яшчэ далёка не ўсё кніжныя мясціны Львова. На рагу вуліцы Друкарскай (!) і Рынкавай плошчы знаходзіцца палац Бандзінэлі. Тут у XIX стагоддзі знаходзілася кнігарня «Вільда», своеасаблівы клуб львоўскай інтэлігенцыі. У той жа час у доме жыў польскі паэт Карнэль Уейскі. Калі меркаваць па тым, колькі сёння ў гэтым горадзе кнігарняў, то і ў XIX ст. «Вільда» дакладна не была адзінай. Калі шпацыруеш па звілістых вулачках горада, здаецца, што ходзіш па крузе. Я ж толькі што бачыла кнігарню! А не, гэта была іншая. Часам дзве розныя крамы знаходзяцца проста побач.

Але самае дзіўнае, што і знакамітыя львоўскія кавярні — гэта таксама кніжныя месцы. Самыя вядомыя з іх — «Львівська Копальня Кави» і «Кабинет». У першым акрамя выдатнай кавярні і незвычайнай кававаі шахты працуе кнігарня, якая спрыяе распаўсюджванню і папулярызацыі ўкраінамоўнай кнігі. «Кабинет» — гэта літаратурная кавярня творчага аб'яднання «Дзыга». З парога нас сустракае ўтульны «кабінетны» дызайн інтэр'ера, антыкварная мэбля. Тут вы абавязкова сустрэнеце галіцкага пісьменніка ці паэта. Уладальнікі пазіцыянуюць яго як месца для людзей, якія не ўяўляюць адпачынку без добрай літаратуры і прыемнай гутаркі.

Адным словам, час адпачываць і чытаць!

## Друкуецца ў «Маладосці»



Часопіс пачынае друкаваць на першых сваіх старонках шэраг незвычайных эсэ. Гэта быццам бы дзённік душы, размова з сабою для будучыні — той, што бясконцая. Аўтар — іераманах Жыровіцкага манастыра Яўстафій Халіманкоў — працягвае тое, што распачыналі некалі Мялецій Смятрыцкі, Лявонцій Карповіч, Афанасій Філіповіч… Далучыцца да палемікі можна пачынаючы з чэрвеньскага нумара часопіса.

# Айцец Яўстафій
# Дыярыуш

***

Надыходзіць такі момант (і колькі разоў гэта было!), калі паміж Богам і табой нечакана паўстае якая-небудзь сапраўдная дробязь — адна з незлічоных тваіх прыхільнасцей, «маленькая слабасць», так бы мовіць... І што — ты яе адфутболіш, нібы пустую кансерваваную бляшанку, і пойдзеш далей як вольны чалавек, як хрысціянін? Не! Памучыўшыся крыху, здаешся на літасць ворагу. А з часам перастаеш нават і мучыцца, загаворваючы сябе вядомай пошласцю: «Ну што з нас, грэшных, узяць!..», — гэтым самым як бы здымаючы з сябе адказнасць за зробленых грэх і перакладаючы яе на Бога: «Калі Ты не даеш мне сілы, благадаці на тое, каб справіцца з грахоўнай пакутай — дык пры чым тут я, слабая і бездапаможная істота?»

Калі ты кідаеш гэты фальшывы, дзёрзкі папрок Хрысту, д'ябальскі халадок ахоплівае сэрца, і яно слізгае — спрабуе выслізнуць з вобласці сумлення, — гэтак ты штурхаеш сваё сэрца на грэх, сціскаючы яго ў кулак, спрабуючы дамовіцца... Здрада здзяйсняецца заўсёды там — у сэрцы, — і потым ужо выяўляе сябе вонкава.

«Нічога страшнага, фатальнага не здарыцца, калі я яшчэ раз... паддамся, саграшу. Не смяротна — заўсёды ёсць магчымасць пайсці на споведзь і «разгрузіць сябе». Нічога страшнага: спачатку спакойна здраджваеш Богу, а потым гэтаксама спакойна ідзеш на споведзь, разыгрываючы з сябе «блудная сына».

Часам Гасподзь прачыняе (нібы заслону нейкую) твой страшны ўнутраны стан — спахапляешся на некаторы час, збіраешся з духам, даеш сабе чарговае абяцанне пачаць усё з пачатку — «з панядзелка», — і насамрэч, дзень ці два сочыш за сабой, а потым... усё зноў крыва-наўскос. Як адбываецца, што паміж хрысціянінам і Хрыстом губляецца жывая сувязь? Пачынаецца заўсёды з малога, нейкай кроплі граху — кап! — кропля за кропляй, — і як дождж залівае акно, гэтак хутка мутнее ў душы чалавечай вобраз Божы; душа «дзічэе», становіцца дзябёлай, земляной... Чалавек аддае сваю любоў не Богу, а чамусьці іншаму... І губляе ў выніку ўсё. Ізноў скоўвае ўсяго цябе гэтая страшная пустэча, «самнамбулізм штодзённасці»[1].

Вось ты стаіш на Боскай Літургіі: прысутнічаеш… І бывае, кране нешта сэрца — яно затрапеча, зашчэміць — і быццам бы вынырвае з нейкага туману. Раптам ахопіць мяне жах усведамлення — ад неадпаведнасці таго, што адбываецца цяпер у алтары, а што — у маім сэрцы. Мне становіцца страшна ад таго каласальнага разрыву — бездані! — паміж Божай службай і мною: глухім, сляпым да ўсяго таго, што адбываецца на Літургіі — нячулым балванам, замкнёным ў халодным сваім эгаізме. Мяне ахоплівае жах усведамлення сваёй абсалютнай недатычнасці Богу…

Прыйшла думка, што такую ж недатычнасць мае, напэўна, нераскаяны грэшнік на Страшным Судзе: калі стаіць перад Самім Богам і... яму не належыць — бо нічога агульнага... Усе думкі, пачуцці, усе памкненні былі аддадзены грэшнай зямлі, страсцям… і ў такім стане чалавек сышоў у вечнасць, у такім стане ён прыйшоў на Страшны Суд. Усё жыццё ён аддаў міру, таму цяпер яго гаспадар — «князь міра сего»[2], а не Хрыстос.

Нават у храме мы часцяком забываемся, перад Кім стаім, да Каго прыйшлі… Пачынаюцца звыклыя размовы, жарты, нейкія плёткі... Так і на Страшным Судзе мы будзем тоўпіцца і марнасловіць у чаканні сваёй гадзіны, не звяртаючы ўвагі, перад Кім стаім, нават зусім не заўважаючы Яго Самога. І потым, калі нас паклічуць, — што скажам мы, ягоныя «слугі», Хрысту? Верагодна, вось гэта: «Госпадзі! Госпадзі! Ці ж не ад Тваўго імя мы прарочылі...»[3] І што мы пачуем у адказ ад Госпада?

Ты адчуваеш сябе страшна самотным, страчаным у нейкім неймаверным акіяне — слепнеш і глухнеш ад тугі і безвыходнасці... Дык што ж тады змянілася ў табе з тых часоў, як ты стаў веруючым чалавекам? І, здаецца, губляеш ужо надзею на тое, што зможаш зноў калі-небудзь пачуць у душы жывы — такі блізкі, такі родны! — голас Хрыста.

Ізноў перада мной паўстае гэтая карціна Страшнага Суда. Там, стоячы ля Прастола Божага, ты нічога не зможаш зрабіць, калі прыйдуць па цябе твае гаспадары — страсці, якім ты верна служыў у сваім зямным жыцці: яны накінуць на цябе аркан і павядуць, як жывёлу на бойню. Ты нічога не зможаш зрабіць...

[1] Азначэнне французскага хрысціянскага публіцыста Аліўе Клемана.
[2] Гл. Ін. 14, 30: «грядéтъ бо сегó мíра князь, и во мнѣ не имать ничесóже» (*слав.*)
[3] Мф. 7, 22.2

# Кіно і не толькі

**Юлія МЯЛІК**

Аляксандр Брыт — сучасны беларускі пісьменнік. Аўтар рускамоўнай кнігі «Кіно», але піша і па-беларуску. Спецыяльна для гэтага выдання ён пераклаў аднайменнае апавяданне на рускую мову. Дарэчы, у творах на рускай сустракаюцца беларускія словы. У кнігу ўвайшло сем апавяданняў («Ты толькі цырыкні», «Hotel California», «На жыўца», «Апошні джэб», «Раскадроўка», «Шчаслівчык Чарлі», «Кіно») і прытча «Сіндром Алісы».



*Брыт, А. «Кино»: рассказы, притча. Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 480 с.*

Аляксандр Брыт піша так, быццам бы рэалізм мяжуе з сімвалізмам, а выдуманыя персанажы ўспрымаюцца рэальна. Аўтар распавядае лёгка і ў той жа час зразумела, даступна.

Персанажы яго апавяданняў — жывыя і рухаюцца на працягу ўсяго аповеду. Драма тут суседнічае са смешным. Усе гэтыя творы вельмі розныя, маюць шырокі тэматычны дыяпазон. Але ўсё-такі яны ўзаемазвязаныя. Аляксандр Брыт дэманструе незвычайны погляд на звычайныя рэчы, быццам героі яго апавяданняў ходзяць недзе побач з намі па вуліцах Мінска, сядзяць у кафэ, едуць з дачы ў электрычцы. Аўтар узгадвае не толькі Беларусь, але і Прагу, Дубай, Штутгарт, Варну, Берлін. Але пасля ўсіх вандровак яго героі вяртаюцца на радзіму.

Зборнік невыпадкова названы «Кіно». Сапраўды, большасць сюжэтаў твораў з гэтай кнігі датычыць кіно. Але гэта не толькі адна з галоўных тэм апавяданняў…

## *100 фактаў пра «Вянок»*

…верш «Каганцу» з цыкла «Думы» прысвечаны Карусю Каганцу, беларускаму пісьменніку, мастаку і скульптару канца XIX — пачатку XX стст.



…Максім Багдановіч так тлумачыў з'яўленне цыкла вершаў «Старая спадчына»: «Ён увесь склаўся з абразцоў розных даўнейшых форм верша, каторымі я зацікавіўся, маючы на ўвазе не толькі іх красу, не толькі палепшанне версіфікатарскай снароўкі пры працы над імі, але і жаданне прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд».

…у верш «***Кінь вечны плач свой аб старонцы!» Максім Багдановіч уставіў цытату — два словы з верша Якуба Коласа «Не бядуй!».

…«Санет» (***Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…») прысвечаны Аляксандру Пагодзіну, рускаму публіцысту і літаратуразнаўцу, прафесару Харкаўскага ўніверсітэта.

…«Санет», прысвечаны А. Пагодзіну, меў некалькі варыянтаў аўтографаў, упершыню прыведзеных у Зборы твораў М. Багдановіча 1927 — 28 гадоў.

…М. Багдановіч першым у беларускай літаратуры звярнуўся да такой паэтычнай формы, як трыялет.

…адзін са сваіх беларускіх трыялетаў са зборніка вершаў «Вянок» М. Багдановіч пераклаў на рускую мову.

…частка вершаў са зборніка «Вянок» была перакладзена аўтарам на рускую мову і ўвайшла ў рукапісны сшытак вершаў «Зеленя».

…рандо як паэтычная форма ў беларускую літаратуру ўведзена ўпершыню Максімам Багдановічам.

…у лісце ад 7 лістапада 1913 года М. Багдановіч пісаў так: «На рэдакцыю «Нашай нівы» пасылаю паэмку «У вёсцы», першую з аддзела «Мадонны», гэты аддзел пасвячаю А.Р.К. (так толькі буквы і пастаўце)».

…доўгі час было невядома, што гэта за чалавек «А.Р.К.», якому Максім Багдановіч прысвяціў цыкл «Мадонны». Сёння імя раскрыта — Ганна Рафаілаўна Какуева, яраслаўская знаёмая паэта.

**Падрыхтавала Ірына МЫШКАВЕЦ**

# Мечты сбываются!

«Барабанщик ищет музыкантов для создания группы» — именно это судьбоносное послание повесил однажды на школьную доску объявлений юный Ларри Маллен в 1976 году. Несколько школьных друзей и знакомых собрались на кухне у Ларри. Впоследствии ядро этой молодой, неопытной группы из Дублина (Ирландия) стало одним из самых успешных и долго живущих рок-н-ролл-коллективов в мире.

**Чеслава ПОЛУЯН**




Именно так начинает свой рассказ о всемирно известной рок-группе Мартин Андерсен. Город, в котором родились музыканты, время образования коллектива и — что самое главное — обложка книги (её вы уже непременно рассмотрели) указывают на то, что речь идёт об *U2*. Издание «**U2: иллюстрированная биография»,** которое вышло при поддержке ООО «Харвест» и дополнило серию книг об известных рок-группах, — это не просто история коллектива в фотографиях. Это целая летопись группы. Ведь кроме собственно рассказа об *U2* в книгу также вошли хронология истории группы и подробная дискография.

«Зачем нам книга, если есть Википедия?» — спросят фанаты. Логичный вопрос. Но Википедию на полку не поставишь, картинки в интернете не имеют приятного запаха типографской краски, да и не подаришь веб-страницу любимой группы другу на день рождения. Кроме того, в издание вошли не просто фото группы. Это целая уникальная коллекция из 200 классических и — что важно — редких, ранее не публиковавшихся фотографий. Ну, и факты о группе, изложенные в книге, не так уж легко отыскать на бескрайних просторах интернета.

К примеру, знаете ли вы, что настоящее имя вокалиста и автора песен *U2* Боно — Пол Дэвид Хьюсон? А прозвище Боно музыканту дали ещё в школе, это сокращение от латинского bonavox (так называется магазин слуховых аппаратов в Дублине!), что значит «великолепный голос». Несмотря на то, что основатель группы — барабанщик Ларри Маллен, он сам говорит, что «был боссом примерно десять минут, пока Боно не вошёл в комнату». И это не удивительно, ведь Ларри — очень скромный человек. И он не против того, чтобы во время публичных мероприятий в центре внимания публики оказывались другие музыканты группы.

Изначально коллектив имел название *Feedback*, в то время парни играли кавер-версии песен других групп, и поначалу, по их собственному признанию, это получалось не очень хорошо. В марте 1977 года название сменилось на *The Hype*, а затем они наконец стали *U2*. Но настоящая музыкальная карьера началась только в 1978 году. В День Святого Патрика *U2* выиграли конкурс талантов в Лимерике. Призом стали 500 фунтов стерлингов и время в студии звукозаписи для подготовки демо. Эту запись услышит *CBS* Ирландии.

Интересно, что первоначально *U2* воспринималась скорее как панк-команда. Звук был достаточно сырым, но ребята стремились выглядеть более артхаусно и делать композиции более утончёнными. В 1979 году был выпущен мини-альбом под названием *Three*, он стал первым официальным релизом группы и первым успехом в ирландских чартах. Интересно, что тираж составил всего 1 тысячу индивидуально пронумерованных экземпляров. И сегодня эта пластинка считается коллекционной редкостью.

Первый контракт со звукозаписывающей студией музыканты заключили лишь в 1980 году. Интересно, что их продюсером в Дублине должен был стать Мартин Хэннет из продюсерской группы *Joy Division*. Но самоубийство вокалиста *Joy Division* Йена Кёртиса означало, что Хэннет не сможет взяться за работу. Вместо него за пульт сел Стив Лиллуайт. В мае этого же года вышел новый сингл группы *11 O'clock Tick Tock*. Эта песня стала первым синглом, выпущенным и в Ирландии, и — впервые — в Соединённом Королевстве. Благодаря успеху композиции группа наконец испытала подъём сил и стала достаточно популярной.

А потом были и первый музыкальный фестиваль под открытым небом в июле 1980-го, и первое большое турне из 57 (!) концертов, запись очень успешного альбома *I Will Follow…*

Со дня основания группы прошло уже более 30 лет, она достигла самых высоких вершин музыкальной карьеры, о которых многие коллективы могут только мечтать. Но *U2* не собирается останавливаться! Эта музыка всё еще интригует старых и привлекает новых поклонников, а живые выступления буквально захватывают дух.

# Маладзік-спадарожнік

**Яніна НАВАГРОДСКАЯ**

Лёс кожнага чалавека — неад'емная частка вялікай гісторыі. У розны час, у розных месцах мы пішам яе несупынна. Лёсы людзей, крупінкі іх жыцця апісвае **Уладзімір Гаўрыловіч** у кнізе **«Цяпло маладзіка»**, што пабачыла свет у ТАА «Харвест». У зборнік уключаны аднайменны раман, апавяданні і гістарычная драма «Маленькая каралева Еўдакія Тураўская».

Нескончаная і балючая тэма вайны. У рамане аўтар апісвае яе з пазіцыі сучаснасці. Што ёсць сёння здрада памяці тых, хто не вярнуўся? Адказ на гэтае пытанне шукае галоўная гераіня — настаўніца Ганна. Яны з сястрой не могуць прыняць гуманітарную дапамогу з Германіі. Прайшло шмат год, на вуліцы мірны час, а яны адмаўляюцца. Бо прыняць — значыць здрадзіць. Здрадзіць загінуўшым родным, здрадзіць памяці, здрадзіць Радзіме. Кампазіцыя твора не прапануе поўнай карціны развіцця падзей. Кожная новая частка — новая гісторыя. Аднак людзі, дакладней, іх лёсы, цесна звязаныя. Гэта быццам вяртанне у той час. Невыпадковай з'яўляецца сустрэча Ганны з Аўгустам — нямецкім пісьменнікам і журналістам. Праз столькі год яны сустрэліся! А пазнаёміліся ў пачатку вайны. Яна — бойкая, непрымірымая дзяўчына — і ён — нямецкі салдат, які ненавідзеў фашызм. На вайне людзі таксама кахалі. Нават «ворагі».




Тэме кахання ў творы, як і ў кнізе ў цэлым, адводзіцца значная роля. І гэта каханне звычайна немагчымае на першы погляд. Ганна і Аўгуст, Ігар Косціч — супрацоўнік турыстычнай фірмы — і Мерыям — жонка швейцарскага бізнесмена. Кожны з герояў перажывае сваю трагедыю кахання, за што пазней узнагароджваецца ўзаемнасцю, асабістым шчасцем. Так і Вера, дзяўчына з вёскі, асмельваецца прызнацца пра дачушку, якую нарадзіла ад Косці, унука Ганны. Сімвалічна, што імя дзяўчынкі — Васілінка. Так звалі загінуўшую дачку Вольгі, Ганнінай сястры. Твор пабудаваны з асобных частак, уключаны некаторыя з рамана «Каханне і вайна». Сувязь паміж гісторыямі прасочваецца не адразу. Але пасля прачытання ўсё аб'ядноўваецца, як і аб'ядналася вялікая сям'я Сасноўскіх. Даніна памяці, пэўны супакой душы Ганны, яе родных, усіх тых, каго кранула вайна, — знойдзеная магіла Домны, маці галоўнай гераіні, з якой яна часта размаўляла, звяртаючыся да фотаздымкаў на сцяне ў хаце. Напэўна, таму маладзік, што не даваў заснуць Ганне на пачатку твора, што свяціў каханню ў кожнай асобнай гісторыі, аказаўся такім цёплым.

У апавяданнях аўтар звяртаецца да чалавечай душы, пачуццяў. Уздымаюцца спрадвечныя праблемы ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей, праблемы шлюбнай вернасці і жыццёвых каштоўнасцей.

Напісанню гістарычнай драмы «Маленькая каралева Еўдакія Тураўская» паспрыялі раскопкі 2005 года, якія вяліся адначасова з рэканструкцыяй храма XII стагоддзя ў Тураве. Тады было знойдзена некалькі саркафагаў, у адным з якіх — маладая дзяўчына гадоў сямнаццаці-дзевятнаццаці. Аўтар выказаў творчую здагадку, што гэта маленькая каралева Еўдакія Тураўская. Пра яе, а таксама пра лёс яе родных, лёс Тураўскага княства ён напісаў п'есу. «Канешне, як і ў любым мастацкім творы, тут шмат прыдуманага, але я стараўся прытрымлівацца гістарычнай праўды, што хоць крыху дайшла да нас». Еўдакія ў творы паказана як бойкая, не па гадах разумная дзяўчына, верная жонка. Значная роля ў творы адведзена Гертрудзе — маці Еўдакіі, жонцы Ізяслава. Мудрая князёўна, якая непакоілася за гонар мужа, была разумнай і справядлівай. Нягледзячы на другасную ролю жанчыны, яе любілі і паважалі ў Тураўскім княстве, лічыліся з яе прапановамі, меркаваннямі.

Важна не забывацца на мінулае, больш таго, трэба распавядаць пра яго нашчадкам. Уладзімір Гаўрыловіч робіць гэта з дапамогай мастацкага слова.

# Осознание реальности

Вокруг раскинулись знакомые поля зоны. Ветер гнал волны травы, колыхал ветви монументальных тополей, воткнувшихся макушками в клубящиеся облака… Ощущения, конечно, приятные, но не следует увлекаться виртуалом, чтобы потом не было больно возвращаться в реальность. Давай вставай и бегом на Кузню.

**Юлия ШАБЛОВСКАЯ**

В центре нового романа авторского дуэта **Андрея Левицкого и Алексея Бобла «Осознание»**, вышедшего в серии «Я — сталкер» при поддержке ООО «Харвест», не супергерои, сражающиеся с аномальными явлениями, а обычные люди, любители современного мира технологий и компьютерных устройств.

Главный герой книги — молодой хакер Егор по прозвищу Атила. Некогда крепкий рослый парень, центральный форвард команды по футболу после автокатастрофы прикован к инвалидному креслу и теперь зарабатывает на жизнь тем, что делает «читы» для компьютерной игры и продаёт их заказчикам там же, в виртуальном пространстве. Мир «Сталкер-онлайн» не только приносит Атиле заработок, но даёт возможность почувствовать себя полноценным человеком: благодаря специальной оболочке-костюму он может ходить, бегать и сражаться на равных с другими игроками.

Однако очередная и обычная, казалось бы, встреча с заказчиком превращается в головокружительное приключение, достойное любого кассового боевика. Пикантность и остроту сюжету добавляет фон. Под хорошо узнаваемой «сталкеровской» обложкой и в самом деле Зона со всеми традиционными и любимыми атрибутами жанра: АЭС, аномалии и мутанты, группировки и столкновения. Однако не стоит забывать, что это всего лишь мир виртуальной игры, а не привычная для поклонников оригинальной серии «S.T.A.L.K.E.R.» действительность. Поэтому очень важно понимать, что смерть героя в «виртуале» и невозможность его выхода в реальность — неминуемая гибель в повседневном мире. Атиле и его новым друзьям выпала нелёгкая миссия: им предстоит разобраться в происходящих




аномалиях игры, выбраться в реальный мир, а также вытащить остальных игроков, попавших в виртуальный плен.

Но и в «реале» героев ждут свои сюрпризы. Здесь уже невозможно скрыться за игровыми аватарами, настоящий мир заставляет проявлять смекалку и мужество, раскрывает внутренние переживания, позволяет оценить их поведение в действительно сложных реальных моментах.

Эта книга — хороший пример того, как ситуация меняет людей, раскрывает их способности и показывает настоящее лицо.

# Ведаць Караткевіча — ведаць Беларусь

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.**

Ёсць змены аўтарскай стылістыкі тэкстаў. Караткевіч — прадстаўнік раблезіянскага стылю ў беларускай літаратуры, і ён не пазбягаў формаў, якімі карыстаецца народ. І як можна было змяняць фразы і выразы, якія з аўтарскага пункту гледжання былі яскрава дарэчныя пераважна ў мове персанажаў? Напрыклад, «хахлы», «кацапы»? Няўжо Знамяроўскі, лідскі шляхціц, той самы цыганскі кароль, пасля двух падзелаў Рэчы Паспалітай і калі восьвось здарыцца трэці, мог радавацца таму, што адбываецца з яго краінай? Натуральна, яго стаўленне да падзей адлюстравана ў аповесці: «Гэта ж такая сіла, шляхта! Хоць бы і ён нават! Возьмуць шаблі, ударыць — ад смярдзючых маскоўскіх мужыкоў застанецца лужына. І добры мой народ гэтаму дапаможа». У надрукаваных тэкстах гэты фрагмент выглядае наступным чынам: «Гэта ж такая сіла, шляхта! Хоць бы і ён нават?! А добры мой народ заўсёды дапаможа». Уяўляеце?

І яшчэ. У рукапісах Караткевіча бачым прымальныя для мастацкага стылю канчаткі «вачыма, плячыма», а ў выданні 1974 года — «вачамі, плячамі». Некаторыя інфінітывы ў беларускай мове маюць паралельныя формы з суфіксамі «э» і «а» — «блішчэць» і «блішчаць», «дрыжэць» і «дрыжаць». Але робіцца суб'ектыўная праўка, і паўсюль пакідаюцца суфіксы «а»: «блішчала», «дрыжаць» і г. д.

**— Значыць, вы працавалі адразу з трыма крыніцамі — рукапісамі, машынапісамі і кнігамі?**

— А яшчэ Алена Сінькевіч, пляменніца Караткевіча і захавальніца яго кватэры, дазваляе карыстацца кнігамі, якія ёсць у хатняй бібліятэцы пісьменніка. У кнігах ёсць праўкі і пазнакі, зробленыя яго рукой. Колькі слоў трэба сказаць пра загалоўкі. У шосты том будзе ўключаны раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», а не «Нельга забыць». У наступных тамах, да прыкладу, будзе эсэ «Наш дзядзька Рыгор», а не «Рыгору Раманавічу Шырме — сардэчныя словы любові»... Між іншым, у аповесцях «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Цыганскі кароль» ліквідаваны падзагалоўкі: «Апошняя аповесць «Сямейных паданняў роду Яноўскіх», расказаная Андрэем Беларэцкім» і «Аповесць з цыкла "Сямейныя паданні роду Яноўскіх"». Безумоўна, яны вернутыя ў асноўны тэкст. Прыгадайце: з кім ажаніўся Міхал Яноўскі з «Цыганскага караля»? З Аглаяй Свецiловіч. Разумееце? Караткевіч збіраўся ў цыкле давесці дзеянне да таго Свецiловіча, якога мы сустракаем у «Дзікім паляванні караля Стаха». Вось што мы страцілі праз тое, што Караткевіч пражыў усяго 54 гады. У тым ліку і з-за таго, што яму даводзілася змагацца з праўкамі, якія ад яго патрабавалі рабіць звышпільныя цэнзары і рэдактары.

**— Калі падлічыць цэнзарскія праўкі, які твор найбольш пацярпеў?**

— Пра чацвёрты том казаць няма чаго, бо там усяго дзве аповесці, выдадзеныя пры жыцці Караткевіча. А з пятага тома, безумоўна, «Ладдзя Роспачы». Гервасій паказаны як сапраўдны нацыянальны тып. Калі ён трапляе на той свет, то часам размаўляе як звычайны рагачоўскі басяк. Але ўсё гэта раблезіянства вынішчана. Праўда, Караткевіч прамаўляе не ў лоб, але праз словы з кропачкамі, прытым колькасць кропачак адпаведная колькасці літар... Рэдактары ж калі не ліквідавалі сказы, то паўсюль паставілі шматкропʼі.

**— Ці ўзнікалі ў вас падчас працы сумненні, ваганні?**

— Былі спрэчныя моманты. Але дапамог раздзел «Іншыя рэдакцыі і варыянты». Я памятаў, што большасць чытачоў будзе вывучаць творчасць Караткевіча па гэтым выданні і што наступныя кнігі павінны друкавацца з апошняга кнігазбору. Таму вельмі важна было выправіць аўтарскія памылкі, але ў той жа час у каментарыях паказаць, што ў рукапісе напісана, скажам, «здзекваўся над», а не «здзекаваўся з». Асабліва важна гэта для моладзі, якая лічыць мову Уладзіміра Караткевіча ўзорнай. Верагодна, толькі даследчык або зацікаўлены чытач захоча гартаць «Іншыя рэдакцыі і варыянты» і высвятляць, а што ж было ў рукапісе ці ў машынапісе. Паказальна: гэты раздзел тамоў па абʼёме супастаўны з самімі тэкстамі. Бо, акрамя ўсяго, я вымушаны змяшчаць яшчэ і праўкі, выкліканыя зменамі ў сучаснай арфаграфіі. Узяць слова «Бог». Пры савецкім часе яно не пісалася з вялікай літары. А сёння пішацца. Як і такія кадыфікаваныя арфаграмы, як «іўдзей», «катар», «сямнаццаць». Усё гэта значна павялічвае раздзел «Іншыя рэдакцыі і варыянты». Прывядзём адзін прыклад з аповесці «Цыганскі кароль»: *Машынапіс* (так пакінута і ў асноўным тэксце): Гандлююць ёй [дзяржавай] напрапалую, пʼюць, гуляюць, як перад загібеллю, раздзіраюць, катуюць народ. *Выданне 1961 г.*: Гандлююць ёй напрапалую, пʼюць, гуляюць, як перад пагібеллю, раздзіраюць, катуюць народ. *Выданне 1978 г.*: Гандлююць ёй напрапалую, пʼюць, гуляюць, як перад гібеллю, раздзіраюць, катуюць народ. Фантазія тагачасных рэдактараў зяе ўсімі колерамі вясёлкі... І гэта толькі ў дачыненні да аднаго слова «загібель»! Як бачым, праца карпатлівая, пякельная, але важная і неабходная — і яна працягваецца. У прыватнасці, я ўжо распачаў укладанне дзявятага (!) тома («Хрыстос прызямліўся ў Гародні»).

**— І колькі ж атрымліваецца старонак у чацвёртым томе?**

— Больш як восемсот. Пяты том будзе таксама абʼёмны, меншы прыкладна на 100 старонак.

**— Цікава, колькі ж часу вы аддавалі на тое, каб падрыхтаваць адну старонку тэксту?**

— Я рыхтаваў дзве аповесці ў вольны ад працы і сну час, прыкладна тры месяцы. Праца вельмі складаная — але цікавая. І я, і Анатоль Верабей, і іншыя даследчыкі будзем да апошніх дзён свайго жыцця рабіць усё, каб творчасць Караткевіча ведалі суайчыннікі ў нязменным аўтарскім варыянце, каб яго творы сягалі ў еўрапейскую і сусветную літаратурную прастору. Таму што ведаць творы Караткевіча — гэта значыць ведаць Беларусь. А выданне ж 25-томнага Збору твораў цягне за сабой ланцужок наступных дзеянняў, у тым ліку — удакладненне перакладаў на іншыя мовы.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

*100 год кнізе*

# «У траве плывем...»

Сёння і потым — можа, праз столькі, колькі мінула часу са старажытнаўсходніх і заходніх падобных тэкстаў («Песня Песень», «Дафніс і Хлоя»), — ідылічны эпас «Яна і Я» будзе такім жа надзённым, як і сто гадоў таму. Не зможа не захавацца ідэал адносін Яе і Яго, не згубіць надзённасці ўзор сялянскай працы (хаця б як архаічны факт). Але перадусім паэма застанецца дзякуючы ўвасабленню ў ёй найбольш значных асноў быцця чалавека і нацыі.

Мы вельмі добра абазнаныя ў быцці — настолькі, што не звяртаем увагі на адпаведныя бакі мастацкай творчасці. «Яна і Я» — выдатнейшая нагода пачаць запаўняць прабел. Размова, праўда, не новая. Крыху менш як сто гадоў таму яе распачаў нямецкі філосаф Марцін Хайдэгер (1889 — 1976), паставіўшы пытанні, у якіх нікому прабле м не бачылася. Што ёсць быццё ўвогуле? Быццё сапраўднае і несапраўднае (існаванне)? Якія ўмовы сапраўднасці і спраўджанасці нашага быцця і быцця свету? Адказы філосаф шукаў усё жыццё.



Ілюстрацыя Георгія Паплаўскага да паэмы «Яна і Я», 1979 г.

Часам крыўдзяцца на зацемненасць і незразумеласць Хайдэгеравай думкі. Студэнты нават зачытваюць дзеля смеху той ці іншы ўрывак. Цярплівa тлумачу, як у свой час тлумачылі мне. Яны радасна здзіўляюцца — радасна таму, што тлумачэнні вельмі простыя, хоць таксама нечаканыя і нязвыклыя. Вочы напаўняюцца роздумам, твары робяцца адначасова сурʼёзнымі і прасветленымі.

Калі б у свой час да Хайдэгера патрапіла паэма «Яна і Я», а не, скажам, вельмі складаныя (і ўскладненыя душэўнай хваробай) вершы Гёльдэрліна, яму было б значна прасцей пры яе дапамозе разгортваць (а чытачам — успрымаць) сэнсы фундаментальнай анталогіі. Увогуле, мысляр вельмі ахвотна карыстаўся дзеля ілюстрацыі сваёй думкі літаратурнымі творамі: празаічнымі (К. Гамсун, А. Штыфтэр) і паэтычнымі (Ф. Гёльдэрлін, Р.-М. Рыльке, Г. Тракль). Паэзія ўсё ж была прыярытэтнай: Хайдэгер бачыў у ёй «пачатак і канец філасофіі», маючы на ўвазе інтуітыўнасць згадкі і афарыстычнасць увасаблення глыбокіх быційных сэнсаў.

Паводле Хайдэгера, Штосьці — неістотна, што — мы заўважаем тады, калі з ім перажываем пэўную нястачу, бязладдзе, няпэўнасць. У час станаўлення Купалы паэта нястача на зямлі беларускай была татальнай, мяркуючы пра ніштачымніцу сялянскай гаспадаркі і ніштачымнасць, сучаснай мовай кажучы, беларускага феномена ўвогуле. Колас і Купала таму і сталі архікласікамі, што адлюстроўвалі менавіта гэты вызначальны факт — зразумела, пераважна ў мінорнай танальнасці. «Чаму плача песня наша?..» — вось таму яна і плача. За плачам, аднак, чыталася надзея.

Калі быццё Беларусі і беларуса было няпоўным, трэба было ствараць падставы дзеля яго сцвярджэння, ствараць на спрадвечна сваім, сялянскім, падмурку, у рэчышчы штодзённага і надзённага клопату. Трывала ўвасобіць няшчаснае, але безумоўна *сваё* асяроддзе, надаць яму ўніверсальнае аблічча і сэнс. Свядома ці несвядома, але менавіта тут угрунтаванае «сялянскасць» беларускай класічнай літаратуры: не Горад жа ёй было ўвасабляць-сцвярджацьанталагізаваць!..

Часта мяркуюць, што пытанне пра быццё — шуканне яго сэнсу. Цвяроза падумаўшы, разумееш, што гэта — справа другасная: як можна шукаць сэнс невядома чаго? І зразумела, чаму ў беларускай сялянскай класіцы не сустрэнеш адпаведных пошукаў. *Быць* бы ўвогуле: самім сабой і на сваёй зямлі — у вузкім і шырокім сэнсе.

Магчымасць шматслойнага разумення — асабіста-індывідуальнага, нацыянальна-гістарычнага, агульначалавечага — найбольш значная падстава прачытання Купалавага твора ў святле думкі нямецкага філосафа.

«Быццё варта ўспрымаць як час, — піша Хайдэгер. — Яно зразумелае адно толькі перад часам». Яно — у зменах, чаканні, планаванні, збіранні і асэнсаванні плёну. У наступных радках зафіксаваны не толькі «прызямлены» клопат вяскоўца, але і звышпаказальны ўзор Быцця — засяроджанага імкнення, стварэння:

*Як дзеці, пазабытыя тым светам,*<br>*Свае налеткі будзем аглядаць*<br>*І, пад загонам седзячы сагрэтым,*<br>*Пачнем аб жніве будучым гадаць.*

*Багата мы з табою маем гоняў,*<br>*Ў пару б абсеяць, зжаці толькі б іх*<br>*Ды ў добры час злажыць*<br>*у застаронне*<br>*Сямʼю снапкоў паспелых,*<br>*залатых.*

.................................................

*...Ідзем, ідзем з загона на загон,*<br>*Дзе перш араць,*<br>*дзе сеяць перш — варожым —*<br>*З надзеяй дачакаць*<br>*нядзельных дзён.*

Эпізод з планаваннем «налеткавых» спраў невыпадкова мае месца адразу пасля наведання героямі могілак. Так, чалавек ведае, што ён смяротны, таму імкнецца жыць не марна, пакінуць годны след, стварыць Штосьці. Ведаючы пра скон, ён надае большай каштоўнасці стану «тут і цяпер», мусіць жыць інтэнсіўна, адкрыта і шчыра — сапраўдна. (Зразумела, што і «прыстойна», але гэта ўжо вынік: шчырасць-адкрытасць не перадумоўлівае «амаральнасці».)

Ці не з такога вызначальнага настрою — адкрытасці стаўлення да светабудовы, адчування пагружанасці ў яе — і пачыналася Купалава паэма?

*...Стаялі мы. Нявіданыя дзівы*<br>*Нас абымалі крыллямі сваімі*

.................................................

*Багаслаўленне далі нам свае*<br>*Ісці у свет праз горы, долы, рэкі,*<br>*Ісці супольна праз усё жыццё.*

.................................................

*Такія клалі дзівы нам зарокі*<br>*Мядовых асалод, квятчаных крас*<br>*І расплыліся, як сон ветру лёгкі,*<br>*Нас кінуўшы ў благі ці добры час.*

Непасрэднасць светаадчування — да самазабыцця, але з максімальнай вастрынёй пачуцця. У анталагічным кантэксце радок пра «кінутасць» варты асобнай увагі: стан «кінутасці» — пазасацыяльнасці, пэўнай неўладкаванасці — выключна пазітыўны. Ён дае адчуванне Пачатку, дазваляе жыць у суладдзі з вонкавым, выклікае да рэалізацыі ўласных якасцей, здольнасцей, прыярытэтаў — дае магчымасць быць сабой. У рэальнасці гэта даецца цяжэй цяжкага, але пабудаваны на «кінутасці» сюжэт паэмы здольны хаця б абудзіць душу, надаць ёй прагі анталагічнай — сапраўднай — волі.

Безліч гаспадарчых прылад у побыце Яе і Яго — не столькі этнаграфічны, колькі анталагічны матэрыял: маючы справу з ім, героі спазнаюць свет. Адзін клопат цягне за сабой наступны, вынік клопату вымагае дбання пра яго наступствы. Тут жа — пільная ўвага да надворʼя, урэшце — да светабудовы. У нашым штодзённым досведзе, з сучаснымі прыладамі — такая ж быційная заканамернасць: тое, што «пад рукамі», паступова адкрывае нам свет, а нас — у свет, у «прасвет» высоўвае. Менавіта такім чынам мы — *ёсць*. Калі ж пэўных «прылад» нам, умоўна кажучы, не хапае (возьмем прынцыповае на пачатках XX ст. — зямлю) або яны маюць істотныя заганы («няплодны пясок»), мы вымушаныя ўдвая дбаць, разважаць, заўважаць, адчуваць рэчаіснасць больш інтэнсіўна, больш непасрэдна, у перспектыве — найбольш сапраўдна. І тады —

*Гэй, ажыло зямлі*<br>*старое папялішча!*<br>*Зайгралі рэчкі,*<br>*плечы выраўнаваў бор,*<br>*Спраўляе птушак*<br>*жвавы рой ігрышча*<br>*І падлятае з радасцю*<br>*чуць не да зор.*

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Святланосныя Мадонны



Аляксей Кузьміч са сваёй музай Інэсай.



Аляксей Кузьміч «Нараджэнне Млечнага шляху», 2001 г.



Аляксей Кузьміч «Плач Еўфрасінні Полацкай», 1990 г.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Паступова Аляксей Кузьміч асвойваў метады нанясення фарбаў на палатно і праз некаторы час пачаў маляваць ужо свае пейзажы. Маці падоўгу разглядала знаёмыя куткі ваколіц і гаварыла што-небудзь прыемнае. Аднойчы Аляксею Васільевічу захацелася напісаць яе партрэт. Некалькі вечароў пазіравала стомленая пасля цяжкай працы маці. Калі настаў час паказаць партрэт, яна не пазнала сябе ў маладой і прыгожай жанчыне. Аляксандра Максімаўна была вельмі рэлігійнай, у вёсцы яе называлі святой. У хаце на сценах заўсёды віселі іконы, шанаваліся праваслаўныя святы. Пасля вайны Аляксей Кузьміч застаўся адзіным хлопчыкам сярод дзяцей, таму ўвагай старэйшых сясцёр не быў абдзелены: яны даглядалі і клапаціліся пра яго. Сёстры сталі правобразамі многіх ранніх карцін Аляксея Васільевіча — выбар вобраза Мадонны быў наканаваны лёсам.

Пасля дзевяці класаў будучы мастак з'язджае ў далёкі сібірскі горад Краснаярск. Яму хацелася не столькі вялікіх грошай і прыгод, колькі ведаў. У Краснаярску нарадзіўся Сурыкаў, ёсць вучылішча імя В. І. Сурыкава, бліскучая карцінная галерэя мастака. А. Кузьміч часта прыходзіў туды і падоўгу разглядваў палотны, захапляючыся неперавызданым талентам. Побач з вучылішчам — мастацкая школа імя В. І. Сурыкава, куды і паступіў А. Кузьміч.

У 1964 годзе быў прызваны ў рады Савецкай Арміі і праслужыў да 1976 года ў Забайкальскай акрузе, але не простым салдатам, а галоўным мастаком вайсковай часці. Перамагло мастацтва, ды інакш не магло быць! Пасля службы Аляксей Васільевіч прыехаў паступаць у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, але на прыёмныя экзамены спазніўся. Быў прыняты ў мастацкую студыю пры Палацы культуры трактарнага завода, якой кіраваў Анатоль Бараноўскі. У Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне жывапісу А. Кузьміч паступае на наступны год. Вучыцца было лёгка, падабалася акадэмічная сістэма заняткаў, высокакваліфікаваныя выкладчыкі: Заслужаныя дзеячы мастацтва Анатоль Бараноўскі, Барыс Аракчэеў, Натан Воранаў. Дыпломнай работай «Раніца вугальнага кар'ера», для напісання якой ён ездзіў спецыяльна ў шахцёрскі Кузбас, кіраваў Пётр Крохалеў. Абараніўся на «выдатна», карціна, выкананая ў рэалістычнай манеры, паказала складанае жыццё шахцёраў у тых умовах.

А. Кузьміча пакідаюць выкладаць у інстытуце, пэўны час ён працуе, але імпульсіўны характар і імкненне тварыць прымусілі яго пакінуць педагагічную працу. Аляксей Васільевіч піша свой першы твор мастацтва ў стылі «ню» — «Юная Даная». Пятнаццаць гадоў яго не прызнаюць, не даюць выстаўляцца. І толькі таму, што на сваіх карцінах мастак смела прыадкрывае сакрамант прыгажосці жаночага цела разам з высокай адухоўленасцю. Але Аляксей не здаецца і піша ў паўпадвальнай майстэрні. На палотнах маладыя натуршчыцы, смелыя, упэўненыя ў сваёй прыгажосці, у позах багінь заклікаюць свядомых гледачоў узгадаць цудоўныя палотны Адраджэння — велічных аголеных прыгажунь Рэмбранта, Джарджоні, Тыцыяна. Рэалістычныя, напісаныя ў светлых тонах, яны ўжо тады азнаменавалі сабой нараджэнне яркай, індывідуальнай і моцнай мастацкай формы, у якой бачна вера ў прыгажосць жаночага цела. Але на той час усё гэта прывяло членаў журы ў шок. Толькі ў 1989 годзе ў Мінскім Палацы мастацтваў адбылася першая выстаўка Аляксея Кузьміча, якая мела велізарны поспех. Пасля яе работы мастака ўбачылі жыхары Віцебска, Бабруйска, Баранавіч, Гродна, Магілёва, Гомеля, Брэста і іншых гарадоў рэспублікі.

Пошукі творчай самабытнасці прывялі Аляксея Васільевіча да напісання партрэтаў гістарычных асоб. Ён настойліва працуе над рысамі твараў людзей, вывучае чалавечую міміку. Карціна «Рагнеда» — яркі прыклад таго, што мастака цікавіць спадчына, гісторыя свайго народа. Полацкая князёўна плача аб сваім горкім лёсе і лёсе Радзімы. З нябёсаў яна спусцілася на зямлю, каб убачыць, што змянілася за час яе адсутнасці. Каля Рагнеды былы муж, князь — жорсткі і хітры. Ахрысціў Вялікую Русь, але не змог прымусіць сваю жонку прыняць новую веру. Побач з князёўнай — яе сын, малады княжыч. У яго вачах — цвёрдасць і непахіснасць, Ізяслаў на баку маці і ніколі не даруе бацьку.

Блізкае па стылі і падачы палатно «Плач Еўфрасінні Полацкай». Абедзве жанчыны — асветніцы, ахвярніцы. Еўфрасіння ў цёмным уборы манахіні, яе бледны твар спакутаваны, але глыбокае ўнутранае пачуццё, дабрыня і міласэрнасць надаюць прывабнасць. Яна плача па зруйнаваных святынях, па шматпакутнай зямлі.

Тэму трагедыі народа раскрыў Кузьміч у палотнах, прысвечаных «Памяці вязняў Гулага» (1975 — 1989), «Перавернуты свет» (1990), не застаўся абыякавым мастак і да трагедыі, якая напаткала наш народ у 1986 годзе — «Прысвячэнне Чарнобылю»(1988), «Дзецям Чарнобыля» (1990).

Пэўны час Аляксей Васільевіч адлюстроўвае на сваіх палотнах партрэты беларускіх акцёраў. Кожнага мастак піша з асаблівым хваляваннем, скрупулёзна перадаючы рысы твару, вопратку, каштоўнасці. Яны неардынарныя, нечаканыя, напоўненыя асаблівымі мастацкімі вобразамі: С. Станюта, Г. Макарава, У. Гасцюхін, Ф. Варанецкі, З. Стома, М. Яроменка, кінарэжысёры М. Пташук і В. Тураў, два партрэты пісьменніка А. Адамовіча, «Памяці Юрыя Гагарына» ды іншых, якія назаўсёды застануцца ў гісторыі культуры Беларусі.

Яго зварот да вышэйшых сіл, якія сімвалізуюць Веру, Надзею, Любоў, Прыгажосць і выратоўваюць наш свет, стаў галоўным у жыцці. Далі пісаў Галу, Рубенс — Алену Фурман, Кузьміч піша сваю Інэсу — маці яго дзяцей Іны і Аляксея. Менавіта яна яго натхненне і анёл-ахоўнік... Таму ў творчасці мастака і пераважае вобраз Мадонны. Яго Мадонны гавораць на мове Божага святла, якое абдымае кожнага, хто прыходзіць паглядзець на іх. Жанчынам Беларусі і ўсяго свету прысвячае Аляксей Васільевіч свае палотны.

А. Кузьміч займае своеасаблівае месца не толькі ў беларускай культуры, але і ў мастацтве ўсяго свету. Яго творы адметныя: пазнавальныя па манеры пісьма, філасофскім гучанні, акрэсліваюць высокае прадвызначэнне жанчыны-маці. На працягу вось ужо трыццаці гадоў творчасць Аляксея Кузьміча застаецца вернай вечным каштоўнасцям — мацярынству, прыгажосці, дабрыні, гуманізму. Назвы для сваіх работ мастак прыдумвае сам: серыі «Залатыя Мадонны», «Сярэбраныя Мадонны», «У раі», «Ахвярнасць славянскіх Мадоннаў», «ПалескіяМадонны», «Дзяржаўныя Мадонны», а таксама працы «Пяшчота», «Натхненне», «Чысціня», «Мадонна Белай Русі» і іншыя.

Персанальныя выстаўкі Аляксея Кузьміча прайшлі ва ўсіх абласных гарадах Беларусі, а таксама ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Таліне, Генуі, Стакгольме, Нью-Ёрку. Вось і на выстаўцы, якая праходзіла ў ліпені 2010 года ў галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, былі прадстаўлены як ранняя карціны, так і напісаныя нядаўна: «У нябесным ззянні», «Мацярынства», «Мадонна ў смутку», «Чырвоная Мадонна», «Плач Еўфрасінні Полацкай», «Партрэт манахіні», «Пакровы», «Восень», а таксама партрэты «Народны артыст СССР М. І. Яроменка», «Народны артыст Беларусі, рэжысёр Б. І. Луцэнка», «Паэт А. Аўруцін».

Творы мастацтва Аляксея Васільевіча своеасаблівыя не толькі па тэматыцы, але і па колеры. Чорнага на палотнах амаль няма. Гэтак жа як імпрэсіяністы, мастак не карыстаецца цёмнымі фарбамі. Уся колеравая гама стварае адзіны цёпла-заласцісты тон, ад якога зыходзіць нейкі асаблівы, сонечна-касмічны свет. Відаць, невыпадкова А. Кузьміча лічаць святланосным мастаком.

— Пасля Леанарда да Вінчы і Рафаэля Санці тэму мадоннаў амаль ніхто не працягвае, тым больш у славянскім свеце, — гаворыць Аляксей Кузьміч. — Нашаму грамадству сёння як ніколі патрэбна духоўнасць. Сваё творчае прызначэнне я бачу ў працягу традыцый Рэнесансу.

Пафас карцін Аляксея Васільевіча вызначае трыумф духу, ідэі, ахвярнасць у імя славянскага адзінства. Гэтай тэме мастак прысвяціў карціны «Русь святая», «Палаючая Русь», «Нябесная Расія» і інш. Творца не падзяляе нашы народы на беларусаў, украінцаў, рускіх. Для яго існуе паняцце «славяне», а таму «Палаючая Русь» — гэта і Белая Русь.

Аляксей Кузьміч уключаны ў 100-томную нямецкую энцыклапедыю «Мастакі ўсіх часоў і народаў». Пра творцу зняты шэраг фільмаў, свае вершы яму прысвяцілі Андрэй Скарынкін і Леанід Екель, творы мастака знаходзяцца ў шматлікіх музеях свету. Многія пісьменнікі ўпрыгожваюць свае кнігі мадоннамі Кузьміча (Уладзімір Ліпскі да вокладкі сваёй кнігі ўзяў карціну «Мама. Малітва сына»).

Творчую майстэрню Аляксея Васільевіча наведваюць шматлікія госці з розных краін свету. Да прыкладу, члены бельгійскай парламенцкай дэлегацыі былі вельмі ўражаны многімі палотнамі мастака. Яны асобна адзначылі працу «Стварэнне Мадонны» — нараджэнне Мадонны са слязы Госпада Бога, назваўшы яе адной з самых загадкавых і містычных. На палатне адлюстравана адвечная тэма — барацьба сіл дабра і зла, святла і цемры.

Пра сваю мару — адкрыць у Мінску галерэю «Мадоннаў» — мастак гаворыць усім. Пра гэта ўжо два дзесяцігоддзі пішуць у друку, згадваюць на адкрыцці выставак творцы. Аляксей Кузьміч лічыць, што беларуская зямля валодае моцнай духоўнай энергетыкай, але нябачныя сілы да гэтага часу не даюць адкрыць галерэю «Мадоннаў»...

**Галія ФАТЫХАВА**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## *Слова краязнаўцы*



**Мікалай БАСЯНКОЎ, краязнаўца з Добруша, маёр у адстаўцы, распавядае пра свае даследаванні падзей Вялікай Айчыннай вайны:**

— Подзвіг савецкіх воінаў і партызан пакінуў у генетычнай памяці беларусаў глыбокі след. Інакш і быць не можа. Спазнаць гісторыю на прыкладзе Добрушскага раёна, адкрыць невядомыя старонкі, знайсці імёны загінуўшых і ўвекавечыць іх памяць — цяпер для мяне гэта сэнс жыцця. Займацца гістарычнымі даследаваннямі пачаў гадоў з дзесяць таму. Што гэтаму паспрыяла? У 1941-м прызвалі на вайну майго дзядулю, Андрэя Ягоравіча Лапікава. У тым жа годзе ён знік без вестак. Хадзілі чуткі, што загінуў пад Арлом. Мне вельмі хацелася адшукаць яго сляды. Афіцэрам быў мой дзядзька, падпалкоўнік, які прайшоў усю вайну, — яшчэ адзін прыклад служэння Радзіме.

Неяк у гутарцы з ветэранамі пачуў: няўжо ў гэтых месцах была сапраўдная вайна? Чырвоная Армія спачатку адступала, потым наступала. Звесткі пра тое, як вызваляўся наш раён, вельмі скупыя і супярэчлівыя. У той жа час на тутэйшай зямлі засталося шмат воінскіх пахаванняў. А яшчэ я не мог заставацца раўнадушным, калі даведаўся, што праз столькі гадоў многія загінуўшыя застаюцца невядомымі. Прачытаўшы два тамы кнігі «Памяць» Добрушскага раёна, звярнуў увагу на воінскія пахаванні. Параўноўваючы спісы загінуўшых і архіўныя звесткі, змог устанавіць, дзе і якія пахаванні знаходзяцца. Паслядоўна збіраю, аналізую і правяраю інфармацыю па кожным з загінуўшых у Добрушскім раёне. Іншы раз выяўляю недакладныя факты, але, маючы дакументальнае сведчанне, магу сцвярджаць, што ў той ці іншай брацкай магіле пахавана значна больш людзей, чым лічылася. Часта сустракаецца блытаніна, бо раней было шмат аднайменных населеных пунктаў. Да прыкладу, чалавек загінуў у адным месцы, а пазначаны ў іншым. Праблемы становяцца відавочнымі толькі цяпер. Прычым часцяком вінаватыя ў гэтым не столькі «баявыя акалічнасці», колькі пасляваенная кампанія па «узбуйненні пахаванняў», калі «пераносілі» магілы. Пішу ў двухкосі таму, што часам пераносілі толькі імёны, а ўзгоркі проста выраўноўвалі.

З часам стварыў свой сайт, на якім знаёмлю ўсіх жадаючых з ходам і вынікамі пошукавай працы. Падзеі вайны цесна звязваюць мяне з аднадумцамі з суседніх дзяржаў. У Бранскай вобласці існуе грамадскае пошукавае аб'яднанне «Бранскі фронт», якое з'яднала людзей з трох дзяржаў — Расіі, Беларусі і Украіны. Стараюся дапамагчы знайсці хоць якія-небудзь звесткі пра тых, хто пасля вызвалення Браншчыны быў дэмабілізаваны на фронт і загінуў на Гомельшчыне восенню 1943 года. Дарэчы, на сайце ёсць свой форум «Бранцы, загінуўшыя на Гомельшчыне».

Пошукавай дзейнасцю займаюся ў цесным супрацоўніцтве з вайскоўцамі 52-га асобнага пошукавага батальёна Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

## *Цікава ведаць*

# Рарытэты сярэднявечча

**Раіса МАРЧУК**

У Музеі гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка працуе цікавая выстаўка «Вытворчасць і асартымент вырабаў з каляровых металаў у Полацку X — XVII стст.»

Увазе наведвальнікаў прапануюцца некаторыя інструменты і прыстасаванні майстроў-ювеліраў (гліняныя тыглі і каменныя ліцейныя формы, металічныя ювелірныя кавадлачкі, малаточкі невялікіх памераў, матрыца для вырабу дэкаратыўных цвічкоў, чакан, пінцэты). Да ўвагі наведвальнікаў — разнастайныя рэчы з каляровых металаў: рыбалоўныя і шавецкія прылады, элементы аздаблення скураных футляраў, посуд, упрыгажэнні і дэталі адзення, прадметы хрысціянскага культу і пісьменства перыяду X — XVII стст. Дарэчы, існаванне на тэрыторыі горада развітой вытворчасці па апрацоўцы каляровых металаў было абумоўлена вялікай гандлёва-эканамічнай і палітычнай роляй, якую адыгрываў Полацк у жыцці старажытных беларускіх земляў.

Большая частка калекцыі складаецца з рэчаў, якія былі выяўлены падчас археалагічных даследаванняў. Некаторыя экспанаты паступілі з прыватных збораў мясцовых аматараў даўніны.

## *Музейны ўнікат*

# Партызанскі медаль

**Вольга ДАВІДОЎСКАЯ, фота аўтара**




*Самаробны партызанскі значок.*

Для ўдзельнікаў партызанскага руху, якія праявілі мужнасць, стойкасць, храбрасць у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у тыле ворага, савецкім урадам быў зацверджаны медаль «Партызану Айчыннай вайны» I і II ступеней. Гэтую пачэсную ўзнагароду атрымалі каля 130 тысяч чалавек.

Акрамя афіцыйнага медаля ў некаторых партызанскіх фарміраваннях існавалі ўласныя самаробныя ўзнагароды, якімі кіраўніцтва атрада ці брыгады адзначала ваенныя поспехі байцоў. Тры такія ўнікальныя прадметы фалерыстыкі знаходзяцца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Два медалі («За заслугі» і «За храбрасць») былі выраблены для партызан брыгады імя Ракасоўскага, адна ўзнагарода — атрадны значок — створана ў партызанскім атрадзе спецыяльнага прызначэння «Баявы».

Гісторыя атрада пачынаецца з 1941 г., калі Пастановай Дзяржаўнага камітэта абароны сфарміравалі асобную мотастралковую брыгаду спецыяльнага прызначэння войск НКУС СССР. У яе склад увайшлі кадравыя «чэкісты», пагранічнікі, камуністы заходніх дзяржаў, выдатныя спартсмены, студэнты і выкладчыкі маскоўскіх ВНУ, якіх выкарыстоўвалі для забеспячэння бяспекі асабліва важных аб'ектаў і асоб. На базе брыгады таксама рыхтавалі разведвальна-дыверсійныя групы для адпраўкі ў тыл нямецкіх войск на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Фінляндыі, Польшчы, Чэхаславакіі і Югаславіі.

У лютым 1942 г. быў сфарміраваны і перапраўлены праз «Віцебскія вароты» ў тыл ворага спецатрад «Баявы» ў колькасці 42 чалавек. На працягу двух з паловай гадоў партызаны дзейнічалі ў Расонскім, Полацкім, Асвейскім, Ветрынскім раёнах Віцебскай вобласці, Мядзельскім, Докшыцкім, Ашмянскім раёнах Вілейскай вобласці, у паўднёва-ўсходніх раёнах Літоўскай ССР. Да 1944 г. колькасць атрада ўзрасла да 400 чалавек (галоўным чынам за кошт мясцовага насельніцтва). Камандзірам партызан са жніўня 1942 г. быў капітан В. Няклюдаў.

Партызаны атрада «Баявы» добра «турбавалі» ворагаў уздоўж чыгуначнай лініі Полацк — Себеж, правялі шэраг дыверсій на шашэйных і чыгуначных камунікацыях, у выніку якіх было ўзарвана 125 эшалонаў і 25 чыгуначных мастоў, пашкоджана 9560 м чыгуначных пуцей, выведзена шмат ваеннапалонных з лагераў Баравуха 1-я, 2-я і 3-я.

З мэтай адзначыць найбольш выдатныя заслугі байцоў атрада «Баявы», а таксама з нагоды другой гадавіны дзейнасці гэтага партызанскага фарміравання кіраўніцтва атрада зацвердзіла ўласную ўзнагароду — атрадны значок «2 гады ў тыле ворага», які вырабіў у пачатку 1944 г. па ініцыятыве камісара атрада С. Шчатнёва майстар-збройнік Р. Сямёнаў з польскай срэбнай манеты. Узнагарода ўяўляе сабой плоскі дыск круглай формы дыяметрам 3,5 см, з вінтавым мацаваннем, з выгравіраванымі на пярэднім баку пяціканцовай зоркай, сярпом, молатам і надпісам «2 ГОДА В ТЫЛУ ВРАГА ОТРЯД «БОЕВОЙ» 1942 — 44». Паводле ўспамінаў былога начальніка штаба атрада Л. Папкоўскага, які перадаў рарытэт у музей, узнагароджванне адбылося ва ўрачыстай абстаноўцы 13 сакавіка 1944 г. у вёсцы Ліпава Мядзельскага раёна. Пачэсны знак атрымалі пятнаццаць (па іншых звестках — дванаццаць) чалавек, у тым ліку камандзір атрада В. Няклюдаў, парторг С. Шчатнёў, байцы Н. Падшываленка, А. Пракоп'еў, П. Забоцін.

Разам з атрадным знакам выдавалася і ганаровая грамата. У фондах музея захоўваецца копія такога дакумента, выдадзенага П. Забоціну. Тэкст граматы наступны: «Тов. Заботин Павел Федорович, находясь в партизанском отряде специального назначения «Боевой», проявил себя мужественным и дисциплинированным бойцом. За лучшие показатели в <…> стрелковых состязаниях в день 26-летия РККА и годовщины боевой деятельности отряда в тылу врага награждается отрядным значком».

Л. Папкоўскі ўспамінаў таксама, што адзін з атрадных значкоў трапіў да фашыстаў: яны знялі яго з партызана Георгія Садоўскага, які загінуў разам са сваім аддзяленнем у Рудніцкай пушчы ў 1944 г.

Лёс астатніх самаробных партызанскіх узнагарод атрада «Баявы» склаўся па-рознаму: некаторыя значкі былі перададзены былымі партызанамі ў музейныя фонды, некаторыя да сённяшняга часу захоўваюцца ў сямейных архівах як памяць пра мужных і адважных продкаў.

# След у Жупранах

Аграгарадок Жупраны вядомы далёка за межамі Ашмянскага раёна. Слыннасць гэтай вёсцы надало перш за ўсё імя Францішка Багушэвіча — паэта-дэмакрата і мужыцкага адваката. І хаця ў Жупранах ён ніколі не жыў, пра яго памятаюць сцены Петрапаўлаўскага касцёла, фундатарам якога выступіў і Багушэвіч.

**Святлана ШУКЕЛОВІЧ, фота аўтара**




*Помнік Францішку Багушэвічу ў Жупранах.*

У скверы побач з дарогай на Смаргонь усталяваны бюст паэта работы вядомага беларускага скульптара Заіра Азгура. А на мясцовым пагосце, сцяжынка да якога вядзе ўздоўж сквера і касцёла, спачывае народны заступнік. Экскурсанты, што наведваюцца ў Жупраны, ніколі не мінаюць яго магілы. Завітваюць і ў літаратурны музей, створаны ў мясцовай школе, якая носіць імя Францішка Багушэвіча.

Ініцыятар стварэння музея — былы дырэктар Жупранскай школы Міхаіл Іосіфавіч Крайноў, ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Разам з настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Канстанцінам Аляксеевічам Кадыркам у 1960-я гады яны сумесна з вучнямі пачалі збіраць экспанаты. Першыя паступілі з Ашмянскага краязнаўчага музея. Адкрыццё музея адбылося 22 сакавіка 1970 года, у дзень 130-годдзя з дня нараджэння паэта.

Трапляючы ў літаратурны музей Францішка Багушэвіча, нібы пераносішся ў мінулае зямлі ашмянскай. Праз жыццё Асобы спасцігаеш гісторыю, час, эпоху, якая нарадзіла яе. Са старых фотаздымкаў глядзяць выявы Жупран: вось касцёл, старажытны выгляд паселішча, а побач — больш сучасныя здымкі, якія адлюстроўваюць жыццё мястэчка.

Настаўніца роднай мовы Галіна Лукша з 1984 года кіруе літаратурным музеем. Сабрана вялікая колькасць цікавых і ўнікальных экспанатаў. На асобным стэндзе — карта былога Ашмянскага павета, малюнак Язэпа Драздовіча з выявай Жупран. Самымі каштоўнымі экспанатамі Галіна Броніславаўна лічыць фотаздымкі, ксеракопіі матрыкула (атэстата Віленскай губернскай гімназіі пра здольнасці Багушэвіча да паступлення ў Пецярбургскі ўніверсітэт), ксеракопіі нумароў «Нашай нівы» з творамі пісьменніка, кнігі, выдадзеныя ў 1920-я гады.

Цікавасць да асобы беларускага песняра, а значыць, і да яго музея, з цягам часу не змяншаецца. Едуць у Жупраны з вялікіх і малых гарадоў Беларусі. У наведвальнікаў ёсць унікальная магчымасць «прачытаць» радавод сям'і Багушэвіча, падараваны музею Васілём Юршам, ураджэнцам Ашмян, даследчыкам радаводаў беларускай шляхты. Зазірнуць у свет літаратурнай спадчыны Ф. Багушэвіча можна, пазнаёміўшыся з гісторыяй выхаду ў свет «Дудкі беларускай» (1891 год).

Той, хто наведае музей, яшчэ раз зможа пераканацца, што з вышыні больш чым стагадовага шляху, пройдзенага новай беларускай літаратурай ад часу выхаду ў свет твораў Францішка Багушэвіча, яскрава ўсведамляецца: і адзін у полі Воін, калі ты Народны Паэт; і адзін Абаронца, калі ты жыццё і талент ахвяруеш пакрыўджаным і абяздоленым.

# Спадчына роду Ажэшкаў

Магільны склеп роду Ажэшкаў з капліцай у вёсцы Закозель — адзін з самых значных гістарычных помнікаў Драгічынскага раёна. Гэты аб'ект занесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь і ахоўваецца законам. На жаль, дагэтуль не выдзелены сродкі на рэканструкцыю ўнікальнага архітэктурнага помніка сярэдзіны XIX ст. Час не пашкадаваў яго, ды і вандалы прыклалі руку. Цяпер капліца знаходзіцца ў непрывабным, аварыйным стане.

**Сяргей ГРАНІК**

Доўгі час я шукаў тых, хто хоць штосьці мог распавесці пра пахаваных у склепе прадстаўнікоў роду Ажэшкаў. Сярод мясцовых жыхароў такіх не знайшлося. Выпадкова, некалькі гадоў таму, пазнаёміўся з кандыдатам медыцынскіх навук Аляксандрам Зубрыцкім. Якое ж было маё здзіўленне, калі я даведаўся, што Аляксандр Паўлавіч у 1949 годзе падчас вучобы ў Мінскім хіміка-тэхналагічным тэхнікуме харчовай прамысловасці праходзіў практыку на Закозельскім спіртзаводзе.

Зубрыцкі цікавіўся гісторыяй, таму ў вольны час знаёміўся з мясцовымі славутасцямі. Перш за ўсё юнака ўразіў велізарны парк з рэдкімі для Палесся раслінамі, сістэмай сажалак і рвоў, праз якія былі перакінуты ажурныя, адлітыя з чыгуну масткі. Уздоўж дарожак парку тады яшчэ стаялі шматлікія мармуровыя фігуры людзей, звяроў і міфічных істот. На астраўках, сярод сажалак, былі ўсталяваны адмысловыя альтанкі. Усё знаходзілася ў больш-менш дагледжаным стане.

На краі парку месціўся вялікі палац з калонамі, але без даху. Мясцовыя жыхары расказвалі, што ў 1943-м мажная пабудова гарэла. Апошні ўладальнік будынка Кароль Талочка пасля пажару з'ехаў у Польшчу і больш сюды не вяртаўся. Паводле аповедаў вяскоўцаў, гаспадар палаца супрацоўнічаў з партызанамі і шмат тых, хто ў яго працаваў, выратаваў, выкупіўшы з нямецкай турмы ў Драгічыне.

Унікальнай была і пабудаваная разам з палацам цагляная двухпавярховая канюшня англійскага тыпу. Яна добра захавалася да нашага часу.

Самы ўражлівы помнік палацавага ансамбля — капліца, узведзеная ў стылі неаготыкі знакамітым польскім архітэктарам Францішкам Яшчэлдам. У гэтую капліцу дойлід уклаў глыбокі сэнс таго часу і веліч эпохі. У 1949 годзе дзвярэй там ужо не было. Мясцовыя жыхары сцвярджалі, што ёсць рашэнне Пінскага абкама партыі пра стварэнне музея на базе капліцы. Але гэты праект па нейкіх прычынах не ажыццявілі.

Калі Аляксандр Зубрыцкі ўвайшоў у капліцу, то быў уражаны яе ўнутраным убранствам: усюды, ад падлогі да столі, віднеліся гіпсавыя ўзоры, якія месцамі пераходзілі ў выявы раслін і жывёл. У мармуровай падлозе меліся вялікія двухстворкавыя чыгунныя дзверы — уваход у склеп. За імі — металічныя ўзорыстыя ступені. Хаця і страшна было хлапцу спускацца аднаму, але цікаўнасць перамагла. Памяшканне крыху асвятлялася праз бакавыя вузенькія стрэльчатыя вокны з часткова выбітым тоўстым каляровым шклом. Па ўсім было відаць, што пахаванні належалі заможным людзям, але тут ужо «папрацавалі» марадзёры.

Саркафагі, абабітыя тоўстымі лістамі медзі, мелі вялікія памеры. Па іх акантоўцы былі прыкручаны бронзавыя лілеі памерам з запалкавую пушку. Унутры саркафагі мелі ашалёўку з моранага дуба.



Бронзавая лілея.



Магільны склеп роду Ажэшкаў з капліцай.

На кантавых паверхнях размяшчаліся выразныя надпісы бронзавымі літарамі на польскай мове. Адзін з іх сведчыў: «Кашталян маршалек сойма Ажэшка...»

Асабліва вылучаліся тры саркафагі, змешчаныя як бы асобна. Стаялі яны ў адзін рад. Надпісы на польскай і французскай мовах: «Генерал ад інфантэрыі, генерал ад кавалерыі, генерал ад артылерыі». І даты нараджэння гэтых людзей: 1757 г., 1760 г., 1763 г. Дата смерці ва ўсіх аднолькавая — 1813 год (мабыць, гэта генералы французскага войска з корпуса Юзафа Панятоўскага, якія ваявалі на баку Напалеона. Загінулі яны хутчэй за ўсё падчас бітвы пры Лейпцыгу).

Дапытлівы юнак спрабаваў хоць штосьці даведацца ў вяскоўцаў пра гісторыю капліцы, але людзі пазбягалі гутарак на гэтую тэму. Толькі адна жанчына распавяла, што пахаванне было разрабавана пасля 1939 года мясцовымі жыхарамі. Побач з капліцай усё яшчэ знаходзілася маленькая каплічка з крыжам наверсе і вялікім распяццем, а на ёй — надпіс на польскай мове: «Нікадзіму Ажэшку і ўсім палеглым у лясах. 1863 — 1864 гг.». Сёння і ад гэтага помніка не засталося і следу, хаця на малюнку Напалеона Орды ён ёсць.

Некалькі гадоў таму група студэнтаў з Брэсцкага педагагічнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна на чале з выкладчыкам Аляксандрам Бажко чысціла склеп і выявіла чалавечыя косткі, фрагменты слуцкага пояса і іншыя прадметы, якія належалі нябожчыкам. Праз некаторы час рэшткі нябожчыкаў перазахавалі на старых могілках ля ўсыпальніцы, а рэчы перадалі ў Брэсцкі абласны краязнаўчы музей.

Думаю, што з цягам часу, працуючы ў архівах, можна будзе даведацца пра тых, хто знайшоў апошні прытулак на закозельскай зямлі. А Аляксандру Зубрыцкаму засталася на памяць пра ўбачанае і перажытае ў далёкім 1949-м бронзавая лілея.

# Марская вахта паэтаў

За час існавання савецкага ваенна-марскога флоту больш як 200 тысяч беларусаў атрымалі марскую загартоўку. Сярод гэтай слаўнай кагорты асаблівае месца займаюць паэты, якія зрабілі прыкметны ўнёсак у развіццё паэтычнай марыністыкі.

**Мікалай БОЙКА**

У прадстаўленні на ўзнагароджанне чырванафлотца Дзмітрыя Кавалёва, сакратара рэдакцыі газеты «Баявы курс» Чырванасцяжнай брыгады падводных лодак, запісана: «Праявіў сябе як здольны журналіст, таленавіты паэт, вершы якога шырока вядомыя на флоце і друкаваліся ў цэнтральнай прэсе». Маючы заданне ад камандавання брыгады вывучыць і асвятліць на старонках друку жыццё і баявую службу падводнікаў, Кавалёў удзельнічаў у баявым паходзе на падводнай лодцы С-51. За праяўленую мужнасць атрымаў медаль «За адвагу». Узнагародны ліст быў падпісаны камандзірам Чырванасцяжнай брыгады, легендарным падводнікам Іванам Колышкіным 9 мая 1944 года. Да Вялікай Перамогі заставалася роўна год.

Хто ён, гэты адважны паэт? Дзмітрый Кавалёў нарадзіўся ў шматдзетнай сям'і каваля ў 1915 г. у мястэчку Ветка. Скончыўшы тры класы, як старэйшы сын стаў дапамагаць бацьку ў кузні. Потым разам з ім працаваў і ў калгаснай кузні. Пазней — у Гомельскіх суднарамонтных майстэрнях. Самастойна падрыхтаваўся і здаў экзамены на вячэрні рабфак. Скончыўшы яго, паступіў на завочнае аддзяленне Ленінградскага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Гомельскай вобласці.

Перад Вялікай Айчыннай вайной Кавалёва прызвалі на Паўночны флот. Быў стралком марской пяхоты, падводнікам, працаваў у франтавой газеце. Тут ён напісаў першую кнігу вершаў «Далёкія берагі», якая ў 1947 годзе ўбачыла свет у Мінску.

Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе прыехаў у беларускую сталіцу, пачаў супрацоўнічаць з рознымі выданнямі і цалкам прысвяціў сябе паэзіі. У гэты перыяд ён працуе без выхадных і свят. «Люблю рабіць дзесяць спраў адразу», — казаў ён. У 1957 годзе пасля заканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў быў запрошаны загадваць рэдакцыяй прозы і паэзіі ў маскоўскім выдавецтве «Молодая гвардия». Пасля вёў творчы семінар у Літаратурным інстытуце. Аддаваў шмат сіл і часу працы з маладымі творцамі. З «паэтычнымі дэсантамі» пабываў у многіх рэгіёнах Савецкага Саюза.

Знаёмячыся з творамі Дзмітрыя Кавалёва, нельга не заўважыць шматграннасць яго таленту. Тут і асаблівае стаўленне да прыроды, і ўспаміны пра родныя мясціны, дзе прайшло дзяцінства. Яго творчасць не пазбаўлена філасофскага напаўнення, жадання адказаць на глабальныя пытанні чалавечага быцця.

Асаблівае месца займае тэма вайны. Пры гэтым адчуваецца боль аўтара за гібель баявых таварышаў. У кастрычніку 1943 года пры выкананні баявой задачы загінуў экіпаж падводнай лодкі М-174. Сярод тых, хто не вярнуўся на бераг, — сябар Кавалёва, гвардыі старшына 2-га артыкула Васіль Абліцоў. Дзмітрый прысвяціў яму верш.

Апошні прыжыццёвы зборнік вершаў паэта «Мора, мора» пабачыў свет у 1976 годзе ў Мурманску. Творца пакінуў больш як два дзясяткі кніг, шмат перакладаў, у асноўным беларускай паэзіі і прозы, крытычныя артыкулы.

5 сакавіка 1977 года Дзмітрый Кавалёў пайшоў з жыцця. Пахаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве, непадалёк ад магілы Сяргея Ясеніна, творчасцю якога ён так захапляўся. У горадзе Ветка імем Дзмітрыя Кавалёва названа вуліца. У Веткаўскай раённай бібліятэцы і літаратурна-мемарыяльным музеі імя Мікалая Асеева ў г. Льгоў Курскай вобласці (Расія) ёсць экспазіцыі, прысвечаныя творчасці паэта.

*Родны кут*

# Традыцыямі моцная…

Урачыста, гожа і каларытна адзначыла прыгожую юбілейную дату — 500-годдзе свайго існавання — вёска Балоты Кобрынскага раёна.

**Ніна ДРЫК**

Паселішча вядома сваімі рамёствамі і песнямі. Нездарма кажуць, што вёска моцная традыцыямі і самабытнасцю. Разумеюць гэта не толькі старажылы, але і моладзь. І ткаць тут умеюць, і вышываць, і кузубы-карабы плесці з лазы. Культурны пласт, замацаваны стагоддзямі, беражліва збіраецца і з любоўю захоўваецца.

Упершыню Балоты ўпамінаюцца ў 1513 годзе, калі вёска была перададзена Кобрынскаму касцёлу. У 1882 годзе паводле праекта інжынера Ф. Афанасьева тут узвялі Свята-Параскева-Пятніцкую царкву — помнік драўлянага дойлідства з рысамі класічнага стылю. Гісторыка-культурную каштоўнасць мае млын, пабудаваны ў 1931 годзе.

Візітная картка вёскі — хор, які з 1994 года носіць званне народнага. Гэты калектыў — лаўрэат 2-га тура І Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці. Узнагароджаны дыпломам саюза кампазітараў за прапаганду народнай песні. Неаднаразова беларускае тэлебачанне і радыё запісвалі выступленне хору для радыёперадач «Спадчына», «Радавод».

У межах свята ладзіліся выстаўкі пасцілак, дываноў, вышыванак, пухнатых падушак, вырабаў з саломкі. Багатая спадчына і культура балоцкіх мясцін не адпускала гасцей і жыхароў вёскі, яшчэ раз сцвярджаючы простую ісціну: цудоўнае — побач! Пераклічка вуліц адгукалася шматгалосем, бо з'ехаліся на свята любай вёскі вялікія сем'і з сябрамі і знаёмымі.

Іван Будзько, старшыня Кісялявецкага сельвыканкама, уручыў падарункі ветэранам вайны — Васілю Дземідзюку, Рыгору Гарбаруку, Аляксею Сакалюку. Не абышлі ўвагай старажылаў, чые гады раўняюцца з векам, — Агаф'ю Бойка, Аляксандру Салей, Агаф'ю Ігнацюк, а таксама шматдзетныя сем'і Мікалая і Вольгі Бойка, Сяргея і Святланы Левых, Валянціны і Васіля Панасюкоў.

Слаўная вёска сваімі жыхарамі. Сярод іх — настаўнікі Ніна Мартынюк, Любоў Мацына, Андрэй Сцепанюк, Галіна Дрык, Таццяна Турын, якія волею лёсу апынуліся на гэтай зямлі і трывалымі каранямі зачапіліся за тутэйшую глебу. Яны не толькі вучылі і выхоўвалі пакаленні вясковай дзятвы — для ўсіх былі сябрамі і дарадцамі!

# Піжонскі почырк Нікаса Сафронава

Выстаўка твораў вядомага расійскага мастака Нікаса Сафронава адкрылася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. 75 работ мастака размясціліся ў трох выставачных залах цэнтральнай часткі палаца Румянцавых і Паскевічаў. Большасць з іх — партрэты вядомых людзей, а таксама краявіды, якія раскрываюць майстра як чалавека, які тонка адчувае прыроду, умее перадаць зачараванне і каларыт захаванага моманту.

**Таццяна ШЫМУК**

Нікаса Сафронава называюць адным з самых модных і вядомых расійскіх жывапісцаў нашага часу. Біяграфічны цэнтр Кембрыджа прысудзіў яму ганаровае званне «Жывая легенда». Калекцыянерамі набыта больш як дзевяць сотэнь яго палотнаў. Сярод уладальнікаў — Ала Пугачова, Сафі Ларэн, Ален Дэлон, Жан-Поль Бельмандо, П'ер Кардэн, Даяна Рос, Мансэрат Кабалье, Мадонна, Міхаіл Гарбачоў, Мікіта Міхалкоў. Нікас Сафронаў стварыў партрэты прэзідэнтаў Расіі Уладзіміра Пуціна, Дзмітрыя Мядзведзева, прэзідэнтаў ЗША, Турцыі, Азербайджана, Туркменіі, Украіны, каралёў Іспаніі, Іарданіі, Брунея. Дыяпазон творчасці мастака вельмі шырокі. Гэта іканапіс, кубізм, сімвалізм і псіхалагічныя партрэты. Многія яго творы будуюцца на глыбокіх метафарах і ўласцівай толькі гэтаму аўтару сістэме знакаў.



*Нікас Сафронаў «Сон пра Венецыю».*

Ёсць нешта па-добраму піжонскае і ў саміх працах Нікаса Сафронава, і ў тым, як ён іх падпісвае, — *S. Nikas*. Арт-дырэктар студыі мастака Руфат Ахметаў, які прыбыў у Гомель, каб дапамагчы музейным работнікам размясціць карціны, на просьбу ахарактарызаваць маэстра адным словам, не задумваючыся, адказаў: «Вялікі».

Асаблівасць любога партрэта мастака не ў гламурных або «гламурных» малюнках медыя-персон, а ва ўнутранай сутнасці, якую Нікас Сафронаў памайстэрску адлюстроўвае, працуючы з любой вядомай мадэллю. Руфат Ахметаў заўважыў, што мастак не проста аддае перавагу таму, каб пісаць сваіх персанажаў «ужывую», — для яго падчас працы істотнымі з'яўляюцца размова і зносіны, з дапамогай якіх чалавек раскрываецца і дапускае партрэтыста ў «святая святых» — уласную душу.

У партрэтах сангінай (крэйдай для малявання), размешчаных у першай з залаў, Нікас Сафронаў аддае даніну традыцыям і класічнаму малюнку. У другой зале глядач трапляе ў свет вытанчанай маляўнічай фантазіі. Чаго толькі вартая серыя партрэтаў, на якіх мужчыны паўстаюць у выглядзе сабак, а жанчыны намаляваныя коткамі. Зрэшты, кожны тыпаж цалкам вядомы, і часам неабавязкова глядзець на шыльду пад карцінай, каб зразумець: тут намаляваны алігарх, а тут — рамантычная паненка або свецкая львіца. Нямала месца аддадзена постацям знакамітасцей, аднак іх партрэты выкананы ўжо ў «фірмовай» манеры Нікаса Сафронава — нароўні з людзьмі тут працуюць сюррэалістычныя сюжэты і пейзажы.

— Ён ўвесь час у творчым пошуку новых тэхнік, кожны раз адкрывае для сябе нешта новае, — зазначыў арт-дырэктар студыі мастака. — У шматлікіх работах Нікас перасякаецца з Далі. Напрыклад, часам піша карціну, потым у апошні момант дадае які-небудзь шарык. Навошта? Нейкая містычная дэталь надае працы разыначку!



*Нікас Сафронаў «Джоні Дэп».*

У Сафронава свой погляд на рэчы. Пасуюць карцінам і назвы — «Бясконцая гісторыя», «Чалавек маніпулюе часам», «У пошуках сэнсу жыцця ў пустыні думак», «Таямнічая з'ява недалёка ад радавога замка» і інш.

Работы мастака ўжо экспанаваліся ў Віцебску (1996 і 2006 гады). Цяперашняя экспазіцыя, у якой шмат новых работ, першапачаткова наведала Брэст. Выстаўка ў палацы Румянцавых і Паскевічаў будзе даступная наведвальнікам да 8 верасня, пасля чаго адправіцца ў Гродна і Мінск.

# Сотня выбітных палотнаў

Выстаўка «Залаты фонд Беларускага саюза мастакоў-II» працуе ў мінскім Палацы мастацтва. Увазе публікі прадстаўленыя 105 палотнаў сапраўдных легенд беларускага жывапісу другой паловы мінулага стагоддзя.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ, фота аўтара**

Наведвальнікам прапанаваны работы аўтараў, якія актыўна працавалі над творамі мастацтва ў рамках сацыялістычнага рэалізму. Гэты структурны пласт, не прыняты раней, сёння запатрабаваны часам, гледачом, а таксама мастаком-прафесіяналам, які павінен арыентавацца на найважнейшыя падзеі беларускай культуры таго часу. Многія палотны экспазіцыі паказаны ўпершыню, ёсць і тыя, што ўбачылі свет толькі другі раз у жыцці: не выстаўляліся пасля таго, як былі купленыя экспертным саветам з вернісажу.

Саюз мастакоў пачаў збіраць калекцыю літаральна адразу пасля свайго заснавання. Народны мастак Беларусі Гаўрыіл Вашчанка амаль паўстагоддзя таму знаходзіўся ля вытокаў фондавага руху, быў у сакратарыяце. Пасля стольких гадоў яго работы зноў на топавай выстаўцы.

Леанід Хобатаў, намеснік старшыні па выставачнай дзейнасці Беларускага саюза мастакоў, адзначае: «У нас вялізная колькасць работ. Цэлая філасофская кніга пра Беларусь, пра беларускае мастацтва, пра менталітэт, пра колер і форму! На ўсе пытанні жыцця тут можна знайсці адказы».

Антон Бархаткоў, Гаўрыіл Вашчанка, Аляксандр Кішчанка, Леанід Шчамялёў і многія іншыя. Узровень адразу кідаецца ў вочы. Цяпер такіх манументальных палотнаў амаль няма: мастакі больш прытрымліваюцца інтэр'ерных межаў, думаюць пра магчымага пакупніка. Нягледзячы на тое, што лета лічыцца «несезонам» для наведвання экспазіцыйных залаў, такое немагчыма прапусціць.

Час мяняецца, а жывапіс застаецца назаўсёды. Таму што мастак нараджаецца, каб прадоўжыць сваё фізічнае жыццё ў духоўных фрагментах таго, што ён робіць.

— Вялікая падзяка і нізкі паклон тым аўтарам, якія стварылі гэтыя найцудоўнейшыя творы. Мы імкнёмся не перарываць лінію ўзаемаадносін пакаленняў. Калі будзе і далей выяўляцца цікавасць адносна нашых запаснікаў, сапраўднай беларускай культуры, то выстаўкі будуць арганізоўвацца не толькі ў Мінску, але і ў абласных гарадах. Чаму мы павінны іх абдзяляць? У нас захоўваюцца найвыдатнейшыя калекцыі жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Працаваць ёсць над чым — гэтую традыцыю мы павінны працягваць і як мага часцей сустракацца з выдатным мастацтвам на нашай зямлі, — лічыць старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч.

Фондавыя запаснікі ў тысячы палотнаў на гэтым не вычэрпваюцца. Беларускі саюз мастакоў рыхтуе наведвальнікаў да працягу рэтраспектывы ў новым сезоне.



*Гаўрыіл Вашчанка і Уладзімір Савіч разглядаюць карціну Леаніда Асядоўскага «Народныя мастакі Беларусі».*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2584
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.07.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2947
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686